# ЗАКЛІК

ШТОМЕСЯЧНЫ
ЛІТАРАТУРНА-
МАСТАЦКІ
ЧАСОПІС
АРГАНІЗАЦЫЙНАГА
КАМІТЭТУ
САЮЗУ
САВЕЦКІХ
ПІСЬМЕНЬНІКАЎ
БССР

КНІГА 1
1933

*Да пяцідзесяцігодзьдзя з дню нараджэньня*



НАРОДНЫ ПАЭТ РЭСПУБЛІКІ ЯКУБ КОЛАС

ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЕЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ЗАКЛІК

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТУ САЮЗУ САВЕЦКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ БССР

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР А. АЛЕКСАНДРОВІЧ
РЭДКАЛЕГІЯ: АЛЕКСАНДРОВІЧ, БЭНДЭ, ГЛЕБКА, КОБЕЦ, ЛЯХАЎ

1

1933

Гісторыя чалавецтва ня ведае такога пафосу гаспадарчага будаўніцтва, сапраўднага захапленьня гераізму, якія праявілі і праяўляюць перадавыя рабочыя і калгасьнікі нашай краіны.

Воляй мільёнаў ударнікаў сацыялістычнага будаўніцтва, пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі, перамагаючы супраціўленьне клясавага ворага і яго агентуры—правых і „левых“ апартуністаў—дасягнуты вялізарнейшыя гістарычныя посьпехі,—

у барацьбе заператварэньне былой аграрна-адсталай краіны—у краіну магутную, перадавую, выцясьняючы да канца капіталістычныя элемэнты;

у барацьбе за стварэньне індустрыі для тэхнічнага пераўзбраеньня ня толькі прамысловасьці, але і сельскай гаспадаркі;

у барацьбе за стварэньне ўмоў для максымальнага росту абароназдольнасьці нашае краіны.

Першая бальшавіцкая пяцігодка бальшавіцкімі намаганьнямі выканана за чатыры гады.

На апошнім аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б) тав. Сталін у сваём дакладзе, з уласьцівай яму ленінскай прасякнутасьцю, даў вычарпальны аналіз гераічных перамог.

Даклад тав. Сталіна,—найвялікшы дакумант нашае эпохі — зьяўляецца выдатнейшым узорам прыстасаваньня марксысцка-ленінскай дыялектыкі да ўмоў сучасься і разгортвае перад міжнародным рабочым рухам новыя доказы, што — „капіталістычная сыстэма гаспадаркі нягрунтоўная і ня моцная, што яна аджывае свой век і павінна уступіць свае месца другой, вышэйшай, савецкай сацыялістычнай сыстэме гаспадаркі, што адзіная сыстэма гаспадаркі, якая не баіцца крызісаў і здольна перамагчы цяжкасьці, якія не вырашальны для капіталізму,—гэта савецкая сыстэма гаспадаркі“.

За гады першай пяцігодкі, няўхільна праводзячы ленінскую палітыку партыі, на базе гіганцкага росту сацыялістычнай эканомікі,—шырока разгарнуўся фронт культурнай рэвалюцыі, квітнее пралетарская культура ўсіх народаў Савецкага саюзу.

Клясавыя ворагі імкнуцца скіраваць наша нацыянальна-культурнае будаўніцтва з сацыялістычных асноў на буржуазныя рэйкі разьвіцьця. Прыкрываючыся фальшывым нацыянальным сьцягам, старанна выконваючы ролю агентуры разгромленага кулацтва, контррэвалюцыйнымі махінацыямі скарыстоўваюць усе сродкі ідэялёгічнага шкодніцтва, каб толькі разброіць бальшавіцкі поступ наперад. культуры працоўных савецкай краіны.

Няпрыкрытую спробу рэвізаваць генэральную лінію партыі ў галіне літаратуры мы бачым на старонках часопісу „Беларусь Калгасная“ у артыкулах Сідарэнкі і Пеначкіна. З паклёпам на савецкую рачаіснасьць мы стыкаемся на старонках того-ж часопісу ў „мемуарах“ Нікановіча.

Прасякнуты атрутай буржуазнага нацыяналізму абразок С. Баранавых „Матчын сын“ сьведчыць аб тым, што пісьменьнік папаў пад варожы пралетарыяту ўплыў. Ня гледзячы на тое, што ўся беларуская савецкая літаратурная грамадзкасьць правільна ацаніла паяўленьне абразку „Матчын сын“, як клясава-варожую вылазку, С. Баранавых яшчэ і дагэтуль ня выступіў і не заявіў: ці згодзен ён з ацэнкай дадзенай савецкай грамадзкасьцю, ці застаецца носьбітам фальшывага нацыянальнага сьцягу?

Клясавая арганізаванасьць, чуласьць і пільнасьць, далейшая творчая актывізацыя і бязьлітасная, скрышальная барацьба з ворагамі усіх масьцей, непарушнасьць генэральнай лініі партыі—вось за што павінны змагацца ўсе сілы літаратурнага фронту БССР. Разьбіць ушчэнт гнілыя лібэральныя адносіны да клясава-варожых вылазак, не даваць шкодным элемэнтам скарыстоўваць старонкі нашых часопісаў, як гэта зрабіла рэдкалегія часопісу „Беларусь Калгасная“, з няпрымірымасьцю выступаць і разьбіваць развагі і пeратолкі пра заняпад беларускай савецкай літаратуры. Гэтыя „тэарэтычныя талкаваньні“ зьяўляюцца новай формай новага наступу клясавых ворагаў супроць сапраўднага росту савецкай паэзіі, прозы і драматургіі.

Беларускі Савецкі літаратурны рух, пасьля гістарычнай пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, пра перабудову мастацкіх арганізацый, шырока разгортваецца, уцягваючы ў свае рады таленавітыя сілы—ударнікаў сацыялістычнага будаўніцтва.

Беларуская савецкая літаратура вышла на ленінскі шлях свайго разьвіцьця, зьяўляючыся вострай зброяй у руках рабочае клясы. Беларуская савецкая літаратура змагаецца за шырокае выкарыстоўваньне і крытычную перапрацоўку ўсіх каштоўнасьцяй сусьветнае культуры, рашуча парывае з перажыткамі правінцыяльнай абмежаванасьці, за цеснае брагэрскае супрацоўніцтва з працоўнымі масамі ўсіх нацыянальнасьцяй СССР, за стварэньне новых культурных каштоўнасьцяй, вартых нашай вялікай эпохі.

Часопіс „Заклік“ пачынаючы выходзіць у першы год другое пяцігодкі, будзе змагацца за высокую якасьць мастацкай творчасьці на аснове мэтаду сацыялістычнага рэалізму, за далейшае разгортваньне пралетарскага літаратурнага руху, за чыстату пралетарскай ідэялёгіі на ўсім фронце будаўніцтва сацыялізму.

Часопіс „Заклік“, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, з бальшавіцкай няпрымірымасьцю будзе разьбіваць усялякія вылазкі як носьбітаў вялікадзяржаўнага шавінізму гэтак і мясцовага буржуазнага нацыяналізму.

*МІХАСЬ ЧАРОТ*

# МЫ ЗАКЛІКАЕМ

Краіна росквіту,
І славы і геройства.
Ґады бягуць
У творчым захапленьні...
У новы сьвет
Заўжды наш сьмелы поступ,—
Шлях асьвятліў
Паходняй праўды Ленін!

Гляджу наўкол:
Хвалюе сэрца радасьць,
Пачуцьцяў гэтулькі,
Што й выказаць каму мне?
Дык вось чаму
Істоты ўсёй адданасьць,—
Хутчэй прыйсьці
Да сьветлае камуны.

У барацьбе
Аружжа мы ня зложым,
Адна у нас
Існуе зброя й сродкі,—
Таму цяпер
Ўступаем пераможна
У першы год
Другое пяцігодкі.

Трымай і ты,
сусьветны пралетары,
Адзіны фронт
З рэспублікай Саветаў.
Мы зьнішчым ворага
Магутнейшым ударам:
Рабочых армія
І армія паэтаў.

Ў хвалях жыцьця
Варожы стан зьнікае,
Бо йдзе ня здань,
А волат камунізму...
Паэты-песьняры!
Стварыць мы заклікаем
вялікае мастацтва
бальшавізму!

*МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ*

# ТАЛІСМАН

І як яно ўсё так хутка здарылася? І так непрадбачана... І так сурова, несправядліва...

Хіба для таго каб акунуцца ў звычайную балотную твань, трэба было ляцець праз акіян, ляцець тысячы вёрст над краінамі і гарадамі? Зьліць думкі і цела сваё з галасістым перазвонам матора, і адкідаючы гудзеньне, віхры, дзёрзкія налёты вятроў прынікаць настарожаным вухам да ледзь чутнага рыпеньня крыльляў, да посьвістаў трапяткіх элеронаў і напятых як струны тросаў стырна?

...Свабоднай рукой выцер лётнік Джо твар ад бруду, ад наліпшых камякоў пахучае балотнае твані, паспрабаваў паварушыцца ў сваім мокрым і мяккім логаве. І чуваць было, як пералівалася ў нагах грузкая гразь, булькацела дзесьці блізка, блізка, вада, чорная, мутная, вось пад самым плячом—калі скасавурыш вока, убачыш. Ды ходарам захадзіла зямля пад пругкай нагой. На хвіліну прыціх, каб адпачыць, каб сабрацца з думкамі, з сіламі. Соладка ныла цела, абрываліся думкі, ляцелі яны карагодам нястройным, дзе ніяк не разьбярэш ні канца ні пачатку. Аб усім. А аб чым-ня было ахвоты сабіраць іх, лавіць, дабіраць да парадку.

Прыжмураныя вочы лавілі рэдкія празрыстыя воблачкі, якія бязуважліва імчаліся кудысьці ў блакітныя бездані і хаваліся от там, за трапяткой палахлівай ліствой асін. І здавалася, ня воблачкі ляцяць, а натужліва імчыць зямля, падмятаючы верхавінамі асін глыбокае неба. Аж гнуліся гэтыя трапяткія асіны, абганяючы ў віратлівым разьбезе белыя воблакі, падмятаючы іх, разрываючы на празрыстыя пасмы і кудзеркі. І здавалася яшчэ: от от адарвешся ад зямлі і паляціш кудысьці ў страшэнную і разам з тым захапляючую сінюю бездань. Тады кружыла галаў, туманіла вочы.

Сабраўшы апошнія сілы, прыўзьняўся лётнік, падцягнуўся рукой да цёплай, сонцам угрэтай купіны, наважыўся сесьці. І калі крануўся з мейсца, калючы боль працяў плячо, зялёныя і агнявыя кругі паплылі прад вачыма, і—зьнясілены, зьнямо-

жаны—уткнуўся шчакой у цёплы сівец купіны, нязграбна абняўшы яе аднэй рукой. І толькі асіны шамацелі трапяткою ліствой, сумнай і палахлівай, як ціхая музыка сноў. Пад гэтую музыку спаў ня спаў чалавек, трызьніў—ня трызьніў.

Той, што бруднай шчакой утнуўся ў цёплы, сонцам угрэты, сівец.

І нібы сьніў, нібы бачыў...

...Вялікае поле аэрадрому. Прыземістыя карпусы ангараў. Праз адчыненыя дзьверы пабліскваюць цьмяна лякіраваныя цені крыльляў, наласкаваная медзь пропэльлераў. І цёпла, утульна—брэзэнтавыя накрыўкі кабін і матораў. Стракатыя сьцягі палошчуцца ў ранішнім бляску сонца і на гэтых сьцягах нязьлічоныя зоры. Амэрыканскія. І як сонца—высокі настрой. Як сонцава цяплынь абыймае сэрца радасьць, бязьмежная, цякучая, як павадак той, берагамі нястрыманая. Чаму?

...Нібы сьніў, нібы бачыў...

...Паволі імчыць машына і мякка сьцеляцца травы пад яе прагныя, як вусны шыны. Стаіць машына. Сам містэр Брэдлей—паветраны кароль, галава ўсяе кампаніі—сядзіць у машыне і важкае цела яго мягка ўліпла ў скураныя падушкі. Ля містэра Брэдлея заклапочаны інжынэр. Канешне, чаму-ж яму не клапаціцца, калі не пашыраецца сьвет і ня хочуць выходзіць машыны з ангараў.

Чуў аб гэтым Джо, але дужа ня думаў аб гэтым. Куды цікавей завоблачныя вышыні ад усякіх крызісаў і самы празаічны піруэт, самы паганенькі штопар бліжэй да сэрца, чым гэтыя нудныя словы аб проспэрыці, аб нябачаных пэрспэктывах. Няхай думаюць аб гэтым сацыялістыя, якія ня ведаюць нічога, акрамя вышынь сваіх дубовых трыбун. Ёсьць яшчэ для гэтага і Белы Дом, ёсьць прэзыдэнт, ёсьць міністры...

...Лётніку-ж люба купацца пад воблакамі. Лётніку Джо люба ўглядацца ў тысячы розных партрэтаў. Сваіх. Рознастайных. Усё той-жа нос, усё тыя-ж вочы і гэтыя сьмешныя надзьмутыя шчокі... Славуты лётнік... Рэкорды... На мяжы перамогі... Адпачывае... У кабіне... На зямлі... У ангары... Лётнік едзе на шпацыр... Лётнік едзе маліцца... Улюбены рэстаран.. Лётнік і яго сябры... Лётнік, лётнік, лётнік... Лётнік Джо.

Славутасьць прыемна. І тым больш, калі інжынэрава дачка—гэтая маленькая, маленькая і такая-ж чарнявая—так загадкава ўсьміхнулася пры апошняй сустрэчы і больш звычайнага затрымала свае пальцы ў яго шырокай і нязграбнай руцэ. І больш ветлівы стаў інжынэр. Быў ён заўсёды строгім, надзьмутым і яго адносіны з лётнікамі былі абмежаваны сухімі, як урыўкі кароткіх загадаў, прывітаньнямі. Цяпер-жа, сказаўшы Джо аб плянах містэра Брэдлея і з хвіліну памаўчаўшы, ён нібы замяшаўся крыху—такім бачыў яго Джо ўпяршыню—і неўласьцівым яму ўрачыстым тонам дадаў:

— Вы маеце шчасьлівыя рукі... Вы—здольны чалавек. Вы—дзелавы чалавек. Чаму-ж нам у выпадку чаго ня стаць прыяцелямі. І нават больш... Гэта я гавару і ад свайго імя і прымеце пад увагу, містэр Джо, ад імя маёй дачкі.

І яшчэ цішэй:

— Так... Галоўнае, памятайце: Кампанія заўсёды шанавала і шануе шчасьлівых людзей. Вы мяне разумееце. Бывайце-ж... Да рэчы—вазьмеце з сабой што-небудзь цёплае... А на ногі... на ногі раю ўзяць хаця-б панчохі з вярблюжага пуху... Ну... зычу шчасьця і, галоўнае, удачы...

Плян містэра Брэдлея быў па сутнасьці звычайным—зрабіць кругасьветны палёт у найкарацейшы час і з найменшымі стратамі. Уся справа была ў матары—новым, нядаўна спраектаваным, толькі, толькі сабраным і пастаўленым на звычайны самалёт, на якім колькі то разоў часаў у паветры Джо. Каб не матор, было-б усё добра. Ляцець хоць да чорта, бо такі ўжо прызвычаены самалёт, што на ім з зажмуранымі вачмі можна патрапіць на любы старт любога аэрапорта. Аднак, нанесьлі-ж чэрці гэты матор, які не пасьпелі яшчэ як сьлед аблятаць, з якім кажучы шчыра, ня так ужо і асвойтаўся Джо. І не здарма, сабіраючы самалёт у дарогу, агрызаўся Джо са сваім борт-мэханікам Вільлі, лаяўся і, відаць па ўсяму, быў яўна ня ў гумары.

— Вечна гэтыя канструктары... Сядзіць каторы, штаны працірае... Выдумае чорт, а ты за яго работу канчай, на сьпіне сваёй правярай яго памылкі. От сеў-бы каторы ды сам...

Мэханік Вільлі ня любіў гаварыць лішняга. Мэханік Вільлі меў за звычай маўчаць і, сапучы ў свае рудыя, падрэзаныя вусы, марудна калупаўся ля матора, ля бліскучых тросаў, каля жылаватых вузлоў бэнзынавых трубак, маслаправодаў. Магчыма прывык ён маўчаць таму, што на партрэтах—там, дзе быў ён з Джо—яго мейсца было не на пярэднім пляне, а часам пад стараннай рукой газэтнага працаўніка абрысы яго твару расплываліся нязграбнаю плямай—ценьню ад славы, адвагі, ад пышнай рэклямы. Чужой славы, чужой адвагі, чужой рэклямы. І Вільлі ня крыўдзіўся. Як ні-як—ён-жа просты борт-мэханік. Але ён часта лятаў з славутым Джо і ў пэўныя хвіліны быў за панібрата, за прыяцеля, за ахоўніка прафэсійных тайн, паветраных сакрэтаў. І ў такія хвіліны, як скажам цяпер—мог і сам агрызнуцца. Асабліва тады, калі лётнік Джо рабіўся на старую бабу—залішне мяньціў языком. І Вільлі шоў тады ў контратаку:

— Ты ўсёж-ткі дурань... Ты хочаш стары матор... Каму-ж ён цікавы твой стары матор... Кампаніі? Ей, думаеш, патрэбна, каб ты лятаў на гэтай старой чарапасе тысячы вёрст і псаваў бэнзынай паветра? Для таго хіба, каб цябе ўсьцешыць? І трэба-ж мець такую галаву, каб не разумець гэтай простай справы. Тут пад носам гіне сьвет, тут звальняюць рабочых, тут патрэбна

жыгучка-сэнсацыя, каб новыя маторы паланілі амэрыканскае паветра. Ды й не адно амэрыканскае... І трэба-ж мець розум...

— Ну, гэта кінь, даволі...

Нельга-ж слухаць усё славутаму лётніку. Падумаеш—гіне сьвет... Падумаеш—звальняюць... Яшчэ загаворыць пра крызіс...

Лётнік Джо не рамантык. Але-ж на крызісы ёсьць спэцы, ёсьць вялікія бізнэсманы... Урэшце ёсьць і сацыялістыя на проспэрыці... Ёсьць пакрытыя пылам трыбуны. Шмат чаго ёсьць... Урэшце сам містэр Брэдлей—няхай думае аб усім, што ня цікава, чаго ня варта і ведаць яму, лётніку Джо.

Так, ён не рамантык. Самыя звычайныя ў яго жаданьні - мець у бліжэйшым будучым сям'ю—колькі то новых партрэтаў—газэты, журналы... Ды сямейны, свой, уласны біплан, і ў ім утульныя, мініятурныя кабінкі з мяккімі крэслямі-парашутамі... Самалёт і віллу над морам... І там, дзе пясок, дзе мокрая, пеністая жарства—малюсенькія адціснутыя сьляды... То маленькі Джо... А мо' маленькая Джэньні... Ці ня ўсё роўна...

... І самалёт. Ляцець туды, куды хочаш. Ня туды, куды загадае містэр Брэдлей. У вольным паветры мець свае вольныя шляхі і аб іх клапаціцца самому. Ня містэру Брэдлею, ва ўсякім разе.

Але пры чым-жа тут містэр Брэдлей?

... Сінія змрокі ахінаюць паветра і ляціць яно насустрач халоднае, калючае, празрыстае. Яму няма канца, няма краю.

Сінія змрокі ідуць навалай.

Холадна лётніку.

*

Нэрвовымі рыўкамі папраўляла яна валасы, якія непакорнымі пасмамі выбіваліся з-пад зялёнай юнгштурмаўскай шапкі і ігралі на сонцы сваёй мяккасьцю, цяплынёю, дзявочасьцю.

Гаварыла.

І словы былі такімі яснымі, такімі зразумелымі па сваёй прастаце і звычайнасьці. Гаварыла пра камсамольца, падбірала словы, часам сьпяшалася, торапка бягучы ўсьлед за думкай, сьпяшаючыся, праглынала каторае слова, і, падбіраючы лепшае, спынялася на хвіліну, хмурыла лоб. І тады танюсенькія маршчынкі лажыліся на белы лоб, а дзяўчыніны вочы глядзелі паверх галоў, спыняліся на міг на далёкіх пярэхмарках, нібы просячы, каб яны—чыстыя, белыя, лёгкія як пушынкі—дапамаглі-б ёй сказаць: лепш, прыгажэй, урачысьцей. І ўсе спачувана сачылі за дзяўчынінымі вачыма, лавілі ў іх няясную сьветлую трывогу, і калі праходзіла гэтая трывога—каб лепш, прыгажэй, урачысьцей,—калі гэтыя вочы прамяніліся спакойным блакітам—тады ўсе ўздыхалі лягчэй, і адна думка радасна аблятала ўсіх:

— Харашо сказала... Няхай-жа ёй будзе ўдача.

А яна гаварыла. Аб ім, аб „Камсамольцы“, што стаяў тут-жа побач, стройны, падцягнуты, уквечаны палявымі цьвятамі, росными ў сваёй ранішняй сьвежасьці і пахучасьці.

— Бярыце-ж яго... Няхай ён будзе верным ваякай за нашы фабрыкі і заводы. За наша жыцьцё... Мы здаем яго ў вашы рукі... у нашы рукі... надзейныя рукі...

Перакатвалася цераз поле „ура“—бурлівае, шматгалосае, маладое. І, калі апошнія раскаты яго зьліліся з сівай імглой, расплыліся ў ёй трапяткімі пагалоскамі, затахціла сэрца ў Сяргея Мядзьведзькі ды па самыя кончыкі вушэй разьлілася здрадніца—чырвань. Ня ў першы раз выступаць Сяргею, ня ў дзіковінку прамовы казаць. Але дай-жа ты рады...

Мо' таму, што юнгштурм і агністыя пасмы, мо' таму, што над сонцам так зырка прамянялі дзявочыя вочы.

Мо' таму, што братва, свая камсамолія, шэфы і такі жа дзень урачысты, сьвятошны—затахціла сэрца ў камсамольца Сяргея, у Мядзьведзькі-ударніка. От от вылеціць, паляціць ня стрымаеш. І ледзь ступаў, марудна ўзьбіраючыся на імправізаваную трыбуну грузавіка. Падганялі словы: „хутчэй-жа ты, бач, чакаюць...“

Нецярпліва адмахваўся ледзь заўважаным рухам рукі: „Не чапайце, моў, адкасьнецеся...“ І як скрозь сон далятаці нечыя словы:

— З адказам выступае ўдарнік эскадрыльлі—лётнік Мядзьведзька!

„От жа-ж трэба ўсё гэта—ударнік, ударнік...“—мітусілася незадаваленьне. Але было яно дзесьці глыбока. Другія думкі захапілі ў палон, і, выпрастаўшы плечы, глядзеў Сяргей перад сабой уніз, дзе стаялі лётнікі, матарысты, тэхнікі, дзе стаялі яны: камсамольскія шэфы—зялёнае мора юнгштурму. І сярод гэтага мора ён—„Камсамолец“, новенькі баявы самалёт. Толькі блеск матору і мядзяныя паліскі пропэльлеру хаваліся яшчэ пад накрыўкамі, цупкімі, лубянымі, ня выцьвіўшымі пад вятрамі і сонцам.

— Таварышы,—і ўспомнілася свая даўнішняя братва, вясёлая фабрычная камсамолія, якая выправіла яго на камсамольскі вайскова-навучальны пункт. Дзе ён, Мядзьведзька, праходзіў першыя прамудрасьці авіяцыі, разьбіраў „юпіцеры“, чысьціў цыліндры, хадзіў козырам, калі ўпяршыню зрабіў удалую прыцірку кляпанаў... Даводзілася, канешне, і бідоны вазіць з рыцынаю, усяго бывала... І толькі-ж тры гады з таго часу, як у школу потым патрапіў... І от ужо й лётнік...

— Таварышы! Вам, камсамоліі, ад эскадрыльлі нашай баявое „дзякуй“... За слаўны ваш падарунак... Дзевяты зьезд камсамолу прыняў шэфства над паветраным флётам, і вы на справе—сваім падарункам—паказалі, што вы слаўныя шэфы. Але-ж гэтага мала...

А ў думках: „як-жа суха, трэба-ж неяк цяплей...“

Унізу маўчалі. Цікавалі дзяўчаты, ды каторыя хлопцы свае хітравата падміргвалі: „крый, моў, чаго там, слова таго не шкадуй, ды ня зьбіўся каб, не пашоў-бы на вымушаную пасадку... Без аварый, глядзі...“

— Так, гэтага мала... Давайце-ж нам, у нашы брыгады і эскадрыльлі паболей саміх камсамольцаў... Ды каб лётнікамі добрымі стаць—вывучайце раней самалёт, вывучайце матор, нашу тэхніку... А мы... Я... Таварышы і браткі... Я сам камсамолец... І я даю вам камсамольскае слова... Баявое камсамольскае слова, што кожны наш самалёт і ваш—ды й наш—„Камсамолец“ у тым ліку будзем берагчы ўсім жыцьцём сваім... Каб у патрэбную хвіліну, калі вораг...

Наваліліся воплескі грамавою навалай. Пад самыя воблакі шуганула музыка.

Сяргей Мядзьведзька ўспацеў, задыхаўся, нязграбна ціснуў руку той, што з агністымі пасмамі. З торапу захапіў аж па локаць і так пацісьнуў, што войкнула дзеўчына і маленькія, маленькія зморшчынкі мільганулі веерам па твары—ад болю, ды вочы самкнуліся на міг, надламіліся, апалі бровы. Толькі на міг. Бо ў чырвані сьвежай расплыліся і зьнікнулі зморшчынкі, і на мейсцы іх неўзаметку ўсплыла яна—шырокая, цёплая, таварыскі-спагадлівая ўсьмешка. Ды такая-ж дзявочая...

А там перамірґваліся хлопцы. Шапталіся гады—„от, зайздрошчы, паўрукі аж адцяпаў... Ну й Мядзьведзька.“

І хацелася праваліцца скрозь зямлю. Баяўся глянуць ёй у вочы—вось возьме ды й засьмяе. „Трэба ж гэта: ударнік, ударнік... Чорт вас—мяне ўсюды падсунуць...“ І разам з гэтым захлынала радасьць, уздымала высока, высока, аж галаў кружыла і хмяліла сэрца нявымоўным, чаруючым.

Так-жа хараша ўсё пад сонцам. І жыцьцё, і братва, і блакітныя вочы дзяўчат. Як блакітныя тыя пятліцы. Не, ня хараша так, то-ж сукно... А расьніцы як паліскі ад пропэльлеру—дзе сонца, дзе сінь крышталёвая, дзе далёкае, недасяжнае неба. І пад сонцам гараць самалёты, бліскавіцамі паласуюць паветра. І чым неба сіней, ды цямней тыя хмары—тым зырчэй гараць зоры на крыльлях. Чырвоныя зоры...

— Хадзем хіба, нешта ты як разьмяк...—нехта тузаў за руку, цягнуў уніз, з сваіх.

— Бачыш, усе падаліся. Да клюбу.—А добра ўсё-ж ты сказануў... Не падгадзіў... Глядзі-ж, не набей толькі гуза...—спускаліся з грузавіка, падлазілі пад парэнжынку агарожы.

І на колькі хвілін—усплыў гузак, у дзяцінстве... Калісь з печы упаў,—і адразу вялікай валбукай сеў гуз ды на самы на лоб. Аж на вока налёг, прыцісь. І плачу таго больш валбукі. Ды бацькаў кухталь—гэтак-жа любячы—паддаў жару, аж бацька вушы потым аберуч у рукі—„ну й голас—сьвярдзёлак.“

— Няйначай лётнікам будзеш, чаго-ж румзаць...

І сьцішыўшы раптам плач, сур'ёзна ўжо да бацькі:

— Ты-б вось сам гэта з печкі... сігануў бы от... А біцца—паглядзім як скажуць піянэры...

— Уга, калі так, дык мір!

Шурпатая ў бацькі далонь і цёплая—шыю мякка казыча. Бацька бярэ шырокі нож, бліскучы, халодны. Ім маці хлеб штодня кроіць, наразае тоўстымі скібкамі. Нож шырокі, халодны. І прыкладзены да гуза так прыемна сьцішае боль, сунімае яго, працінае дрыготкай Сяргунькіны ногі да самых тых шлэптунаў-пятак.

Шурпатая ў бацькі далонь. Чырвоны гузак. Тоўстыя парэпаныя пальцы з нажом, заўсёды чорныя, зашмальцаваныя—не адмыеш іх мылам. Ад іх пахне крышку мазутай—часам боты ёй бацька глянцуе, заўсёгдашнія, што ў будзень. І такі-ж халадок ад нажа...

Мо' таму і ўзьнеслая радасьць робіцца ціхай, спакойнай, такой звычайнай і ачалавечанай. І ўсё жыцьцё: з сэрцам тым лётніцкім—камянюкаю, зямля пад чэрвеньскім сонцам і сонца, што на расьніцах дзявочых,—ўсё жыцьцё такое-ж цёплае, шурпатае, як шырокая бацькава далонь. Ня чыё-небудзь, а наша жыцьцё. І дзесьці ў непазнаных глыбінях вырастае, шырыцца, захапляе ўсяго войстрая, як крэмень думка: „хіба-ж дрогне наша рука, пальцы нашы... калі трэба за горла... нож у сэрца таму, хто пойдзе на шурпатую далонь...“ І як камень—сьцятыя сківіцы і набраклыя, скутыя ў кулакі, пальцы.

... Быў вечар у клюбе, вясёлыя гульні з камсамольцамі—шэфамі, якія перадалі эскадрыльльлі свой падарунак—баявы самалёт. Былі яны ўсе такія-ж звычайныя хлопцы, дзяўчаты—мітусьлівая камсамолія. Нават тая, што з агністымі пасмамі. Цяпер бяз сонца, без сьвятошнай прамовы—калі грэх, здаецца, было дакрануцца тады да гэтага сонечнага пораху—была яна гарэзнай весялухай, з звычайным такім задзірлівым носам і нават з сьмешнай такой плямінкаю-рубчыкам. Ля самага вуха. Падглядзіў. І не пачырванеў.

Зьнікла тая ўрачыстая нацягненасьць, калі ён, Сяргей, павінен быў выступаць ад усёй эскадрыльльлі. Гэта-ж такая нязвычайная адказнасьць, такая-ж важнецкая справа, калі ад усяе эскадрыльльлі... Ды 'шчэ ўдарнікам... І ўжо дзяўчаты звалі Сяргея такім блізкім, сваім—Сяргунькай... Свой між сваіх. Гаварыў, сьмяяўся, расказваў дзівосныя штукі, як скакаў з парашутам. Як брытвай той абразала сьмех, жахаліся дзяўчаты, бляднелі, ды ня вытрымае каторая, за галаву хопіцца: „а ма-а-м...“ Ды й хлопцы баяліся прапусьціць слова. У каторага і сэрца зьвяне ад жаху, але-ж ганарліва пазіралі на дзяўчат: „Эх, вы, лапатухі, от нам дык усё ні па чым... І мы зможам, вот у лётнікі падамося...“

Нехта ўзяўся за скокі. „Даволі табе дзяўчат пужаць, Сяргей.“ Скокі дык скокі. І скакалі, не шкадуючы ног. Аж гузік адарваўся ў гімнасьцёрцы, калі зачапіўся Сяргей за вугал. Пакаціўся гузік, дзынкнуў, падскочыў здраднікам на падлозе. „Вось яшчэ не

хапала". Няёмка крыху, ня зусім яно, каб да парадку. Ї тая, што з агністымі пасмамі—тады пад сонцам—ціха й ветліва: „Сяргей, ня турбуйся, мы гэта самі... вобмігам..," Блиснула іголка—скуль толькі яна ўзялася.

Спрытныя пальцы заказыталі ля шыі, нахілялі голаў, кідаючы позіркі—воч тых, што праменілі блакітам тады, над усімі, у якіх была тая сьветлая трывога—каб лепш, прыгажэй, урачысьцей. Зусім, зусім блізенька гэтыя вочы.

— А мы, Сяргунька, швейніцы ўсе... Вя-я-лікая фабрыка... Ї хлопцы нашы—швейнікі... Вось прышыю да самага цела... Ня прышыю, дык укалю... Але-ж нельга, казалі старыя, на жывым прышываць...

Ї ў вачох хітрынка — іскрыцца, пераліваецца агенчыкамі тымі калючымі, дурасьлівымі, дзявочымі—дай ты ім веры...

А сама перакусвае нітку, прыхілілася блізка, блізка, сьветлыя валасы казычуць шчаку цяплынёй, шаўкавістаю мяккасьцю.

Скасавурыў вока Сяргей. Нязручна нейк. Шыю выгнуў, каб ямчэй ёй, спрытней. Ды думка тая—ну што-ж, няхай калупаецца там, даўжэй-бы... Дужа-ж дзяўчына такая сьветлая, ясная... От бы жонку такую...

І скуль толькі ўзяўся, днявальны на вуха:

— Таварыш Мядзьведзька, загадана вам адразу-ж да дзяжурнага эскадрыльлі...

Ахалодаў крыху, нібы сьцяўся трохі. „Ї што там за ліха?" Але падцягнуўся адразу, прызвычаеным рухам рукі прашоўся па поясу, па гімнасьцёрцы. У парадку каб усё.

Торапка пацінуў руку дзяўчыны, зьдзіўленай, нібы крыху пакрыўджанай. Стаяла. Стаяла, выцягнуўшы руку з распасьцёртай іголкай, нібы от ня кончыла нейкай справы, пільнай, руплівай. Ды камечыла вуснамі адкусаны кавалачак ніткі.

— Куды-ж гэта ты? Як-жа так?

Былі ў голасе тым войстрыя ільдзінкі крыўды, дакору. Зразумеў.

— Выбачай... Гэта-ж я на службу... Выклікаюць зараз.

— Ага... а я, дурніца, падумала... Аж сьмешна цяпер мне стала...

— Ну, дык бывай... Памятай... Так-жа хараша, дзень такі слаўны быў...

Разьвітаўся яшчэ раз і пашоў. Ня сьмеў азірнуцца назад: як яна там, сонешная, блізкая, далёкая... Трошкі цяжкімі здаваліся чабаты, нібы прыклейваліся падэшвы да шурпатай падлогі. Ды роіліся думкі, спакойныя, цёплыя. „Колькі то дзівоснага на зямлі, сьвятлістага..."

А праз якіх дзесяць хвілін імчаўся Сяргей на аварыйным грузавіку. Тут-жа было некалькі тэхнікаў, матарыстаў. Адзаду пялася не адстаць „санітарка". І, мо' таму, што ў цемені ночы нейкую асаблівую злавеснасьць набывалі водблескі чырвоных крыжоў „санітаркі"—людзі былі маўклівымі і абменьваліся

скупымі словамі: аб кураве, аб вільготным тумане, аб нязручнай балотнай дарозе. І кожны старанна абмінаў адну думку аб іх: як яны там? І як гэта з імі—амэрыканцамі—здарылася?

А цемень ночы праглынала машыны. І відаць было здалёк, як бягуць адзін за адным два слупкі сьвету, нахіляючыся да зямлі бледнаватымі залатымі снапамі. І чым далей, тым менш і цьмяней, покуль зусім не схаваліся за далёкім нябачным пагоркам.

Ехалі ратаваць людзей.

*

Чырвоныя касьнікі ляглі на асіны, і колькі хвілін пералівалася зыркае трапяткое полымя. І ні дыму, ні іскраў. Ды густа сінела неба, аблямаванае па краёх празрыстым бледным зяленівам.

То заходзіла сонца. Зябкія цені паплылі ад асін. Пахаладала. Толькі пад рукой хавала сваю цяплынь пухнатая купіна. Рука-ж была цяжкай, нягнутай. хіліла ўніз плячо, было боляча да яе дакрануцца. Лётнік Джо і не заўважыў, калі сабраліся гэтыя людзі. Чужыя, нязвыклыя. Гоман галасоў быў зусім незнаёмы і таму далятаў ён нечым дзівосным, няведамым, як нейкая стракатая фантастыка. Страшэнная слабасьць адчувалася ў целе і гэтая слабасьць прывяла ў сябе, прымусіла паварушыцца.

— Жывы,—ускрыкнулі людзі і колькі галоў нахілілася над ім, над Джо.

І тут успомніў... Ляціць зямля ў віратлівым разьбезе. Верхавінамі дрэў абганяе далёкія воблакі... І вот, вот адарвешся, паляціш у сінія змрокі, у марозную бездань.

Не, ня тое...

І разам сьцялася сэрца, здрыганулася... І, здаецца, адчуў, як варухнуліся валасы на галаве, сьцянулася да болю скура пад імі, нібы ад дотыку чагосьці войстрага, калюча-марознага... Вось, вось, адзін толькі момант... Ён устае, наплывае, магутны, зыркі, непераможны ў сваіх, нібы колерных гуках, нібы гучных фарбах. То ляцела насустрач зямля, шалёна выпуклялася сваёй шурпатай шчакой. Нібы клікала для пацалункаў. Клікала няўмольна, прагна... І калі віхарам пранесьліся пад самымі нагамі жудасныя ў сваёй натуральнасьці верхавіны дрэў, тады крыкнуў нема, голасам не сваім, а зьвярыным:

— Вільлі, сьмерць...

І абрэзаўшы пальцы аб непадаткія папругі—адрываў іх з мясам—скочыў туды, насустрач шалёнаму віхру. Былі зажмураныя вочы і колькі хвілін была гэтая нязгаслая бліскавіца. У ваччу... Калі абарвалася, згасла—невядома...

— Дык вось яно што...—сказаў ціха.

— Гаворыць, толькі не па наскаму.—І людзі—гэтая стракатая фантастыка—завіхнуліся яшчэ болей, асьцярожна ўзялі пад рукі, перанесьлі на бліжэйшы пагорак. Палажылі на цёплы кажух.

Бегалі, мітусіліся, відаць, раіліся. Разлажылі цяпло—роіліся стаў буном над ім іскры, далятаді да нахмураных галін. У водблісках цяпла відаць было трапяткое лісьце асін—яно шамацела цяперціха і ўтульна. Прыемная цяплынь разьлілася па целу. І людзі—от дзівакі—„аба мне, аб чужому"—паставілі малако, пахучы хлеб. Калі пад'еў, вярнуліся сілы, наважыўся ўстаць. Падтрымалі. І беражна павялі. Туды, бо ведалі-ж самі. Там ляжала яно, нязграбнае, раскіданае, у бляшнявых адсьветах калючага скарабачанага мэталю. Побач ляжала перабітае, сугорбленае крыло, другое павісла бяспомачна ў паветры і ўцалелым краем сваім нагадвала гастрыё нажа, павернутага ўверх, пад навіслыя туманы. Ды сьпераздзі—дзе быў матор—тырчэлі чорныя, аголеныя рабрыны.

— Т-а-ак... здорава...—і кінуў нібы бязуважлівым вокам уперад, дзе прачырыўшы чорную баразну глыбока закапаўся ў зямлю матор.

— Ня вытрымаў, адарваўся... Але што-ж з ім?—мільганула запытаньнем думка.—Як ён, Вільлі?

Падышоў бліжэй. Водбліск запалкі шугануў палахліва і зьнік прагна праглынуты ноччу. Яшчэ больш сьцямнела. Нехта паслужліва прынёс ліхтар, вялікі, закураны, з замурзаным і пабітым шклом. Унутры зыбалася полымя сьвечкі і кідала празрыстыя водсьветы на людзей, на зямлю, на гастрыё крыла. Кідаліся ліхаманкава цені—даўгія, вуглаватыя. Яны скакалі па дрэвах, сігалі па зямлі і як чорныя здані праціналі пасмы тумаоў.

І вось яна, другая кабінка, дзе ён, дзе Вільлі. Пакамечаныя барты паблісквалі лякіраванай скурай—ад іх пахла разам і ўтульнасьцю і вятрамі—халоднымі, сухімі, заклікаючымі. У кабінцы віднелася чорная, скурчаная постаць. Вільлі сядзеў і, прынікшы лбом да халоднае мядзянае арматуры, нібы разважаў аб чымсьці ў глыбокай задуме. І толькі надломлены закрут рук парушаў гэты спакой, поўную чорнага смутку задуму. Адна ўхапілася за край кабінкі, другая заблыталася на грудзёх, учапіўшыся танклявымі пальцамі за наплечныя папругі. І цяжка было адняць рукі, вызваліць ад папруг застыглыя, акамянелыя пальцы. І калі водбліскі ліхтара прашліся па нахіленаму твару і на адзін, адзін толькі міг спыніліся на цёмным віхлястым цурку—ад запалага выгіну роту па шчацэ, за скураны каўнер—тады схамянуўся неяк лётнік Джо і нібы страсянуўся. Нібы стала ўсё ясным адразу, зразумелым, акрэсьленым.

— Та-а-к... Гэта-ж, Вільлі, канец, сапраўдны...

І яшчэ:

— Не пасьпеў мусіць выскачыць, вызваліцца ад павучыньня папруг. Мо' я вінаваты, я-ж вёў самалёт, не пасьпеў папярэдзіць... А калі-б і выскачыў? Што з таго? І ў чым урэшце справа, хто-ж тут вінаваты?

Лёгкім подыхам ветру задула сьвячу ў ліхтары і распасьцёрлася ноч—глухая, чорная, задумённая. Зрэдку месік прабіваўся

праз хмары, пасьцілаўся па зямлі скупымі шэрымі плямамі. І пад яго халоднаю шэраньню рабілася яшчэ глушэй, сумней. Лётнік думаў. А мо' і ня думаў. Цяжка было вылавіць іх, гэтыя думкі. І толькі тады абудзіў іх, калі машынальна палез па гадзіньнік і выняў яго з кішэні.

Нібы срэбная луска пасыпалася тады. На чорны рукаў, пад месікам.

— Патрушчана ўсё... Нават стрэлкі няма...

На ланцужку гадзіньніка вісеў срэбны арол—з шырока рaськінутымі крыльлямі. І на крыльлях залатыя літары слоў. Значок авіяклубу. Але не на гэтыя літары слоў глядзеў у задуменьні лётнік. Хударлявыя пальцы перабіралі малюсенькі кавалачак дроту—пакрэмзаны, іржавы, з няроўна абрэзанымі краямі. Кавалачак дроту быў моцна прыпаяны да ланцужка, побач з срэбным арлом, побач з залатым мігценьнем літараў. І ў думках у лётніка мільганула маланкай:

— Сёмая сьмерць! А ўдача?

Ніхто ня ведаў мовы яго. Таму і маўчалі людзі, пазіраючы з боку, прыглядаючыся да яго сугорбленай постаці. А калі-б і ведалі гэтую мову, не зразумелі-б слоў—урыўкаў нейкіх думак вядомых яму аднаму.

Прыкрую цемень ночы, яе настарожаную цішыню—людзі шанавалі спакой памёрлага—абудзілі машыны: грузавік, „санітарка". Людзі з пятліцамі завіхаліся ля скарабачаных рэштак самалёту, адкапалі матор, асьцярожна вынулі Вільлі і перанесьлі ў „санітарку". І па срэбных пропэльлерах на пятліцах пазнаў лётнік Джо, зразумеў, што свае. Па паветры. Па ім. Большага ён ня мог дазнацца, ня меў сілы разабрацца ва ўсім, у гэтых людзях, што прывезьлі ў лес гаманлівы рух, жыцьцё, спрытны размах у рабоце. Прывёзшы збаўленьне яму, дапамогу, яму, чужому. І неяк надламіўся лётнік. Дзе падзелася роўнавага, той ганарлівы спакой, з якім сустракаў ён бяду і няўдачу. Жалкі, утароплены кідаўся ён дапамагаць, паслужліва мітусіўся між імі. І яго пасадзілі на грузавік поплеч з шофэрам, завязалі абвіслую руку ў лубкі, забаранілі рухацца. Гастрые крыла высілася ўжо над бартамі грузавіка. Пад крылом выпіналася чорнымі рагалінамі награмаджаная куча мэталю.

...Сяргей Мядзьведзька гаварыў з старшынёй сельсавету.

— Гэта добра, што варту паставілі... І галоўнае, што далі знаць...

...Стракатая фантастыка ночы шарэла і твары людзей набывалі будзёнашны выгляд, наліваліся жывымі фарбамі дню.

Разьвідняла.

Натужліва гудзеў грузавік, коўзаючыся па склізкіх выбоінах. Ехалі назад. Лёгка бегла ўсьлед „санітарка".

На яе не глядзелі, ня любілі глядзець.

*

Вечарэла.

Ад сонешнага ўгрэву стаяла ў палатках густая духмень і мала было ахвотнікаў парыцца ў ёй, аблівацца потам. Не ратавалі і паднятыя рагі палатак. Вецер сьціх і ўгрэтае за дзень паветра, напоенае густымі пахамі хвоі, навісла шызаватай смугой, у якой блеклі яркія фарбы, сьціраліся вострыя рысы, гублялі сваю выразную акрэсьленасьць далёкія дрэвы, будынкі. Мутнела і млявела сонца.

Стомленыя днём і работай адпачывалі лётнікі. Плёскаліся на рэчцы, пазашываліся ў цянькі ляшчыньніку і разгалістых ёлак, шамацелі газэтамі на муражнай палянцы, у фанэрнай цяністасьці ленкутка. Ды каторыя, не зважаючы ні на ўтому, ні на сонца адважна рэзаліся ў доміно, і адчайны стук касьцяшак рваў паветра, рэзаў застаяўшуюся цішыню лінеяк.

— Я вот табе падталісманю...

Гаварылі аб амэрыканцах. Перадавалі газэтную хроніку аб іх, няўдаках, дзяліліся сваімі ўласнымі ўражаньнямі.

— Канешне, шкада чалавека... Ляцеў, ляцеў, акіян пераляцеў, усю буржуазію, можна сказаць, абляцеў і на табе.. Да Масквы не дапяў—колькі там, гадзіны са тры, з чатыры—і сеў, называецца, прысандаліўся... Нашы балаты ўпадобаў...

— І сядзеш.—аўтарытэтна паддаў камандзір Мядзьведзькіна зьвяна стары лётнік Мамуша. Звалі яго між сваіх „нашай мамачкай“. Мо' за цёплае рабаціньне твару, якое рабіла Мамушыну ўсьмешку нейкай асабліва ветлай, утульнай, хатняй. Мо' за звычай яго абзываць усіх сынкамі. Мо' таму, што з мацярынскай руплівасьцю сачыў за хлопцамі, за іх самалётамі. На „мамачку“ ня крыўдзіліся, на Мамушу раўняліся ў рабоце, у спрыце, у паважлівых адносінах да людзей.

— І сядзеш, кажу...—паўтарыў Мамуша і так стукнуў косткамі, што Сяргеева калена, на якім ляжала дошка ад доміно, засьвярбела, зачасалася ад болю.

— А калена пры чым? І чаму сядзеш?

— А таму, што так вылятаць—гэта выпраўляць людзей на гібель. Ні добрае карты, нічога з таго, што можа спатрэбіцца ў дарозе, запаснай нават часткі ніводнай... Я не кажу ўжо, што нават коўдры якой звычайнай і той ня было. Калі ня ўбіўся, дык ляскай зубамі. Ён-жа чуць не астыг, каб не заўважылі сяляне, не дапамаглі... Ну, затое амэрыканскі сьцяг... Ён табе і компас і карта на тысячы вёрстаў. У-у... сволачы... Шкада от хіба бортмэханіка, як ніяк—душа мазалёвая...

— А ты, мамачка, пра талісман...

— Што талісман.. Канешне, нам сьмешна. Начапіў бразголку, ды ,шчэ выхваляецца. Маўчаў-бы дурань... Калі пахавалі мы гэтага борт-мэханіка, адвялі з Сяргеем—даручылі нам—лётніка ў гасьціньніцу. Дні са два ён прабудзе тут, покуль трохі

акрыяе рука. А ў гасьцініьніцы ўсё ўверх дном, увесь нумар абшныпараны. І хто-б, вы думалі? Замежныя журналісты праведалі, і калі тыя пачуткі пашлі? Наляцелі як крумкачы, і калі толькі патрапілі з-за мяжы. І пакуль мы хавалі няшчаснага гэтага лятуна, яны, убіўшыся ў нумар, перарылі ўсё барахлішка, сёе-тое папёрлі. Сорам сказаць, лётнікавы панчохі і тыя спляжылі... Як-жа, сэнсацыя... Шукалі цікавых дробязяй, паху крыві шукалі... Скарабачаны портцыгар борт-мэханіка туды-ж паехаў... Як-жа, талісман, шчасьце—забітага лётніка рэч... І што вы думаеце, увесь самалёт папёрлі-б, калі-б толькі дапусьціў іх. Праўда, лётнік таксама хітрая птаха. Як толькі прывезьлі мы яго з Сяргеем на грузавіку, дык адразу на станцыю ды хуценька сьпешным багажом і адаслаў магор, за мяжу, кур'ерскім...

— Каму тое барахло патрэбна?

— Дзівак ты, не разумееш. Дужа гэта, скажам, кампаніі авіяцыйнай цікава выдаваць сакрэты свае няўдачы. Уся-ж загвоздка ў маторы, яго-ж і спрабавалі. Тут, брат, доляр долярам паганяе і на доляры едзе. І ні сьмерць, ні кроў—ўсё ні па чым. Вунь і пахваляўся гэты лётнік, калі разгаварыліся мы з ім у гасьціньніцы. Усё цікавіўся значком курсаў парашутных, што ў Сяргея.

— А я вот,—кажа,—выдатнейшым талісманам валодаю, шэсьць людзей, шэсьць сьмярцей і апошняя—сёмая...

— Бразголка тая ў яго, што на гадзіньнікавым ланцужку—кавалачак тросу ад самалёту. Сутыкнуўся самалёт у паветры з другім. Ну, канешне, у друзачкі, і людзі там... Шэсьць чалавек... „Шанцуе,—кажа,—з таго часу... Колькі прызоў адных узяў, праз акіян тры разы...“

— І на балоце ў лапаць сеў...—дадаў нехта з хлопцаў, і ўсе засьмяяліся. Але сьмех той быў не ад душы. Не хапала яму цяплыні, размаху, маладой, агнявой узьнесласьці. Сьмех абарваўся, зьвяў. Былі кіслыя твары.

— Кінь ты, мамачка, пра талісманы... За-а-нудная штука, паскудная штука... У сьмерці другіх шукаць сваё шчасьце... Аж слухаць брыдка...

— А хто кажа?

— Вот песьню хіба?

— А хто супроць песьні? Між іншым, Сяргунька, ты заўтра паляціш на „Камсамольцы“. У тваёй машыны матор на разбор. А „Камсамольца“ у строй увялі, ха-а-рошая машына. Табе і лятаць на ім. Так і загадана па атраду. Не дарма-ж ты і шэфаў вітаў.

— Ну, што-ж...—замяўся Сяргей і дапытліва з-пад ілба паглядзеў на другіх. І не памыліўся.

— Ага! Во-о-т яно што... Цяпер, зараза, ня ўтоіш... Вітаем... І дзяўчына, я вам скажу... А 'шчэ маўчыць, ірад...

— Ды адчапецеся, назолы.

І адмахваўся так, абы, для прыліку.

*

Самалёт—як вялікая залатая пчала.

Павіс у паветры...

Нясьцерпны бляск сонца—на крыльлях, на маторы, на мядзянай арматуры кабінкі. Зьверху халодная і глыбокая сінь, бяз плямінкі, бяз хмурынкі. Яна распасьцёрлася ў першабытнай красе, агорнутая суровай і недасяжнай урачыстасьцю. І праніззаная сонечным пылам—гарыць мешанінаю фарбаў: золатам, сінявой, дыша вячыстым спакоем.

А ўнізу—грамазьдзяцца белыя горы—высокія, крутабокія. Іграюць вадаспады хмар, вырастаюць, хмурацца воблакі, таюць, растайваюць, зноў узьнікаюць вялічэзнымі клубамі.

Нясьцерпны блеск сьлепіць вока, як сьнегавое поле ў зыркі сонечны дзень, у марозны.

І ты—залатая пчала...

Здаецца, ні кроку з месца.

Ляціш, не ляціш... Зямля далёка... Толькі роўны, спакойны гуд матора не абманвае, кажа аб імклівым палёце.

Сяргею не ўпяршыню такія палёты. Пяць тысяч мэтраў вышыні—толькі лішнія клопаты—цягаць з сабой фэтравыя боты, парыцца там, на зямлі—да ўзьлёту—у зімовым комбінэзоне. Але тут усё да мейсца: і комбінэзоны, і боты і тоўстыя панчохі. І хоць нязручна, няёмка ў зімовым адзеньні, але, здаецца, яшчэ-б што-небудзь нацёг, бо так-жа калюча шчыпле вецер, хапае марозам за шчокі, прабіраецца за каўнер. Але-ж некалі прыслухацца да гэтага, трэба весьці машыну.

Вялікая вышыня дае ўсё-ж знаць аб сабе: часам гудзе ў вушшу, пачынае вадзіць, зьлёгку кружыцца галава. І ўвесь ты напружаны, сьціслы, адчуваючы гэтае пяцітысячнае прадоньне.

Шлі зьвяном па маршруту.

Наперадзе пабліскваў самалёт камандзіра. Зьлева далятаў прыглушаны гуд трэцяй машыны. Не адставалі, не адрываліся.

Ямчэй прыладзіўшыся на сядзеньні, спакойна сузіраў Сяргей прывычную арктыку завоблачнага неба, ня спускаў воч з камандзірскага самалёта. Мімаволі лезьлі ў думкі апошнія дні: амэрыканцы, іх дзікі, талісманны лёс, ноч, калі ратавалі... Прамільгнула маравам— цёплым, прывабным—яна... Нібы мяккі шоўк валасоў дакрануўся шчакі... На міг, на адзіны, бо такі ж калючы вецер, трэба церці заўзята нос, каб ня зьмёрз, не астыг. Ды камандзірскі самалёт падаваў сыгнал, каманду. Пільна ўглядаўся ў яго Сяргей, каб не прапусьціць, не прамазаць.

Унізу ўздыбілася высачэзная гара і ўзьнеслася сваёй вострай шапкай пад самыя крыльлі. Растопленым срэбрам зьзялі яе крутыя воблачныя адхоны і сьнегавы пыл струменіў, здаецца, па іх, пераліваўся, цярушыўся зыркімі марознымі іскрамі.

І дурасьлівая думка на міг: шугануць от уніз на самалёце і як на тым ледзяшу прамерзлым—так было ў дзяцінстве—шалёна

пранесьціся па крутому адхону, насустрач ветру, насустр пякучым марозным іскрам. Ляцець і зьліцца з дзікім посьвіст ветра, з сьнежным пылам—што ў вочы, у шчокі, аж шапка т кучомка зьляціць з галавы, а сэрца, сэрца—зойдзецца, затахці І страшна і соладка. І чырвань бывае тады на ўсю шчаку, самую покаўку-нос, на тыя боўцілы-вушы.

Але-ж толькі думка.

Плаўна ідуць самалёты, разразаючы наласкаванымі мядз нымі насамі густую сіняву і золата сонца. Сіняву і сонца, сп вітых вячыстым спакоем. Зямлі ня відна. Калі й зірне яна часа праз рэдкія воблачныя вокны бледным шэрым зрокам—нічо не разьбярэш на ёй. Зьвяно йдзе па прыборах. І Сяргей гл дзіць на гадзіньнік—хутка будзе каманда павярнуць самалёт направа. Глядзіць на прыборы, на гэтыя капрызныя стрэлкі, макавінкі лічб—чырвоных, чорных. Усё ў парадку. Усё ў чо кім ураўнаважаным руху, у роўнамерным, ледзь прыкметны зыбаньні стрэлак, у спакойным мігаценьні малюсенькіх кантрол ных лямпак. За гэтымі цьмянымі запацелымі шкелцамі спако ная ўпэўненасьць, нязрушная вера—у сябе, у машыну.

— Працерці от хіба гэтыя запацелыя шкелцы...

І толькі нахіліўся да іх, як гайдануўся самалёт нечакан і грозна. Падскочыў, узьвіўся на дыбкі. Напяўшы струной п пругі нырнула кудысьці сядзеньне, жалезная ручка гоша жо стка ўдарыла ў грудзі—захлупіла дыханьне. Ды грымнула нешт страсанула паветра, прыглушыла балюча—цёмныя кругі паш пад вачыма, закружыліся. І ледзь разабраць—дзынкнулі трос зазьвінелі жалобна, гэтакім прыглушаным мэталёвым стогна

І ўніз—з дзікім посьвістам, гудам.

Інстынктыўна ўцяў. голаў у плечы.

— Сьмерць?

— Выбух? Чорнае прадоньне няўмольна...

І таксама сьмерць, калі будзе пажар—а ён бывае нязьбежн І нэрвова рванулася рука, туды, каб выключыць запальваньн Нібы ўсьцешыўся—выключана...

А самалёт шоў каменем на зямлю. Быў у ім віратлівы раз бег і шалёная, прыцягаючая сіла зямлі, Толькі ня відна был яе, зямлі, страшкай цяпер, нежаданай. Шлі воблакі—сьляпы вільготныя... І ня шлі, а імчалі насустрач, захлуплялі дыханьн ледзянілі сэрца. То сьмерць ляцела насустрач і распасьцёрш крыльлі лавіла, сьляпая, у халодныя і ліпучыя свае абыймы...

І калі халодны пот пашоў па твару, надыходзіла навала шэрая няпрытомнасьць—маланкай узьвілася думка, вострая я нож, балючая, апякаючая. Думка пра сонца, пра залатую пра зрыстасьць жывых яго промняў. Пра сіняву. Пра дзікія крас ўзьлетнага поля. Пахучы дух зямлі, зямлі пругкай, крамяна І разам мягкай, крохкай—сыпучымі пяшчынкамі сыплецца ян пад ветрам. Мягкай, калі сонца, жыцьцё. Калючай і цьвёрда як граніт, калі халодны пот засьціць вочы...

— Як жа-ж так? А парашут?

Быў ён тут-жа, блізенька, за сьпіной, нібы прышыты да плеч, да ног, да павучыньня папруг. Адна хвіліна, паўхвілінкі—і няхай ляціць яно, няхай... Толькі-б самому ня разам з тымі скарабачанымі рагалінамі... Чорнымі, аголенымі... Не, ніколі, ніколі... Іначай згасьне сонечны бляск, згаснуць вочы...

Пальцы ўчапіліся ў бліскучы замочак, напружыліся ногі, каб разам, хутка рвануцца, адарвацца ад шалёнай імклівасьці... Ад „Камсамольца"...

Учапіліся пальцы, застыглі.

— Як жа-ж так? „Камсамольца"?

— Як жа-ж так? Камсамольскае слова?

І думкі, думкі—куды завялі вы? Аб ёй, аб шурпатай далоні... Аб жыцьці... Аб нашым жыцьці... „Хіба-ж дрогне рука, пальцы нашы"... „Калі трэба за горла... нож у сэрца таму"...

Нож у сэрца таму...

Быць ня можа іначай...

І нарастала яна—сіла—вялікая, непераможная, грозная...

*

Прабіўшы воблакі шоў кругамі на сваім самалёце лётнік Мамуша. Сударгава націскаючы на пэдалі і ўчапіўшыся жалезнымі пальцамі за гош, ён ня зводзіў воч з „Камсамольца" Даўгі твар Мамушы быў перакошаны і шлі па ім—па цёпламу рабаціньню—белыя плямы. Ды голасна кідаў:

— Ах жа, дурны...

— Дурны-ы, дурны, дурны...

— Хутчэй-жа, чортава галава... Наліха-ж тады парашуты... Зачым-жа так гінуць, каму яна, гэтая сьмерць...

І ўсім целам падаваўся наперад, нібы крыкнуць хацеў галасьней, кожным рухам сваім хацеў памагчы яму, от жа гэтаму дурню, што шоў на сьмерць, не адганяў сьмерць, ня кілзаў яе пятлёй парашутнай.

— Эх жа, прападзі яно пропадам усё... Гіне... Чалавек гіне... І такі жа харошы быў, падлюга...

Адвярнуўся на міг, каб ня бачыць, вокам сваім не глядзець.

Але-ж не сьцярпеў.

І калі глянуў—аж падскочыў—уліплі папругі ў плечы— і сэрца акунулася ў цяплыню—гарачую, бурлівую.

— Ну й адкало-о-ў... Дзівіся... Жывы падла будзе.

І раптам нахмурыўся:

— Што-ж гэта? Напужаць мяне надумаўся, падшывалец... Я-ж табе пахуліганю, я табе дам—аварыі выдумляць...

Пацямнеў нават з твару і зьнікла, растаяла тая бурлівая і гарачая цяплынь. Злосны быў лётнік Мамуша і даўшы сыгнал

„за мной“ павёў самалёт да аэрадрому. І як толькі прызямліўся, далажыў камандзіру атрада аб ім, аб Сяргеі, аб бязульстве хлапечым.

— Тысячу мэтраў уніз, камянюкаю, бяз стырна... Кулдыкаючыся... Такое вытварае, валасы дыбам!

— Да быць ня можа...—паціналі людзі плячмі.—Каб ён? Да што ты?

— Пабачыце...

— А дзе ён?

— Адстаў, відаць... Ды вунь, няйначай...

Увесь атрад быў даўно на зямлі. Чакалі толькі яго, аднаго, „Камсамольца“. І калі заўважылі, зьдзівіліся. Шоў ён неяк не па людзку, нібы поўз у паветры, няўпэўнена зыбаўся часам, шугаў носам уніз, ізноў выпростваўся. Пераглянуліся, настаражыліся.

— Матору-ж чаму ня чуваць? Няўжо з выключаным?

І калі перад самым зьніжэньнем шуганула з „Камсамольца“ ракета—сыгнал аб няшчасьці - замітусіліся людзі, забегалі. Усіх тэхнікаў і матарыстаў, што сядзелі купкай за стартам, чыталі газэты, як ветрам узьняло. Бегма кінуліся да старту. Задыміла „санітарка“, затарахцела, плаўна падкацілася бліжэй.

Самалёт шоў на зьніжэньне.

*

Была пара хвілін, кароткіх і поўных.

Калі рукі рабіліся на жалезныя скруткі, пад нагамі, здаецца, магла падацца ўся зямля, нязрушная, непадаткая. Рукі, ногі... зьбіты палец вунь да крыві, калі сударгава чапляўся за гош. І думкі—палілі што, апякалі... Скарыўся і самалёт... Калі стаў ён, кулдыкнуўшыся, на хвост і шалёна шугануў уніз, улучыў хвіліну Сяргей і прымусіў машыну паслухацца і скарыцца. Падначаліў рукам, думкам сваім падначаліў. І калі завёў у прывычны штопар—уздыхнуў. Торапка выцер пот, што засьціў вочы, уядаўся салянаватай рэзьзю. І ўлавіўшы момант выпраставаў самалёт, вывеў яго на простую дарогу. Кінуў вокам на шкелцы, на дрыготныя стрэлкі—чорныя, чырвоныя.

— Цяпер пан-панам... Цяпер уга... Наша ўзяла... Тры тысячы мэтраў... На дзесяць вёрст хопіць і без матора. Сплануірую... А не дацягнем—што-ж: як-небудзь сядзем на полі...

Прабівалася сонца праз воблакі і такое-ж яно было радаснае, няўміручае, адчуваемае кожнай зморшчынкай твару, кожнай жылкай сінявай шырокіх валахатых рук. Была зноў жаданай зямля, шырокая многаколерная, з шчакой сонешнай, цёплай. Зялёнай...

— Так... Вось яно што, камсамольскае...

І цяжка было адказаць, што-ж гэта за яно, за камсамольскае...

— Ды мала што?! От дзівак!

Сабе самому—„дзівак!"

Адчувалася стомленасьць у целе, кружылася зьлёгку галава, нылі рукі і ногі. Назойліва ляцелі і балюча фасталі па твару цяжкія вострыя пырскі. Ліпучай вадкасьцю расплываліся яны па твару, сьляпілі акуляры.

— То-ж назола... Няйначай лопнулі маслаправоды... Эге! І бэнзына цячэ, смаліць цурком... Капут баку... Ну, ды ўжо-ж як небудзь прысандалімся... Недалёка...

*

Як на рукі падхапілі самалёт, калі спыніў ён імклівы разьбег на зямлі. Зьлез Сяргей, доўга твар выціраў, вочы.

— Братачка, ды што-ж з табой? От заляпіла, чорны ўвесь аж да пят...

— Ды дзівіся, у яго-ж палавіны матора нямашака, выбух быў... Уся рама разьбіта, пакрэмзана. Бак пашчыпаны... Ну й дзялы! Пахлі яны, браце, труной пахлі. Бя-я-да! Добра, што пашанцавала, без пажару...

У лётніка Мамушы нэрвова мігалі русявыя расьніцы і ўвесь ён нібы разьмяк, асеў, ямінкі рабацiньня паблісквалі цяплынёй, ды позірк быў нейкі ўтароплены, разгублены.

— Братка, хадзі,—за рукаў тузаў, каб у бок, на крок які ад усіх.—Даруй, голуб, што блага падумаў...

— Што ты вярзеш, мамачка? Хадзі хіба памажы твар вымыць, вочы ўсе засьляпіла. Ды й напіцца хачу.

...Быў разбор заняткаў. Хто садзіўся як, хто дзе прамазаў. Аб усім не праміне сказаць камандзір эскадрыльлі. І аб ім, аб Сяргею.

— Так, таварышы... Нельга не сказаць і аб выпадку з таварышам Мядзьведзькай. Ён паказаў сябе нашым лётнікам, чырвоным лётнікам. Лётнікам—ударнікам. Харошы прыклад вытрымасьці. Ён меў права на парашут, не скарыстаў гэтага права. Улічыў магчымасьці... І мы бачым яго жывым і здаровым. Цэлы і самалёт... А вы-ж ведаеце, чый гэта самалёт, на чые ён сродкі збудаваны... Канешне, камандаваньне дасьць патрэбную ацэнку сёньнешняму факту...

Насупіў бровы Сяргей.

— Што-ж з таго?—у думках.—Мала ў нас чаго? А іначай-жа як?

Былі і другія думкі: „Усё-ж ён правільна гаворыць, праўду гаворыць камандзір..."

І адчуваньне паўнаты жыцьця, яго бязьмежных магчымасьцяй авалодала ўсёй Мядзьведзькінай істотай, запоўніла да краёў. Аж рукі зачасаліся. От бы ўзяць што, сагнуць, скрышыць, калі будзе патрэбна, калі будзе ў тым клопат. І ад паўнаты пачуцьцяў як не агрэць па плячу Мамушу. І як садзіліся на грузавік ехаць у лягеры, адпачываць—агрэў, аж войкнуў прыяцель.

— Адурэў ты хіба?

— Жаніць бы от цябе, мамачка!

— Сказаў... Праблемочка!

— Каму, каму, а для цябе праблемочка!—жартавалі хлопцы з Мамушы—заўзятага халасьцяка.

— Што, што, а з гэтым пасьпеем. Не на пажар! Вот з Саргунькай хіба! Разам...

*

За вакном быў дождж—касыя поцікі паласавалі шыбу і ў водблісках ліхтара адсьвечваліся пералівістай муцьцю, скатваліся наўскасяк буйнымі срабрыстымі гарошынамі.

Мерна ўздрыгваў вагон.

Было змрочна ў ім, халаднавата. Начная цішыня была напоена смуткам. Смуткам, калі адзін, адзін са сваімі думкамі. Тужлівымі, уедлівымі. Надакучна апрыкрымі.

Лётнік Джо ехаў назад. Яго чакала Кампанія, яго чакаў інжынэр. „Панчохі з вярблюжага пуху“. А калі іх няма цяпер гэтых панчох?. „Кампанія паважае шчасьлівых людзей“. А калі нешчасьлівых? Джо любіць партрэты ў газэтах, цёплыя радкі пад імі. Аб ім. Можа выйсьці кіслы партрэт. Кіслыя думкі ў Джо, кіслы твар.

І яшчэ:

Ці мала аб чым сьмяюцца інжынэравы дочкі, разьбяры, чаму яны ўсьміхаюцца?

...Лётнік Джо не рамантык. Ён паважае толькі справу і больш за ўсё сваю справу. Аб іншых, аб другіх—яму клопату мала. Але-ж точуць сумненьні лётніка Джо, думкі лезуцьназольныя, усякія думкі. Аб людзях убачаных, як іх зразумець, іх, не зразумелых, дзівосных. І наогул, што за краіна?

А за вакном была ноч, быў дождж. Паўзьлі, скатваліся наўскасок буйныя срабрыстыя гарошыны. Цьмяна паблісквалі які талісман...

Памацаў кішэнь. „Ат усёроўна, разьбіты, не дазнаешся часу...“

— Так, талісман... Талісман, называецца...

Усьміхнуўся горка.

— А ўсё-ж-такі быў я вялікім дурнем!

І згадзіўшыся маўкліва з гэтым прызнаньнем, уздыхнуў, усьцешыўся, пачаў ладзіцца спаць. Нешта муліла бок, няёмка было з рукой—садніла яна, пакалвала...

Мерна ўздрыгваў вагон, прыглушана гудзелі колы ды ў такт вагону хісталіся палахлівыя цені ад лаў, ад паліц, ад здранцьвелых людзей—што спалі, храплі. Сонныя змрокі хадзілі ў вагоне, сіліліся перамагчы цьмяныя ліхтары.

Так-жа хацелася заснуць...

*

Даўно неяк сабіраўся Сяргей напісаць ліст. Ёй. Усё неяк не выстарчала часу. І шкодзілі трохі хлопцы, свае, заміналі. Але-ж выбраліся ў горад, у дзень выходны. Ляжаў на ложку, думаў, аблюбоўваў словы. Спускалася полагам напятая хаясьціна палаткі і праз яе напятае рэдзіва прадзіраўся ўкрадкі месік. З пад разгалістых хвой і ялін. Ды зрэдку нібы шчоўкне хто па гэтай цупкай напятасьці.

— Бач ты, высьпелі шышкі...

І пах хвоі рабіўся яшчэ больш густым, ядраным, ён цадзіўся ў грудзі, расьпінаў іх да салодкае стомы.

— Не паветра, маліна!

— Але-ж як-жа з лістом? Трэба-ж пісаць...

Напісаць аб усім... Аб талісмане от хіба, аб гэтых дзіваках амэрыканскіх... Аб сабе крыху...

Запаліў газьнічку на хісткім стале. Паперу выцяг. Усеўся, ашчарэпіў рукамі галаў, задумаўся.

— Мілая... Ня тое....

— Дарагая... Усе так пішуць. Інакш ёй трэба, яна-ж такая харошая... Вот, вот, самае лепшае слова, простае, прыгожае...

— „Мая такая харошая!"

— А імя?

Запытаў сам сябе і раптам зьдзівіўся, бо ня ведаў гэтага імяні, не запытаўся ў другіх. Ведаў фабрыку, горад, вуліцу, а як зваць яе, як яе прозьвішча—не даведаўся. Мо хто й ведае часам, дык ідзі-ж ты, бяжы па палатках... Засьмяюць... „Недарэка", скажуць.—„Укахаўся па вушы, а імя прахлопаў". Сьмешна-ж нават. І сам усьміхнуўся. Дазнаецца „мамачка"—спакою ня дасьць. „І ўдарнічак—скажа,—з цябе... Шляпа і гэтак далей..."

Трошкі прыкра было, ніякавата. Адчуваў вінаватым перад ёй, перад імі.

— Такая-ж харошая... Не дзяўчына—самалётніца... Колькі-ж вас дзяўчат харошых, гэтакіх-жа дзяўчат— камсамолак...

А зьверху цадзіўся месік—дурны такі, лысы. Цярушыўся шышкамі з вышыні, шалушыўся луской срэбнай, дрымотнай.

Засыналі палаткі.

1932 г.

АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ

# ТАВАРЫШ СЫН

Сыну таварышу—пяць гадоў,
Ня вартая ўвагі грамадзкай падзея.
Звычайнае зьявішча: ў вочах зарэе
Разьлівамі радасьць і гонар бацькоў,
І сьвет ім авеян пяшчотнай завеяй.
Сыну таварышу—пяць гадоў.

Цярушацца дні ў сумятлівай імгле.
Няхай толькі вечар прысядзе на ганак,—
У сына жаданьне спаткаць нечакана
Бацьку свайго што з работы. Але
Надзея спатканьня стапнее ў туманах.
Цярушацца дні ў сумятлівай імгле.

Гудкі загулі, і дасада расла,
Нецярплівасьць маленькага хлопчыка точыць.
Ён сёньня-ж убачыў, на ўласныя вочы,
Як робяцца шклянкі на фабрыцы шкла.
Дзе-ж бацька? Навінамі стомлены хлопчык.
Гудкі загулі, і дасада расла.

— „Як будзе выходны мой бацька—яму
Скажу як жылося рабочым бывала.
А Ленін памёр не таму, што страляла
Цёця-буржуйка, зусім не таму!
Я ўсё раскажу"...
А ноч наступала,
Пярсьцёнкамі зор вышывала крайму.

Ледзь золак з блакітных сваіх берагоў
Коньніцы сонца цярэбіць пуціну,—
Бацька ўстае, падыходзіць да сына.
Сыну таварышу—пяць гадоў.

І гонар румянцамі зі ніч разальле,
Жаданьне паслухаць—(пачуцьці-ж ня стынуць!)
Слова жывое ад любага сына...
Цярушацца дні ў сумятлівай імгле.

Ня думаў пра крыўду, а крыўда была—
Яна, нібы зьмейка, на твары ў маршчынах.
Ён гладзіць, так ласкава, соннага сына...
Гудкі загулі, і дасада расла.

На працу задуманны бацька пайшоў.
А горад, як варам, разьбегам гудзе.
Усьмешкаю ў бацькі дасада спадзе.
А горад гудзе пераклічкай гудкоў.
Рупіцца бацька, на працу ідзе,
Ідзе-разважае—ў выходны дзень—
Ніякай нарады—ў канцы-ж канцоў
Сыну таварышу—пяць гадоў!

*

# ЭПІГРАМЫ

**На Б. Мікуліча**

...Праз тыдзень вырас „гмах"
На сотні дзьве старонак,
А з „гмахам"—дзіўны птах:
Ні пава, ні варона.

М. Багун

**На Л. Калюгу**

(Аповесьць „Нядоля Заблоцкіх")

Ня дрэннае варыў Заблоцкі мыла
І, кажучы па праўдзе, ў твар:
— На гэтай справе ўсё-ж не зарабіл;
Ні ты, „ні госьць, ні гаспадар".

С. Дарожны

СЫМОН БАГАНАВЫХ

# ГАРКУША

Усьпёрся Гаркуша, аблакаціўся на складаны столік—падваконьнік ды вачэй ня спускае з поля, што за вакном вагону. Даўно бачыў яго—не налюбуецца—уцехі ня стрымае.

А поле вадою вірліваю кружыцца перад яго вачыма—бяжыць, мінаецца клапатліваю сьпешкаю. Цягнік выстуквае аднатонна паўторлівае „клян-цік, клян-цік". Там дзе рэйкі сыходзяцца—большы грукат, ды калі пойдзе цягнік з чыгуначнай пакатасьці ўсім ходам...

Больш як суткі трэба слухаць гаворку калёс з рэйкамі, каб сыйсьці на пятнаццатым гаркушкавым разьезьдзе. І ўжо ня чуе яе Гаркуша—прывык да гаворкі сталі. У яго цяперака нырцуе сьпелая думка: прыедзе ён заўтра раніцаю да свае жонкі, да яе, карпаносай, бялявай, з кропелькамі рабаценьня на твары; прыедзе да свайго „стрыгуна"—як заве бацька сына—Янучка.

— Здароў ты, галапупец,—скажа,—ах, ты... Сварылася маці на цябе—га? Хадзі сюды... Ну, што-ж маўчыш? Ці не спазнаў?

Пяты год пайшоў Янучку ад асеньняга сьвята і ён такі жвавы, сьмелы, дасьціпны. Гаркуша вязе яму булак—пампушак і цэлае вясло абаранкаў. Маленькія сушчыкі-абаранкі—гульня будзе ў Янучка, ды якая-ж!..

І бацька бачыць, як на сваёй далоні: от ён і прыехаў, Янучок стаіць каля палка, а бацька дастае з плеценай карзіны абаранкі-сушчыкі, патрасаецца перад ім цэлым вяслом.

— Ага... Прывёз от... хадзі-ж...

— Ат!—Кулачком вочкі тручы мадыгуецца дзіця, бачком падыходзіць...

А бацьку даспадобы гэта: не разбазыранае ў яго дзіця.

І от цяпер радасьць, як тая шчэпная яблыня ўвесну, цьвіце на Гаркушавым сэрцы. Невядома толькі ад чаго больш радасьці ў чалавека: ці што ён стрэнецца з сям'ёю сваёю, ці рад ён, што едзе от пасьля вялікай работы?

Ай-жа якая вялікая была работа! І гэта-ж як учора было...

Калгас паслаў Гаркушу неяк летась, пад восень, на работу туды, далёка, аж на Украіну. Жонцы тады казаў, прышоўшы з калгаснага сходу:

— Пастанавілі, каб я паехаў... Будуецца вадзяная станцыя. Мацнейшая, як на ўсім сьвеце, дык от шмат трэба рабочых людзей. Як ты мне, кабеціна, раіш:—ехаць ці ня ехаць?

— Глядзі,—жонка казала.—Можа ня едзь лепей... На рабоце, у чужых людзях, мала што здарыцца...

— А я даў згоду...

— Ты-ж цёнгле ўшчэмішся, а потым думаеш.

— Думаць тут няма чаго,—казаў Гаркуша.—У мяне ёсьць ахвота. Каб куды, а Украіна мне добра знаёмая. Ты ня ведаеш Украіны от...

Пазнаёміўся Гаркуша з Украінай у дзевятнаццатым годзе. Было гэта, як назад адпіхалі белых шкураўцаў. Гаркуша быў у чырвоных атрадах. Вялікую дружбу меў з Ясінскім, што з-пад Усмані. Разам, бывала, елі, разам зьмену трымалі на чырвонай варце, спалі адзін каля аднаго ў покаце. Аднэй справы пільнавалі, мабыць і дружба ад таго ня гасла.

І неяк аж ня верылася Гаркушу, калі ехаў з свайго калгасу на вялікую работу, што цягнік ідзе па рэйках і ня чуе трывогі. Не давялося быць пасьля на стэпах з такім спакоем.

Бывала...

Гаркуша службу чырвоную трымаў у кулямётным разьдзеле.

Часьцяком бярэ сабе на ўспамінак пра адно здарэньне.

Памятае...

Ноч. Была ноч. Ціхая такая,—нішто не зварухнецца. Зоры вельмі-ж глыбока сядзяць у бяздоньні неба. Усёроўна як іх нехта туга, туга пазаганяў абухам. Нават міргаў іхніх ня прыкмеціш. А стэп такі шырокі, бязьмежны і ўвесь накрыты чорным начным пакрывалам. І от ведай ты—дзе сьпіць спакой, дзе трывога шчыміць?

Ідуць удвох да казацкага хутару на розьведы: ён і Ясінскі. Ясінскі сакрэтным шэптам кажа:

— Можна пазнаць нават па двары... Калі ёсьць белякі на начлезе—вароты будуць парашчыняны. Яны прадбачаць загадзя.

А сабакі-ваўкі на казацкім хутары. За вярсту счуюць дух сьвежага чалавека. Іісьці трэба—ой, як асьцярожна!

І ідуць... Раса трэцца пад нагамі. Потым паўзуць—мокрыя калены, рукі разьядае золкасьць расы. Хутар—вось-вось перад імі. Слухаюць—ціха. Ня зручна паўзьці—мяшае стрэльба, бомбы муляюць па бакох.

— Ціха,—кажа Ясінскі,—нешта шамечацца на двары.

— Ага,—углядаецца Гаркуша,—ці ня коні? Мусіць начуюць?

— Колькі іх,—хоча даведку мець Ясінскі.

— Повен двор...—углядаецца Гаркуша.—Што-о робіцца?

А ноч, нібы-та сама на варце: прытаілася—ловіць слух.

— Каб не азваліся сабакі,—шэпча Гаркуша,—ціха. Паўзем... Назад...

Поле-ж вельмі шырокае на Украіне. Нідзе—каб то кусьцік, дык пад заклад... І калі-б ня былі цёмныя ночы... (Ой, як добра, што цёмныя ночы!)

— Пачакай...

Гаркуша добра трымае на ўспамінку, як муляў быў Ясінскі. Невашта карцела яму, ды толькі не хапала адвагі. І не хапала яе на адзін момант.

Да самага паркана падпаўзьлі. Углядаюцца ў цемень—вочы робяць вобыск ночы. Па ўсіх яе закануурках шныпарацца... А потым, да зямлі прыліпшы прасаваным пластам, Ясінскі растрасаў шэпт перад Гаркушам:

— Што калі-б пасланьць ім па аднэй бутэльцы?—казаў ён і нават шэпту свайго ня сьцішыў.

— Назад...—сьціснутымі вуснамі выказаў Гаркуша.—Што ты...

І хацеў паўзьці ўжо, але забурчэў сабака перад самым Гаркушам. А потым цэлы лямант рассыпаўся па яркім стэпу. Тады нехта мацней заварушыўся на дварэ, нехта шчоўкнуў стальлю аб сталь. Нехта разарваў ноч на кавалкі.

— Рраз... рраз...

Гаркуша ня мае цьвярозай памяці, як гэта здарылася. Памятае от: прагучэлі стрэлы вартавога, і калі зраслася ноч—рынуўся бягчы пад яе пакрывалы. Бяжыць, а на ўздагон голас Ясінскага:

— Садзіся.

Тады ўбачыў: бег Ясінскі па полі, а побач з ім нібы перабежчык, бег конь. Яшчэ бег Гаркуша—ізноў праразьлівы голас пераняў яго.

— Хапайся за сьпіну...

Некалькі крокаў беглі. Спатыкаліся і беглі. Наўкола іх лупаў вінтовачны агонь. Лупаў і гас. Стрэлы без перастанку табляваі паветра.

Здавалася—увесь заварушыўся стэп. Устаў на ногі, загаварыў, загалёкаў і рынуўся ў блытаным мільгаценьні за імі на ўздагон.

Спужанымі рукамі тады ўрэпіўся за конскую сьпіну. А Ясінскі прабег яшчэ некалькі крокаў. І ўжо падняўся на вобраць нагою і так павіснуў на момант каля конскай пысы.

— А—ах!..—рвануўся хрыплы голас з яго грудзей.

А конь імчаўся наўзавадкі. Ясінскі ня ўтрымаўся—снопам паў на зямлю.

— Цэліў, некаторы...—з болем выказаў Гаркуша, ды хацеў спыніць каня, хацеў забраць таварыша. Конь імчаўся разьюшаным галёпам, а за ім беглі, даганялі стрэламі. (Добры быў конь і цёмная была ноч).

Дык мо ад таго на Украіну магнэсам цягнула. Усё рупіла Гаркушу: от як на тое—возьме ды сустрэнецца тамака з Ясінскім з пад Усмані.

Думаў часта Гаркуша:

— Хай-бы мяне лепей, чымся яго. Мяне ратаваў, і яно так вышла... А мо і не забілі?

...Цягнік іграў калёсамі на рэйках тую самую музыку. Надакучыла яна мусіць і самой ночы. І выходзіла так: моцна захуталася ноч у мяккую пасьцілку і спала непарушна ціхім сном.

А за вакном пажарным бегам беглі слупы, бегла поле і неба. І поле і ноч і неба—былі адным вірам. Цягнік, здавалася, напралом рынуўся разам з Гаркушам у гэты вір, абы каб апярэдзіць, перамагчы сваю дарогу.

— І пераможам...—нібы пачуў Гаркуша недзе тутака, каля сябе... Можа на іхнім агульным сходзе... Можа на брыгадным сходзе. Здаецца гаварыў брыгадзір Паляжаеў нашчот замескі бэтону. Канечне нашчот замескі... ага... От ён і сам.

Гаркуша падыходзіць да свайго брыгадзіра Паляжаева. (Ой, які жартаўнік гэты Паляжаеў! Яму ўсё сьмешна, што ў Гаркушы вырасла барада).

— Скончылі...—кладучы руку на плячо кажа Паляжаеў.—От... А ты кажаш...

— Нічога такоўскага я не кажу,—апраўдваецца Гаркуша і кідае зірк на быкі вялікага мосту.

— Самдзеле скончылі,—думае сам сабе.—А ўсёроўна-ж як учора гэта было... пачыналі. Далібог...—Аж ня верыць Гаркуша сваім вачам. А Паляжаеў:

— Цяпер на другое мейсца паедзем, браток. Ізноў будзем на выперадкі працаваць. Хто больш дасьць бэтону, праўда?

— Паедзем,—згоду дае Гаркуша. І яму хочацца працерці вочы, паглядзець, а ўсё-ж такі ці скончылі вялікую работу? Мо' дзе-небудзь яшчэ трэба дадаць...

І ня ведае, як здарэньне напаткалася яго вачам: няма перад ім Паляжаева.

— Ясінскі...—ускрыквае Гаркуша,—адкуль ты,—пытае у таго. Бо замест Паляжаева стаіць перад ім Ясінскі. Усёроўна як Паляжаеў яго паставіў на сваім мейсцы, каб ён гаварыў з Гаркушам, а сам некуды пайшоў на хвілінку.

— Браток... от жа, глядзі ты,—кажа Гаркуша,—сустрэліся...

Нічога не гаворыць Ясінскі, а толькі ўсьмешку хавае ў свае густыя вусы.

Тады Гаркушу сорам апанаваў, што ён не забраў яго параненага з поля ў тую даўнейшую ноч.

— Глядзі, браток, от...—каб сьцерці сваю віну кажа Гаркуша,—бачыш чаго мы тут нарабілі. Ага.

І ён бачыць сваю работу, як у першы раз...

...адзін за адным, як тыя векавечныя дубы—волаты, глыбока пусьціўшы ў зямлю свае карэньні,—стаяць бэтанаваныя быкі. Адзін за адным—яны магутныя, сярдзітыя, на некага злосныя, але ветлыя для яго для Гаркушы, для Ясінскага—вужакаю

выгінаюцца, ня пускаюць ціхай вады. Вада злуецца на іх—уздымаецца высока, высока—хоча рынуцца з сваім напорам, здаецца праз верх, хоча зламаць, скрышыць усё на сваёй дарозе.

І ў яе не хапае сілы—моцы.

— Ага...—кажа Гаркуша да Ясінскага,—тота-ж, закілзалі...

А вада ўжо высока ўзьнялася, раззлавалася яшчэ больш, ды ў густых пеністых пырсках выкінула сваю крыўду праз адчыненыя вароты мосту.

— Калі ласка,—кажа Гаркуша на ваду.—Крышачку спагані сваей злосьці—ідзі, сабе, па чарзе ў мора. І мы нічога ня маем супраць. Патаму, як ты ёсьць лішняя.

Вада здаецца чуе голас Гаркушы і робіцца ад неразьмернай злосьці густа-сьмятаністым малаком. От нібы, льлецца праз верх, праз вароты, адна, спрэс згусьлая сьмятана. І рынуўшыся з шыбельнай вышыні, яна абнядужвае, рассыпаецца на дробныя пырскі ды... вольна ўздыхнуўшы прастору (пралезла ўсё-ж)— ідзе баязьлівая, напалоханая, азіраючыся, каб хаця зноў ня стрэцца па дарозе з такой цеснатой.

Гаркуша пазірае, як трапятліваю плыньню ідзе вада, і да Ясінскага:

— А яна—далёкая, гэта вада. Так што, можа вунь нават той струмень ведаеш, з нашай Гніяўкі. Бо Гніяўка (от ужо шмат у ёй рыбы!)—Гніяўка уходзіць у Чырвоную, а Чырвоная ідзе аж пад Бярозу і недзе там уліваецца... (ня ведаю ў якім мейсцы)—уліваецца ў Бярозу. А Бяроза, зьвеснае дзела—у Дняпро. Дык от... І вада разам і сіла разам.

Гаркуша кідае свой зірк аж на той бок і хоча, каб і Ясінскі туды пазіраў.

— Тамака б'ецца сэрца вады,—кажа ён да Ясінскага.—Тамака— Гідрастанцыя. Унь яна—здалёк, як тая скрынка. Маленькая, здаецца, а падыдзі ты да яе, зайдзі ў сярэдзіну—пабачыш. У ёй-во якая заля... Такая, бадай, як я быў у даўнейшай Кацярынінай танцавальнай, калі Кастрычнік рабілі. Толькі тутака вялізарныя восі тырчаць, а на іх—рабочыя калёсы. Яны глыбока шарам сядзяць на дне станцыі. Яны адчуваюць як шукае вада пралазу, тышчыцца, і ад яе руплівасьці круцяцца—робяць электрычную сілу. Разумееш?

— Ой, колькі сілы нарабілі мы, і якая сіла і як далёка ідзе... Ведаеш, таварыш Ясінскі, кажа Гаркуша,—аж да Аляксандрыі ідзе наша сіла, да Крывога Рогу, усюды яна можа ісьці, па ўсім краі, і нават па ўсім сьвеце... І от жа усялякая бывае вада—мутная і забруджаная, а выцісьне наша станцыя яе сок— агонь зробіць чысты, як тое золата!

— Значыцца і ў вадзе агонь ёсьцека...—кажа Ясінскі.

— Усюды ёсьцека агонь, адказвае Гаркуша. І усюды ёсьць золата. Трэба умець толькі ды знайсьці яго.

— І знайсьці ня так цяжка,—кажа Ясінскі,—калі...

— Калі,—перабівае Гаркуша,—калі не распырхнута наша рабочая сіла.

А потым бачыў Гаркуша з Ясінскім ноч—але ня было ночы. Было як удзень. Рэчка—заліта агнямі. Пражактары палошчуць збудаваны мост, збудаваны горад. Вада, што выціскаецца, як непатрэбная, цяперака ужо—ня густая сьмятана, а вэлюм. То сіні вэлюм, то чырвоны, то блакітны... Пражактары гуляюць з вадою, плёхаюцца ў ёй—яе сілаю сьлепяць ёй вочы. І тады вада здаецца зусім ціхаю, заспакоенаю, лёгкаю, як спадаючы шалік. І усё ў ціхіх бястурботных вагнёх. І мост, і новы горад—яны апрануты ў чыстую белую трымцячую бель. Гаркушу здаецца, што на зусім абуджана ноч, на заўсёды. Няма і ніколі ня будзе больш цёмнай ночы... Такой як тады ў стэпу, калі лупаў вінтовачны агонь.

І от яны з Ясінскім сярод вуліцы новага, вялікага гораду.

— Глядзі, кажа Гаркуша,—от мой патрэт, як ударніка. Бачыш от гэтыя патрэты. Яны нават як жывыя, калі глядзець на адзін за адным (патрэты былі ўздоўж вуліцы, на вялікіх дошках цэлым шарам, яны ўпрыгожвалі новы горад: былі тыя людзі, што будавалі гэты самы горад).

— Першы раз у жыцьці,—кажа Гаркуша,—каб людзі былі на патрэтах у тым горадзе, што самі будавалі. Пройдуць гады і будзеш ведаць, хто будаваў. Глядзі, браток, колькі сьвятла накідана на гэтыя патрэты...

І Гаркуша хацеў весьці гутарку з Ясінскім пра даўнейшую цёмную ноч у стэпу, калі мільгацелі вінтовачныя агні.

— Памятаеш, як мы...

І не памятае дзе дзелася, куды закінулася жыцьцё мінулай ды учарайшай сапраўднасьці ад яго вачэй:

—...Грамадзянін... ты, грамадзянін...—будзіў кандуктар Гаркушу,—прачнецеся-ж, ваш білецік,..

— Гэта-ж я еду,—от як... наце вам білецік, зараз калі ласка. Пры чым-жа тут білецік?

Гаркуша падняў галаву і падаў білецік. Калі адышоў назолісты кандуктар, Гаркуша думаў пра адно:—

— А і ў праўду: мо дзе-небудзь і Ясінскі быў на гэтай будоўлі—ведама людзей гэтулькі,—трудна, бывае, сустрэцца.

Раскатурхаўся ды думау другое:

— Калі быў ён—на патрэце ўбачыць мяне. Пазнае, нябось, і па прозьвішчу і па твары. От бы добра было, каб ён быў. Бо тое, што сьніў—усё-ж тое, што мы рабілі, як я і не выяжджаў адтуль. Толькі от, каб Ясінскі быў, дык і ня сон гэта. Ах, як добра, каб ён быў!

Цягніку ні да чаго ня было інтарэсу. Ён па закону выстукваў сваю традыцыйную музыку.

15/XI—32 г.

Днепральстан—Менск.

# СЬЛЯДЫ ДАРОГ

У далячынь
За небакрай,
Пад гоман дальняе трывогі,
ва ўсе канцы, ад краю ў край
бягуць, нітуючца дарогі.

Свае аўтографы вякі
тут
па аўтографах пісалі...
Мільёны ног ва ўсе бакі
Імклівасьць часу
даганялі.
Адны адзінкі
без трывог
прамчалі гонар
на рысорах,
а міліёны
ў даль дарог
прайшлі
нагружаныя горам.
Ішлі з бядою бядаваць
пялёсткі змрочнасьці дачаснай...
І—
ня было дзе
гора здаць,
і не знаходзілася
шчасьця.
Так Беларусь
былых эпох,
свой плач
выходзячы падслухаць,
на скрыжаваньні
ўсіх дарог
стаяла беднай маладухай.

Яна ішла перад зарой
за сьцежкі
вечнага наймітa—
стрымаць
на постаці сваёй
хоць здрадны позірк
дабрабыту.
А дабрабыт ва ўсёй красе
ліхое панства падтачыла...
Паны—
аднолькавыя ўсе
і тут
не ў нацыі прычына.
Палын чужацкі
не гарчэй
ад палыноў
за нашым плотам,—

Як і лаза не балючэй
ад тэй,
што з нашага балота.
Жыцьцём асьвістан
хітры ход
абломкаў даўняга прымусу,—
што:
— у Беларусі
жыў народ,
ня меўшы пана-беларуса...

Хто верыць гутаркам такім?
Вы шмат, панове, захацелі!..
Ці не ад вашае рукі
яшчэ—
шрамы на нашым целе?!

А вашы продкі
без трывог
на рысаках
і
на рысорах
там панскасьць мчалі
ў даль дарог,
дзе нашы несьлі
клунак з горам...

На скрыжаваньні тых дарог,
Як гоман даўніх перасудаў
мы пазнаем вас па сьлядох,
нацыянальныя Іюды.

Супроць замежных і сваіх
тупых баранаў
і баронаў
трымаем моцна вострыя штыкі
на дбайнай варце абароны.
... ройме нас і хітры ход...

Скрыжалі прошласьці
сказалі,
што
— ў Беларусі жыў народ,
а вы—
народам гандлявалі.
Пад сонцам пройдзеных вякоў
з вясёлай рызыкай бакала
сядлала шчасьце рысакоў,
няшчасьце—
горам нагружала.

Над цішынёю мірных ніў
ня рэдка пошасьці ляцелі,
і тупат сьмерці прахадзіў
з ваенным громам
на прыцэле.

У навальніцы грозных дзей
тады—
майстры магільнай справы
за кроў—
і тысячы сьмярцей
куплялі золата і славу.

Турэмных кратаў каралі
жыцьцём мільёнаў гандлявалі,
пакуль
над кратамі зямлі
маланкі гневу
запылалі.

Пакуль
Кастрычнік
судным днём
зірнуў
з навалы лютых восеняў,
каб спапяліць сваім агнём
закон,
што сьмерцю узаконен.

## ШТУРМ НА БЕЗДАРОЖЖА

У далячынь за небакрай,
пад гоман дальняе трывогі,
ва ўсе канцы, ад краю ў край
бягуць,—нітуюцца дарогі.
Нібы легенды даўніх кніг
яны апрануты ў туманы...

І сам прасьцяг старэчы іх
як лёс гаротны здратаваны.
Яны—
як сьведкі
жорсткіх спраў
ў недаказаных былінах...
Чый конь грудзей іх не таптаў,
і чый абоз не каляніў?
Драпежны звычай даўніх войн
масьціў дарогі нам касьцямі...
Тут вёў палкі Напалеон,
Вільгельма танкі гасьцявалі.

Сусьветным громам піруна
над галавою бандаў белых
тут—
справядлівая вайна
супроць драпежных войн
грымела.

Таму, у момант перамог,
у момант працы пераможнай
аблічча даўняе дарог
для нас—
аблічча бездарожжа.

Ад дапатопных нават кол
мы чуем выкрыкі пратэсту,
але-ж ня просты балагол
у нас—галоўны капэльмэйстр.
Сваё аўто запрэглі мы...
„Краса дарог" дарогі просіць,
каб мілёны тонна-міль

трио

на трэцяй шпаркасьці
праносіць.
З юнацтвам
старасьць не ў ладох...
Як парадокс гучыць на справе:
аблічча даўняе дарог
і пульс магутных „Яраславак“.
Калішні шлях, як час стары,
касьцьмі і багнай перасьцелен...
А малады агонь крыві
для венаў старасьці—
сьмяртэлен!
Хай пульсу пройдзенай хады
шляхі праводзіла стыхія,—
Краіне з пульсам маладым
патрэбны вены маладыя.
Таму і партыя, і ўрад,
У пляне штурмаў пераможных,
далі рашучы свой загад—
павесьці штурм на бездарожжа.
Як гром ваенных перамог,
у дні і ночы штурмавыя,
па Кацярыненскіх шляхох
прайшліся буры агнявыя.
Замест спрадвечных каляін
шляхі каменны шчыт адзелі...
Пад бурай творчаю яны,
як дні вясны памаладзелі.
Дарогі
ў слоту,
гразь
і стынь
у тэрмін даць па бездарожжы—
быў здольны толькі калектыў,
дзе на сьвядомасьць гарт памножан.
У працу ўкладзена душа,
таму
ня быў і час кароткі...
Глядзіцца гладкая шаша
ў вакно другое пяцігодкі.

## ЖЫВЫЯ ЛЮДЗІ, ЖЫВЫЯ СПРАВЫ

У далячынь за небакрай,
пад гоман дальняе трывогі,
ва ўсе канцы ад краю ў край
бягуць-нітуюцца дарогі.

Як гром ваенных перамог,
у дні і ночы штурмавыя,
па Кацярыненскіх шляхох
прайшліся буры агнявыя.

* * *

Ї гразь, і восенская стынь.
Надвор'е катарам хварэе...
Няма дарог падвозіць клін [1]),
як з праграхоткі [2]) дожджык сее.
Ва ўсім—прыніжаны настрой.
Ї ходзіць гоманам трывога...
Аўто загразьлі з галавой,
няма дарог
канчаць дарогу.
„Ударных тэмпаў нельга здаць!“—
душа ударнікаў гаворыць!
Ня сьпіць начальнік Грышановіч
аўтакалёны № 2.
Яму пра сон і не кажы,
занадта важкія прычыны...
Ён дзень і ноч у гаражы,
ён сэрцам чуе пульс машыны.
Дае загады, робіць сам
усю складаную работу.
Не адпачнуць машыне там
пад апэрацыяй рамонту.
Як найчасьнейшы клясы сын
стаіць на варце абароны—
ён на чале ударных сіл
сваёй ударнае калёны.
— На перашкоды не зважаць!
Няхай патоп, няхай навала,—
дарогу ў тэрмін трэба здаць!—
Калёна ўдарная сказала.
Ї ўсе адчулі той настрой,
Ён разгараўся з новай сілай.
Насупар восені глухой
геройства дзей загаманіла.

. . . . . . . . . . . . . . . .

— На ноч і цемру не зважаць,
Падмацаваўшы там дзе слаба—

1) Клін, клінец—пашчапаны на камнядрабілках камень.

2) Праграхотка—прылада, на якой прасяваюць першы і другі клінец.

геройствам перашкоды ўзяць!
было рашэньне апэрштабу.
— Гадзін за трыццаць штурмавых,
упартай воляю пранятых,
засыпаць—
сто саракавы,
услаць клінцом—
сто пяцьдзесяты!..
...Усе і ўсё у гэты час
запульсавала з новай сілай..
Рашэньням штабу у адказ
геройства дзей загаманіла...
Дзе па шляхох, за час такі
даль перамог ня возьме кожны,
там
здольны браць бальшавікі
па самым страшным бездарожжы!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У буры тэмпаў творчых спраў
геройства фактамі гаворыць...
Хоць двое сутак і ня спаў,—
ня сьпіць, таварыш Грышановіч...
— Са ўсіх машын на нейкі час,—
сказаў загадна ён,—
вось тая
сягоньня стане ў гараж—
шафёр напарніка ня мае...
...І ў гэты момант бачыў мрок,
як за стырном успыхнуў гонар,
Устаў шафёр і, быццам ток
прабег па мускулах шафёра:
— Машыну нельга затрымаць!
Зрываем працу штурмавую!
Няма напарніка—пляваць,
адзін тры зьмены адпрацую!..
— І праз агонь, і праз ваду
Упартасьць выведзе рабочых.
Машына зноўку на хаду,
хоць і не спаў шафёр дзьве ночы.
Але
імклівасьці агонь
пылаў у нэрвах як ніколі,
але
бадзёрасьць у яго
была памножана на волю...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Бярэ машына кожны рэйс
надрыўнай сілаю машыны...
Хоць пасьцялі тут цэлы лес,
і лесу мала ў каляіны.
А ноч—хоць позірк надарві
зямлі не ўбачыш пад нагамі—
цямней зьмяінае крыві,
не праламіць яе агнямі.
Быў холад ночы ап'янён
Кіпеньнем працы штурмавое...
Усе забыліся на сон,
хоць і ня спалі сутак дво
А дзесьці ў дальняй цішыні
блудзілі шолахам спакусы,
людзьмі некранутыя сны,
як нецалованыя вусны.
Але парушаны спакой
будзіў узрушанасьць да працы...
Спакусе сноў паддаўся той,
хто сіл ня меў ёй не паддацца.
І сапраўды геройства спраў
было падобна да экстазу,—
ніхто-ж нікога не змушаў
адпрацаваць дзьве зьмены разам...
...Пры кволым бляску ліхтароў,
у цемры ночы і туманаў,
са ўсімі зьменамі каткоў [1])
прышоў на лінію Галанаў.
Там без насілак і плянцоў [2]),
пераключыўшыся ўсе чыста,
ўручную выслалі клінцом
свае загоны машыністы.
Нібыта ў буру маякі
агні ўсю ноч не патухалі...
Не заміраючы каткі
дарогу штурмаў шліфавалі.
Імклівасьць тысячы людзей
хадзіла гоманам адзіным...
Нібы сыйшліся ў буры дзей
жыцьцё і сьмерць на паядынак.
За час паходаў штурмавых,
кіпеньнем мужнасьці пранятых,
засыпан—
сто саракавы,
услан клінцом—
сто пяцьдзесяты.

---

[1]) каток—машына, якой пракатваюць шашу.

[2]) плянец — савок, якім плянуюць клінец.

Алошні з гонарам пікет
быў роўна к тэрміну прыкатан,
з дакладнай вернасьцю плянэт,
на злосьць сусьветным супаратам.
Дарогу
ў слоту,
гразь
і стынь
у тэрмін даць па бездарожжы
быў здольны толькі калектыў,
дзе на сьвядомасьць
гарт памножан!

## АДКАЗ СУПАРАТАМ

У далячынь за небакрай,
пад гоман дальняе трывогі,
ва ўсе канцы ад краю ў край
бягуць-нітуюцца дарогі.
І там дзе кожнае канец
пабег за нашы небасхілы,
стаіць узброеная сьмерць
з гатовым холадам магілы.
І точыць зубы супарат...
А ці ня помняць супараты,
як мы пад громамі гармат
штыхамі бралі
гром гарматны?..
Няўжо забыты пяруны,—
над галавою бандаў белых
як справядлівае вайны
супроць вайны грымелі стрэлы?
Ніякай сілай супарат
нам творчых сьцежак не адрэжа...
У сэрцы носім гром гармат
за непарушнасьць нашых межаў.
Агонь традыцый не пагас
у нэрвах мужнасьці сталёвай...
Ёсьць шмат галанаўцаў у нас
І Грышановічаў—мільёны.
Усе мы—ворагі вайны,
хоць уключыць заўсёды здольны
геройства творчага стырны
ў геройства нашай абароны.
Супроць замежных і сваіх
тупых баранаў
і баронаў
трымаем моцна востры штых
на дбайнай варце абароны!

. . . . . . . . . . . . . . .

У далячынь, за небакрай,
пад гоман дальняе трывогі,
ва ўсе канцы ад краю ў край
бягуць-крыжуюцца дарогі.
Замест спрадвечных каляін
шляхі каменны шчыт адзелі,—
пад бурай творчаю яны,
як дні вясны памаладзелі.

Менск—Славені
1932 г.

# СЯБРОЎСКІ ШАРЖ




Малюнак Кіп іса

*..„Быў у мяне сваясаблівы аршын, з якім я падыходзіў да разгляду твораў"...*

*..„тав. Кучар вельмі цягнуўся ў хвасьце літаратурнага руху"...*

*(з пратакольнага запісу прамовы Л. Бэндэ)*

*П. ШВЭЙДЭЛЬ*

# СУСТРЭЧА

Вуліца сьціхла, апусьцела, нахмурылася. Чарапкамі насунуліся вакеньніцы на вокны ніжніх паверхаў. Шчыльна сышліся палавінкі брам. Але што карысьці, калі вакеньніцы і брамы былі з старога трухлявага дрэва, і вострая сякера да цяжкі лом змаглі-б іх лёгка раскрышыць. Зразумела, праўда была на баку старога беляра Саламона, калі, стоячы на дварэ, абкружаны суседзьмі, ён шэптам сказаў:

— Замыкайся не замыкайся—адзін канец.

Вечар накідваў на двор свой жалобны колер, усё больш згушчаючы яго. Дзесьці, пакуль што далёка яшчэ, перегукаліся вінтоўкі, і дзіўны гул шугаў над горадам. Жыхары двара павыходзілі з сваіх кватэр, бо ня ўмелі як бараніцца па адным ад таго, што прасочваючыся разам з паветрам, атручвала кроў. Сабраўшыся разам, ціха гаварылі, намагаючыся адагнаць пачуцьцё, ад якога хацелася ўлезьці ў зямлю, упхнуцца паміж цэглы сьцен. Туліліся дзеці да бацькоў, ведалі: падпаўзае небясьпека, невядомая і страшная, і ня плакалі, толькі сударгава хапаліся за рукі, за адзеньне старэйшых.

З вакна, што выходзіла на двор, высунулася жаночая галава і на людзей бухнула:

— На вуліцы... Глядзіце...

Сьцеражліва, бяз шуму людзі па сходах узышлі на гару. І ўжо з кватэр, прыхінуўшыся да засланёных вакон, скрозь шчыліны глядзелі на цьмяныя палоскі вуліцы.

Па вуліцы, якая ўсё глыбей танула ў прыцемках, цягнуліся цені. Нагружаныя скруткамі скур, тканін, мяхамі з мукой, скрынямі з невядомымі таварамі цені згіналіся пад цяжарамі, моўчкі сьпяшаліся адзін за адным. Канца ня відаць было гэтаму нязвычайнаму каравану.

З кватэры ў кватэру перадавалі разгадку ценяў:

— У горадзе крамы рабуюць...

Потым ізноў сабраліся на дварэ і доўга глядзелі ў вышыню: у горадзе пачынаўся пажар і неба чырванела нібы на сьвітаньні.

— Горад гарыць!

Людзі, заціснуўшы ў горле крык, стаялі спалоханым гуртам і водбліск пажару палымнеў у буйна-зярністых сьлязох жанчын і дзяцей. І буйней і яськей за ўсіх яны каціліся па твары Соні, калі, разьвітаўшыся з суседзьмі, яна пашла класьці спаць сваіх малых.

Так пачалася гэтая ноч.

*

Кватэра мела два ўваходы: адны дзьверы былі з двара блізка каля брамы, другія—з вуліцы. На вуліцу-ж глядзелі два вакны, якія асьвятлялі кватэру ўдзень.

Паклаўшы спаць дзяцей—шасьцёхгадовую Рахільку і чатырохгадовага Борку, Соня пільна агледзела дзьверы і для большай бясьпекі з дапамогай старое маткі падсунула да іх шафу. Каля дзьвярэй, што выходзілі на двор, яны паставілі крэсла.

Абедзьве доўга сядзелі ў цемры, напружана прыслухоўваючыся да кожнага шолаху з вуліцы. Зрэдку цішыню працінаў далёкі стрэл. Вось па вуліцы праскакаў конны атрад і чамусьці суняўся каля іхнае брамы. Соня ледзьве стрымала крык у горле, моцна затуліўшы рот рукою. Толькі, калі шум кавалькады зьнік за рогам, яна ціха, схаваўшы галаву ў падушку, заплакала.

Старая ўспамінала ў цемры ўрыўкі малітваў.

Пад раніцу, калі скрозь шчыліны вакеньніц прабілася сівое сьвятло золку, Соню разбудзіла дзяўчынка, выцягваючы ў яе з пад галавы падушку.

Спачатку яна не зразумела, што гэта адбываецца: цяжкі сон, нібы тоўсты пласт вады, стаяў над ёю.

— Мама, стукаюць! Мама!—трэслася дзяўчынка ад плачу, не адважваючыся падвысіць голасу.

Да сьвядомасьці Соні дабраўся ўрэшце голас дзяўчынкі, а потым яшчэ страшнейшае: з вуліцы асьцярожна адрывалі вакеньніцы.

Саскочыўшы з ложку, Соня кінулася ў кухню і пачала раскідаць крэслы. Яна ўжо ўзялася за завалу, калі пачула за дзьвярыма нейкі шолах і сярдзітае, незразумелае бурчэньне. Забыўшыся на ўсё, яна схапіла сякеру з кута і пабегла назад у пакой. У гэтую хвіліну жалезны прэнт з ляскам адскочыў, вакеньніцы расчыніліся. Зажмурыўшыся ад сьвятла, што лынула ў пакой, падагнаная крыкам дзяцей, Соня ўзьняла сякеру і рынулася да вакна.

Вялізнай сілы ўзмах вырваў сякеру ў яе з рукі, вылецеўшы за вакно, яна парадзіла два гукі: звон шкла і крык болю.

Рама вакна затрашчэла пад ударамі прыкладаў. У вакне выпрастаўся польскі легіянэр і, азірнуўшы пакой, накінуўся на маладую жанчыну, што застыла перад ім.

У кватэрах людзі пачулі прарэзьлівы жудасны крык, ад якога сталі біцца галовамі аб сьцяну, думаючы гэтым заглушыць сваю роспач.

Галасы дзяцей сьвідравалі паверхі.

І раптам адзін з іх загучэў з усяе сілы, залунаў па двары, на сходах. Дзіцячыя кулачкі забарабанілі па жорстка-маўклівых дзьвярох.

Стрэл перарваў гэтую жудасьць.

Гадзіны праз дзьве, калі адгучэлі крокі забойцаў, людзі, палахліва прачыніўшы дзьверы, убачылі страшныя сьляды дзікага злачынства.

Па двары, ашалеўшы, бегаў кот—адзіны хто бачыў сьмерць і застаўся жывы.

*

Стомлены бойкамі атрад уваходзіў у горад. Паліла сонца і дарожны пыл клаўся на байцоў, зьмешваючыся з іхным потам. Пыл патушыў медзь аркестра, але марш гучэў надзвычайна бадзёра.

З раніцы ў горадзе было бязуладзьдзе. Панскае войска адышло, пакінуўшы горад у руінах, якія яшчэ доўга не дадуць людзям забыцца на крывавыя дні. Яшчэ доўга будуць бацькі дзецям, а дзяды ўнукам расказваць падзеі гэтых дзён, як страшэнную казку, або немарачны сон. На гэтых успамінах высьпее клясавая нянавісьць, якая будзе весьці калёны новага пакаленьня ў бой.

З раніцы ў горад зьявілася чырвоная выведка і, пазнаўшы яе, людзі доўга беглі за ёю, кідаючы ўсьлед словы радасьці і прыязьні.

А цяпер вось у горад уваходзіў і першы атрад.

Ахінуты гукамі аркестра, лёгка ішоў чырвонаармеец Ісак Рыхтар, радасна азіраючы горад, знаёмыя вуліцы і завулкі.

Успаміны выціскаюцца адны аднымі. Успамінаецца жонка, якую даўно ня бачыў, успамінаюцца дзеці, якія падрасьлі ма быць за час разлукі.

Радасна байцу Ісаку Рыхтару.

Радасна, бадзёра праходзіць атрад. Горда азірае кожны баец вясёлы натоўп, што рушыць навакол, нарастаючы з кожнай хвілінай. Людзі прыбягаюць з кветкамі, асыпаючы імі атрад. Рукі працягваюць чырвонаармейцам хлеб, варанае мяса... Дзятва забягае ў хаты, хапае лепшае, што ёсьць з ежы, і кідаецца даганяць атрад.

Атрад зварочвае направа, знаёма ўсьміхаюцца вывучаныя з дзяцінства сялібы. Ці ня думаюць яны ісьці гэтай вуліцай?... Так і ёсьць.

Некалькі слоў камандзіру, які нахіліўся з каня, каб пачуць у гэтым сьвяточным гомане гарачую просьбу байца.

Скрозь натоўп кінуўся да старой трохпавярховай камяніцы чырвонаармеец.

Дзьверы з вуліцы зачынены, мабыць пашла кудысьці жонка. Трэба пачакаць, суседзяў распытаць. Але чаму гэта вакно выбіта?

Чырвонаармеец урынуўся ў браму.

— Ай!!!

— Ісак?!

— Хана, што з вамі? Скажэце, дзе Соня? Дзе дзеці? Ды чаго вы мяне палохаецеся?

У голасе нарастае трывога, твар крывіцца, позірк зьлізгае ў адчыненыя з двара дзьверы.

— Ды што тут робіцца!?

Шырокімі скачкамі кідаецца ён у сені. Ляцяць, ударыўшыся аб сьцяну, рыўком расчыненыя дзьверы.

Цішыня.

Потым страшнае зьвярынае выцьцё склікае людзей, і людзі зьбягаюцца.

У пакоі б'ецца чалавек над чатырма трупамі, якіх да яго прыходу ня ўправіліся пахаваць.

Аркестр выбухае ў далячыні новым, яшчэ больш прыгожым маршам, падтрыманы радасным гулам людзей.

## СЯБРОЎСКІ ШАРЖ



Шарж Кінніса

На С. Баранавых

„Матчын сын“—
вядомай маткі.
Але нам
цікава ведаць:
Чый ты ўнук,
якога дзеда,
І сынок
якога таткі?

*А і Б.*

*М. УМАН*

# НЯНАВІСЬЦЬ

Мы ідом паперадзе тае зьмены на пяць працантаў—сказаў Давід, разглядаючы каля сьцяны паказьнікі выкананьня.

— А сёньня тая зьмена нас перагоніць,—адгукнуўся адзін у кажушку, што сядзеў з групаю рабочых на станіне Бом-зэга. Ён падняўся, нецярпліва пачухаў русую бараду і дадаў:

— Гуляюць... папярэдзілі-б учора.. Ды што й гаварыць, вядома, лішэнцы.

— Слухай,—зьвярнуўся ён да Давіда,—ты паслаў-бы Гершона да іхнага гэтага брыгадзіра, да Грынштэйна, можа-ж ён даў нам коняй, ды мы-б і самі маглі працаваць.

— Я, брат, паслаў ужо,—адказаў Давід Міхайлаву.

— Але нешта няма адказу.

— А па-мойму стаімо, ну і няхай; нават ня шкода,-адгукнуўся Гершон. Ён сядзеў поруч напоўлежачы, выцягнуўшы ногі і склаўшы рукі на жываце.—Калі-б мы па нашай віне ня выканалі, ато-ж хурманкі ня выехалі. А на сабе калод ня прыцягнеш... Трэба сярод іх работу распачаць,—загаварыў ён да чалавека, што сядзеў на кокішках і старанна выціраў анучкаю падшыпнік. Хлопец падняў голаў, шэрымі вачыма прабег па складзеных на жываце руках, суняўся на твары, сілячыся зразумець па імці то ён гаворыць сур'ёзна, ці жартуе.

— Трэба сярод іх работу павесьці,—гаварыў далей Гершон,— ты-б, Коля, іх у камсамол прыняў,—самаздаволена расьсьмяўся ён.

Коля порстка падняўся, кінуў анучу.

— Ударнік!—сказаў ён да рэшты хлопцаў, паказваючы рукою на Гершона.—Надзеў пяць пар штаноў, ды дзьве фуфайкі і разьлёгся, як калода.

— Я надзеўся,—адказаў Гершон паднімаючыся,—бо зіма. А ты рызыкуеш, форс, як у паненкі распусьціў. Хаця-б кашулю зашпіліў,—на ўтрыманьне страхкасы спадзяешся?

— Ты за мяне менш за ўсё клапаціся,—адказаў Коля.—Я толькі тыдзень, як перастаў купацца.

— Ды кіньце вы!—коратка абарваў іх Давід. Ён падышоў да іх блізка, заўважыў, што на падлозе валялася вечка масьлёнкі,

падняў яе, надзеў і ўважліва агледзеў Бом-зэгу. Вочы яго суняліся на прыбітай дошцы, што красавала чырвонымі літарамі:

**„Прамфінплян Бом-зэгі**
**600 калод за зьмену“**

Ён выпрастаўся, злосна махнуў некаму кулаком, вылаяўшыся: „Сволачы. За прагулы не дапусьцім да работы“.

— Трэ будзе за іхнага брыгадзіра ўзяцца, за Грынштэйна—сказаў Міхайлаў.

— А па-мойму Грынштэйн не вінаваты. Ён нядрэнны чалавек, працавіты...—абазваўся Гершон.

— Нядрэнны чалавек...—перакрывіў яго Давід. Гэты нядрэнны чалавек сваімі прагуламі ўсю работу падрывае. Знаем мы гэтага нядрэннага чалавека: купцом быў. Некалі насупроць нас меў пяць мураваных дамоў... А можа ты шкадуеш яго?—запытаўся ён у Гершона.

— Але, шкадую,—адказаў Гершон.—Калі чалавек усё жыцьцё не працаваў, жыў інакшым жыцьцём, а на старасьць нават дамы... Але шкадую, гаварыў Гершон далей, устаючы з месца.— Калі Грынштэйн, вядомы Грынштэйн, працуе на кані, дык усе павінны яго шкадаваць.

Ды ты дурань!—махнуўшы рукою і адыходзячы ад Гершона сказаў Давід. Ён зрабіў некалькі крокаў, вярнуўся і, хвалюючыся дадаў:—Ды ты зразумей, што гэты Грынштэйн, цябе, мяне, усіх нас ненавідзіць, ён радуецца малюсенькай нашай няўдачы, прастою! А ты яго шкадуеш... Ды ён ня горш за нас і цяпер жыве—шкуру дзяруць, зарабляюць з коньмі па пяцьдзесят рублёў на дзень.

— Правільна! Давід правільна гаворыць,—падхапіў Коля.— Табе, Давід, як матарысту, давядзецца з гэтаю арцельлю пагаварыць: або—або.

Ён падняўся, гойдаючыся па-спартсмэнску, накіраваўся да свайго фрэнчу, што вісеў на сьцяне, вынуў з кішэні пачку папярос, і, лоўка пабіваючы па дне, выкідаў адну за аднэй папяросы, даючы закурыць.

— Не, хлопцы,—гаварыў ён далей,—нам трэба нашу брыгаду перабудаваць, каб не залежаць ад гэтых лішэнцаў ды іхных коняй. Наша-ж брыгада сплянована па-шкодніцку, вялікага запасу калод даць нельга, няма месца; вот табе і прарывы. А ўвесну ды ўвосень—паводкі. Эх, суччыны сыны...

Давід сплюнуў.

— Вот каб мы з табою, Давід, сустрэлі шкодніка—сказаў Коля, запальваючы запалку,—мы-б...

Давід уважліва паглядзеў на Колю.

— Хлопцы, ідзеце ў курыльню!—абарваў ён раптам,—ато пажарнік убачыць—будзе буза. А я схаджу на пляц.

— От гэта хлопец,—сказаў Коля, з захапленьнем праводзячы высокую Давідаву фігуру, што спрытна скакала па калодах.— Люблю Давіда,—гаварыў ён далей, у курыльні.

— Люблю за ягоную нянавісьць. За клясавае чуцьцё. Вы, кажа ён мне, камсамольцы, іншы раз ня надта пільныя можа таму, што не пераж;ылі гэтае эксплёатацыі, знаеце яе толькі па апавяданьнях, а маё дзяцінства атручана нянавісьцю...

— А па-мойму Давід злосны і нэрвовы чалавек,—старанна затоптваючы недакурак сказаў Гершон.

— От і я яго ў першыя часы таксама лічыў злосным,—усьміхаўся Міхайлаў.—Памятаю, прышоў я працаваць. А Давід ходзіць, ды мяне ўсё вымацвае чорнымі, вялікімі вачыма. Вот чорт, думаю я, сам нікому не паказваецца, а мяне вымацвае. Але як распазнаў, дык і адносіны перамяніліся.

— Ён, як добры конь, што сярод дарог і сьцежак чуцьцём находзіць правільную дарогу.

— А ты не такі,—адказаў Міхайлаў Гершону.

— А які-ж я?—запытаўся Гершон, паварочваючыся да яго тварам,—што я не па правільнай дарозе іду? Контрэвалюцыянэр?

— Не,—адказаў Міхайлаў,—ты ня контррэвалюцыянэр, але ты, як табе растлумачыць... хоць ты і стары рабочы, але... у цябе няма вось гэтага, ну...

— Давід часамі гаворыць мне,—перабіў Міхайлаў,—ты прыглядайся да людзей. Наша будаўніцтва ўсіх апранула ў спэцоўкі. Іншы раз цяжка адрозьніць ворага ад прыяцеля. Трэба быць пільным. Але тое, што іншы раз хавае спэцоўка—выдае язык... Я так і рабіў. І от, памятаеш, Гершон, калі ты быў прафарганізатарам, ты прыняў у саюз таго, як яго прозьвішча?—каторага арыштавалі пасьля?

— Якушэвіча,—падхапіў Коля.

— Але, Якушэвіча. Вось ён усё хадзіў, скардзіўся на сталоўку, пашэптваючыся нешта з гэтаю Грынштэйнаваю брыгадаю. Я адразу выступіў на сходзе, каб ня прымаць яго ў саюз. А ты, Гершон, яго абараняў—добры, казаў, хлопец.

— Яшчэ я вам раскажу,—гаварыў далей Міхайлаў,—быў такі выпадак. У часе адпачынку я езьдзіў дахаты, і вось у нашым калгасе...

— Пускай Бом-зэгу!—перарваў апавяданьне Міхайлова нехта з пляцу.

— Давай да Бом-зэгі!—перадаў Міхайлаў, вымаючы з запазухі скураныя, падобныя да блінцоў, рукавіцы.

Рабочыя сталі на свае месцы. Запрацавала Бом-зэга, па трансфарматару пачалі паўзьці калоды, паказваючыся зьнізу і сваімі канцамі нагадваючы рулі вялікіх гармат.

Брыгада працавала горача. Узбуджаныя, весела падганялі адзін аднаго. У такія хвіліны творчага пад'ёму Давід успамінае

дзяцінства, сухую, згорбленую матку, што брала ад Грынштэйнаў работу за кавалак хлеба, бацькаву фігуру, скручаную ў камок каля шавецкага варштату, і адзінотныя глухія ўдары малатка. І гэта адтуль, з дзяцінства, вырастала і нянавісьць да тых, на каго даводзілася працаваць.

Давід варочаўся з сталоўкі. Ішоў сьнег, тонкімі мокрымі пушынкамі ён біўся па твары, слаўся на заводзкім двары і навісаў на падваконьніцах.

Неўзабаве меўся прагусьці гудок.

— Калі мы на хаду, ня сунімаючы Бом-зэгі, яшчэ раз натачым пілу, і пачнем працаваць да гудка, дык ня гледзячы на прастой, мы сёньня плян выканаем,—сказаў упэўнена Давід Гершону.

Гершон, пасьля тлустага абеду, калупаючы запалкаю зубы, марудна адказаў:

— Дава-ай.

Давід гаварыў:

— Цяпер будзем працаваць утраіх. Колю пашлём на прыборку. Пасьля Міхайлаў папрацуе за мяне,—матарыст-жа ён,— а я натачу пілу.

Намаркованы плян бадзёрыў, радаваў.

Раптам Гершон пацягнуў яго за рукаў.

— Бачыш,—шапнуў ён,—бачыш вунь таго высокага, сутулаватага? Гэта-ж той, што быў тады ў нас, шкоднік, з прампартыі...

Давід прыпыніўся. Гершон гаварыў далей.

— Як прафэсар усёроўна. І валёнкі якія. Мабыць пакаяўся і хоча апраўдаць сябе на рабоце...

Давід ня слухаў яго. Даўно знаёмае адчуваньне ўзгарэлася. Думкі блыталіся, забылася Бом-зэга, усё перастала існаваць. Падпарадкаваны адчуваньню нянавісьці Давід бачыў толькі сутулаватую фігуру гэтага чалавека, і ішоў яму насустрач.

— Эй, грамадзянін!—задыхаючыся ад нянавісьці прахрыпеў ён.

Сутулаваты суняўся.

Давід падыйшоў да яго шчыльна. Ен упіўся вачыма ў яго схаваныя за рагавымі акулярамі савіныя вочы. Сутулаваты захваляваўся, як-бы чакаючы ўдара, галава яго ўдалася ў плечы, маленькія вочы трусьліва забегалі.

Давід усім корпусам падаўся наперад, як-бы хочучы стаць над чалавекам.

Раптам пачуўся гудок. Давід уздрыгнуў. Усё засталося ззаду, за карпусамі заводу, за заводзкім дваром. Гэта-ж, як яны меркавалі, трэ-было цяпер быць каля Бом-зэгі, пусьціць яе. Спазьніўся... Пагроза пляну...

Рука раптам апусьцілася. Твар, што дыхаў нянавісьцю, набыў мірны выгляд. Сьціснутыя кулакі размякчэлі.

Сутулаваты выпрастаўся, галава вышла з каўняра.

— Вы хацелі што-небудзь сказаць?—заікаючыся пытаўся ён.

Давід паказаў недзе ў той бок, на гудок.

— Хацеў запытацца якая гадзіна,—падумаў сутулаваты, адыходзячы дробнымі порсткімі шагамі і азіраючыся назад.

— Спазьніліся, мабыць,—думаў Давід, даганяючы Гершона.

— А можа і сапраўды ён захоча сумленна цяпер апраўдаць сябе перад пралетарыятам,—не пакідаў дапытвацца Гершон.

Давід, ня слухаючы яго, гаварыў:

— Цяпер кожная хвіліна дарага. Давай хутчэй. Трэба будзе ўзяцца так, каб...

Ён ня мог падшукаць слоў, каб выказаць сваю думку.

— Няўдала вышла — думаў ён далей пра сваё спатканьне з сутулаватым,—ён-жа цяпер нястрашны. А нянавісьць трэба берагчы... згодзіцца... Ворагаў яшчэ шмат.

Сакавік, 1932 г.
г. Бабруйск.

# ЭПІГРАМЫ

**На М. Чарота**

Ці не марозна, таварыш Чарот,
„Босым" хадзіць адзінаццаць год.

*С. Дарожны*

**На Кузьму Чорнага**

Нікому так не шанцавала...
Судзьба законы мудра піша.
Калі старое Ўзвышша пала,
Ён ўзьлез на новае Узвышша.

*Ц. Гартны*

**На А. Кучара**

Я думаў раз пад грозны бас
І выгляд крытыка надзьмуты:
„А што, як вырасьце у нас
Літаратура ліліпутаў"?

*М. Лужанін*

АДАМ РОСЕНЬ

# ШЛЕ ЭЎРОПА...

ШЛЕ Эўропа нам навіны
Дротам і бяз дроту.
Робяць буры-крутавіны
Там сваю работу.

Рушаць буры гмахі, замкі,
Кволыя халупы,
Выдуваюць сэйфы, банкі,
Мостам сьцелюць трупы.

Выганяюць голых з хаты,
Кідаюць бяз працы.
З плеч зрываюць транты-латы,
Без разбору нацый.

Ўсю Эўропу крызіс жаліць,
Лёг на грудзі жвірам.
Самагубстваў сьцяг паднялі
Каралі-банкіры.

Бурай зломаны варштаты,
Сьвет стары карыцца!
Паламае бура краты—
Сілай бальшавіцкай.

Нарастаюць гнеўна хвалі,—
Хвалі штурмавыя,
Што ў Кастрычнік даканалі
Царскую Расію.

Здань камуны пойдзе вольна
Штрасаю бэрлінскай.
Будзе свой там новы Смольны
І палац Кшасінскай.

Масква

ГЭЛЬМУТ ВЭЙС

# АПЛЯВУХА

Франка быў кіраўніком прадпрыемства „Электрычныя машыны Ф. Л.“

Кожны дзень, калі раніцой а палове шостай разьлягаўся гук сырэны, Франка быў ужо на месцы, пунктуальны, як храномэтр. Швэйцар з ласкавым прывітаньнем сустракаў яго і Франка зьнікаў у сваім габінэце.

Праз хвіліну ўжо шэры плашч яго разьвіваўся сярод двара і ля галоўнага ўваходу, перад кантрольным гадзіньнікам або наверсе ў складзе, дзе адна ля аднэй стаялі шэрагам матальныя машыны. Усюды быў Франка, прыглядаўся, прыслухоўваўся. Тэхнічны дырэктар прыходзіў а восьмай і ні аб чым не клапаціўся. На першым паверсе лязгалі рэмінгтоны, а вакно ў яго прыватным габінэце заўсёды было шчыльна завешана, бо ня можна было перашкаджаць дырэктару, калі ён пераглядаў новыя рысункі і праекты.

Затое-ж Франка быў усюды. Бяда таму, хто ў раніцу спазься хоць на адну сэкунду. Бяда таксама і таму, хто выпадкова забыўся голасна прывітаць Франка. Стары Кругер, рабочы станка № 2 мог-бы расказаць аб гэтым шмат цікавага.

Эміль Кругер быў чалавек маўклівы. Ён адкрываў рот толькі тады, калі бяз гэтага ня можна было абыйсьціся. Але кланяцца ўсё-ткі яго навучыў Франка за тыя тры гады, на працягу якіх ён выконваў функцыі кіраўніка. У першыя часы градам сыпаліся далікатныя, уласьцівыя Франка прозьвішчы, напрыклад, „лянівая падла“ або „хамуйла“; а потым і сапраўдныя вылічэньні з зарплаты—і ўсё за, тое што асьмеліўся не прывітацца з панам Франка.

Тады давялося сагнуцца ўрэшце і Эмілю Кругеру. Што Франка і дырэкцыя складалі адзінае кодла,—аб гэтым добра ведалі ўсе.

Пачалася „эканомія“. Уводзілася „рацыяналізацыя“. Адразу было зволена пяцьдзесят асоб. Асабовы склад быў прапушчаны скрозь сіта. За кошт мужчын у некаторых аддзелах павялічылася коль-

касьць жанчын. Падвойны лік вучняў павінен быў заняць месца цэлага шэрагу кваліфікаваных рабочых.

Франка адчуваў сябе ў сваёй стыхіі.

— Яшчэ ня тое будзе,—сказаў ён аднойчы дырэктару на самым пачатку, а потым... з галавой закапаўся ў падпісваньне папер ды ў сьпісы асабовага складу. Прароблены былі спробы з рухомымі станкамі і, дзякуючы новаму тыпу змацаваньня цьвікамі ручак, зноў атрымалася некаторая „эканомія". Потым скончыўся тэрмін старога тарыфнага дагавору; з новым былі зьвязаны пэўныя пагоршаньні і ў пагадзіннай і ў зьдзельнай зарплаце.

Штодзённа раніцой прыходзіў Франка на прадпрыемства і прыглядаўся, ці няма „нездаволеных". Калі праносіліся чуткі, што зьявіўся „кулак-апостал"—(гэта было прозьвішча, якое ён сумленна заслужыў) адразу ва ўсіх аддзелах жвава рассыпаўся трэск і лязгат. Што-ж можна было зрабіць яшчэ апрача гэтага?—Ня надта быў упэўнены Франка адносна свайго становішча. „Нездаволеныя"—ліха на іх, не хацелі зрабіць яму прыемнасьць і раскрыць свае карты. З упэўненасьцю падыходзіў Франка толькі да Эміля Кругера. Але апошні быў на гэтым месцы ўжо дваццаць год, і ўрэшце немагчыма-ж было ў даным выпадку ісьці надта далёка...

У часе перапынку на полудзень пахаджаў Франка з тэхнічным дырэктарам і ўпаўнаважаным па двары, па машынных залях, аглядаў варштаты, начыньне. Рабочыя, у большасьці згарбачаныя, паджылыя мужчыны і жанчыны ціханька гутарылі паміж сабою і раз-па-раз цішком кідалі вокам на ўсемагутнага кіраўніка прадпрыемства. Эміль Кругер упарта маўчаў.

— Ну?—зварочваўся Франка да дырэктара і ў гэтым пытаньні як быццам было чуваць: „Што, у добрых абцугах мы іх трымаем"? А потым, мабыць, ішла гутарка аб тым, як пойдзе справа з невялічкім падвышэньнем зарплаты. Ціха стаялі машыны, маўчалі людзі—спалоханыя пэрспэктывай звальненьня, беспрацоўя, голаду.

Роўна а палове першай зноў стагнала сырэна.

Прыблізна а палове чацьвертай, незадоўга да сканчэньня работы, Франка звычайна заходзіў у тэхнічнае бюро і гутарыў з канструктарам. Перш за ўсё аб сваіх новых „вынаходках", потым на больш пікантныя тэмы. Франка ведаў безьліч такіх рэчаў, якія ён называў „дасьціпнымі анэкдотамі" і, зразумела, для сальнасьцяй заўсёды знаходзіўся той ці іншы слухач. Калі Франка сьмяяўся, з абодвых бакоў яго доўгага носу рабіліся глыбокія складкі і гладкі драўляны твар сьцягваўся як гума. За дзьве хвіліны перад тым, як звон абвяшчаў канец заняткаў, ён нязьменна глядзеў на гадзіньнік, хапаў пад паху скрутак вашчанай паперы і выходзіў на прадпрыемства, каб да апошняга моманту ўсім было вядома, што толькі ён мае тутака права голасу.

І так міналі дзень за днём, месяц за месяцам.

З вышыні сваёй магутнасьці Франка быў скінуты досыць непасрэдна і зьнянацку. Гэта вышла, уласна кажучы, зусім проста, але ніхто не палічыў-бы за магчымае падобнае здарэньне.

Каля другога варштату сядзеў стары Кругер, а каля трэцяга маладая работніца.

Дзяўчына была цяжарная.

Эміль Кругер часта ўтаропліваў у яе зьдзіўленыя вочы.

Дзяўчына як быццам ня мела нічога супроць таго, каб у сваім стане штодзённа праводзіць дзесяць гадзін за цяжкой працай. Малакроўная, з дзіцёнкам пад сэрцам—ці доўга-ж цяжарная жанчына можа вытрымаць гэта? У дадатак бязупынны смурод ад мазі, шум і гвалт і манатонная праца...

Беспарадна круціліся навакол яе думкі Эміля Кругера.

Надта доўгі час ён тутака працаваў, каб не знайсьці адказу на свае пытаньні. Калі работніца робіцца цяжарнай і адмаўляецца працаваць—што здараецца тады? Яе звальняюць з прычыны „недахвату“ працы... Але як будзе існаваць дзяўчына з малым?

Калі Эміль Кругер добра ўпарадкаваў свае думкі, дык усё зрабілася для яго вельмі ясным. І штампуючы свае пласьцінкі, ён усё часьцей паглядаў у бок трэцяга варштату.

Якраз у апошнія дні дзяўчына пачала траціць сілы. Яна працавала больш павольна, менш уважна, час ад часу дрымала, а потым, з жахам схамянуўшыся, праз некалькі хвілін зноў зьнянацку паддавалася сваёй слабасьці. Эміль Кругер бурчэў сабе пад нос і нездаволена маўчаў, зіркаючы бязупынна ў напрамку трэцяга варштату. І вось, крыху нечакана, наляцеў скандал.

Праз некалькі хвілін па абедзеным перапынку вынырнуў добра знаёмы шэры плашч. Франка пачаў сноўдацца па ўсім будынку, міма машын, ля варштатаў. Ля трэцяга варштату— ага! Франка асьцярожна, на пальчыках падкраўся бліжэй. Ага! паглядзеце—тку! Франка спыніўся перад самай машынай. Варштат не працаваў. Работніца прысела на карачкі, твар у яе быў бляды, галава нахілілася ўперад.—Вось якая справа!—Франка праехаўся далоньню па лысым чэрапу і зарычэў.

— Лянівыя падлы! Чортава насеньне! Дык гэта вы спаці!

Раптам Франка аб чымся здагадаўся.

— Ага!—забрахаў ён да дзяўчыны, якая з жахам у вачох не кранталася з месца і смоўргалася ў замяшаньні ва ўсе бакі.

— На фабрыкацыю дзяцей дык у вас хапае часу, а на....

Тады раптам спыніў работу другі варштат. Франка з крыкам і рыканьнем выкідаў свае ўлюбёныя моцныя словы. Якраз у той момант, калі ён выкінуў штосьці выключна брыдкае, ён заўважыў, што нехта стаіць ля яго. Стары Кругер, які ніколі не адкрываў вуснаў і ня лічыў за патрэбнае вітацца—стары Кругер з другога варштату раптам вусны адкрыў, ды так адкрыў, што кіраўнік прадпрыемства ад вялікага зьдзіўленьня спыніўся, ня скончыўшы сказу.

— Франка!—сказаў Эміль Кругер зычным голасам і са спакойнай развагай.—Франка, ведаеш, хто ты такі? Ты—падлюга!

І ў той самы момант ляснула звонкая аплявуха. Франка спатыкнуўся, стукнуўся галавой аб варштат, ды так што кроў палілася.

І Франка, усемагутны Франка, як пабіты сабака пабег паміж машынамі на вачох у пэрсаналу, падаючыся да выйсьця.

— Во-які!—сказаў Эміль Кругер і нязграбна выцер рукі аб сваю сінюю блюзу.

— Гм...—загурчэў ён і пайшоў у канцылярыю забраць свае дакументы...

З нямецкае мовы пераклаў
*К. Даўкша.*

*КРАПІВА*

# ЭПІГРАМЫ

**Едзе крытык малады**

(Да 23 красавіка 1932 г.)

На замораных гнядых
Сам не падкаваны,
Едзе крытык малады
З пугай дратаванай.

Вое нялёгкі па гразі
Па калодкі грузьне:
— Гэй, папутнік, ня бузі!
Шавялі, саюзьнік!

Вось дастану па вушах!
Гэй, шамкамі бразгай!
Выпаўзай на біты шлях
З каляіны гразкай.

— Вунь віляе той хвастом,—
Ды паддай-жа пэнду!—
„Указуюшчым перстом"
Напраўляе Бэндэ.

Ходзіць пуга па хвасьце:
— Не балуй, папутнік!
На пятнаццатай вярсьце
Не сьцярпеў пакутнік:
— Крытык, родненькі, даруй
Мне з маёю музай;
Кіраваць то ты кіруй,
Ды ня вельмі тузай.

**На „Матчынага сына" Сымона Баранавых**

У людзей пра „Сына"
Кепская гамонка,—
Зьвешана чупрына,
Нудзіцца Сымонка:

Хоць дзіцятка гніла,
Але бацьку міла,

Хоць дзіцятка ўрода,
Але бацьку шкода,

Хоць дзіця бяз клуба,
Але бацьку люба.

**Чыжык**

(Эпіграма—літмантаж) [1])

На дэбют крытыка Аркадзя Куляшова

— Чыжык, чыжык, дзе ты быў?
— За гарой Максіма біў.
„Дзюбаў, дзюбаў, аслабеў,
Толькі збрудзіў, а ня зьеў".

. . . . . . . . . . . . . . .

[1]) З людзей па радку, а мне эпіграма у гэтым вершы толькі адзін радок мой

# У МАЙСТЭРНІ

Гучна зьвіняць сякеры,
Шархаюць вострыя пілы.
Сыплецца веерам шэрым
Завея альховых апілак.

На шырмах зазыўных плякатаў
Фарбы—вясёлкавай гамай.
Заклікам дышаць плякаты—
Жывых перамог дыяграмы.

Падаюць белыя стружкі,
Сьціпла габлюе рубанак.
Ветрамі восень цярушыць
Мглістую цемень тумана.

— Хлопцы, давайце праверым,
Што ў нас яшчэ не гатова.
Радкамі на белай паперы
Кладуцца агністыя словы.

Працай напорнай, упартай,
Плян свой вытворчы асілім...
І сьмех выбухае і жарты
Ад маладосьці і сілы.

А ўсё-ткі ахутвае стома,
Просіць рука адпачынак.
На момант сьцішаецца гоман,
Сьцішаецца на поўгадзіны...

Затым—наліваюцца нэрвы
Бадзёрай, магутнаю сілай.
І зноўку зьвіняць сякеры,
І шархаюць вострыя пілы.

Віцебск, 1932 г.

# НА ПРАПОЛЦЫ

(З УЗБЭКСКАЕ)

Паглядзі—усьміхнулася пышна зара,
Птушкі кідаюць цёплыя гнёзды-хаціны,
Прабягае вятрыска і скроні гараць
пацалункамі кветак даліны.

З-за далёкага ўзьлёту ледзянай гары,
Валасы зачасаўшы шырокай рукою
Вышла сонца з усьмешкаю дзіўнай такою,
Ў абдымкі хоць зараз бяры.

З прахалодай ружовага раньня-кастра
Узяліся мы разам з табой за джаякі;
Мы палолі і з плеч ападала гара,
Ні пакуты, ні крыўды ніякай.

Бавоўна цьвіла, як вясновыя мары,
Дзе кветкам падзеньні яшчэ не знаёмы,
І працы агульнай нас грэлі пажары,
Мы ў працы і ў песьнях ня ведалі стомы.

Ў магутных руках захлінаўся кітмень,
Ці зьлічыш ты радасьці й тэй асалоды,
Што ў мудрых жаданьнях праносіць струмень,
Узбуджаны сонцам з пад цёмнага лёду.

Мы палолі зямлю, абліваліся потам,
І што грала на жоўтых далоньнях праменьняў—
З пацалункамі шчасьця паклалі мы потым
На чало залатое зямлі і каменьнях.

Крывавы алмаз, нацапіўшы на грудзі
закацілася сонца за дымныя далі ракі.
Вось скончана праца, вяртаюцца зоры і людзі
І вечар ва ўсе пралязае куткі.

Вольны пераклад
*В. Маракова*

ВАСІЛЬ КАВАЛЬ

# ЭКЗАМЭН

(Запіскі курсанта)

Пятнаццаць дзён мы кружылі бясконцымі дарогамі па пярэстых і залатых лясох, па карчэўю балот, па сжатых і сумных палёх, дзе на іржэўніку завівалася павуціна і пражэрліва крычала вараньнё. Мы начавалі ў лясох пад нізкім і брудным небам, якое аблівала нас дажджамі, а стромкія чырвоныя сосны панура падпіралі гэтую гнілую столь; часам неба сьвятлела і па ім гулялі белыя валокны хмар. Мы рабілі пераход за пераходам, праходзілі сотні кілёмэтраў, даючы бой «супраціўніку», адступалі пад гарматны гул. Гукі кананады спляталіся з крыкамі «ура» і стваралі непаўторную баявую музыку.

Гэта называлася манэўрамі. Мы былі ва ўмовах блізкіх да баявых абставін. Праўда, тут ня было ні забітых, ні раненых, усё было ўмоўнае, але нам трэ' было многа вытрыманасьці, суровай рэвалюцыйнай дысцыплінаванасьці.

Пройдзены самы цяжкі, самы суровы пераход у нашых шматлікіх паходах. Учора мы пад гукі маршаў і песьняў, змораныя бяссоннымі начамі, вярочаліся ў горад, у свае казармы. Як сустракалі нас працоўныя гораду! Яны стаялі шчыльнымі шарэнгамі са сьцягамі, што калыхаліся пад ветрам: на плякатах было напісана аб непераможнасьці Чырвонай арміі і гордасьці намі, байцамі яе.

— Няхай жыве Н-ы стралковы полк, які заняў першае месца на вялікіх асеньніх манэўрах!

Так выкрыквалі нам.

А камдыў перад чатырма выстраенымі ўсьцяж дарогі палкамі прывітаў нас:

— Няхай жыве Н-ная «непераможаемая» дывізія!

Мы былі мокрыя ад назойлівага дробнага дажджу, але з сілаю пераможцаў крычалі «ура».

— Ні дрэннае надвор'е, ні суровыя баявыя абставіны,—гаварыў камдыў,—не маглі зламаць волі і ўпартасьці байцоў на манэўрах. Мы білі ворага ў самых нясприяючых умовах. Вы, байцы, і камандзіры, паказалі добрую вывучку, жалезную дысцыпліну. Ад імя камандаваньня дывізіі—дзякую! Дывізія паказала, што яна гатова! Што яна ў любы час дню і ночы можа выступіць для абароны рэспублікі. Няхай жывуць байцы і камандзіры—ударнікі баявой вучобы!.

І доўга-доўга грымела ў паветры:

— Няхай жыве абароназдольнасьць Чырвонай арміі!

Мы каля сваіх казармаў. Наш камандзір палка, хаваючы ветлівую ўсьмешку і ласку ў прыжмураных шэрых вачох, наш баявы камандзір-чырвонасьцяжнік і лепшы таварыш, сказаў коратка аб нашай перамозе, як і заўсёды

крошкі пажартаваў в нашага вы-гляду. Мы былі вмораныя, шынэлі нашы брудныя, запэцканыя ў глей і акопную зямлю—і ўсё-ж у нас была найвялікшая радасьць.

— За ўдарную работу,—сказаў кампалка,—даю вам тры дні адпачынку.

У казарме мімаволі пацягнула да ложкаў,—мы сьпім бяспросыпу цэлыя суткі ўзапар.

Цяпер пройдзеныя пераходы здаліся толькі далёкім марывам, слабым водгукам кананады. Дыстанцыяй вялізарных памераў стаў адзін дзень у нашай сьветлай прасторнай казарме, у якой пражылі мы такі доўгі і такі кароткі суровы год.

Наша каманда аднагоднікаў (усе сто чалавек) ужо вярнуліся ў сваю казарму, расставілі ложакі так, як яны калісьці стаялі. Да бляску начысьцілі кулямёты і вінтоўкі; яны зараз так спакойна і мірна дрэмлюць у пірамідах. І таму мы думаем, што нічога не зьмянілася. Аджа мы за гэтыя дні сталі іншымі. На манэўрах мы былі камандзірамі разьдзелаў, памкамразьдзеламі, камандзірамі аддзяленьняў. За ўдарную работу, выдатную баявую вывучку прадстаўлены кампалка да ўзнагароды Ігнат Бойка, Стась Галевіч, Саламон Сізоў, Антон Дашковіч і цэлая шарэнга іншых нашых лепшых курсантаў і таварышоў.

У нас яшчэ занадта многа ўражаньняў ад манэўраў, каб думаць пра што-небудзь іншае: таму ўсе гавораць толькі пра гэта. Ігнат Бойка расказвае, як яго разьдзел, пасланы ў выведку, зблудзіў у балоце і як ён, валявы камандзір, па азімуту ў незнаёмай мясцовасьці выводзіў яго. Стась Галевіч, ратуючы ад дазораў супраціўніка данясеньне камроты, кінуўся ўпачы ў раку; ішоў праліўны дождж; толькі з вялікімі патугамі, ухапіўшыся за выпадковы натраплены ў вадзе маленькі плыт, пераплыў на другі бок глыбокай і ў тым месцы шырокай мутнай Бярозы.

— Ну, Галевіч, калі-б на тваё шчасьце ня плыт і ты ня быў добрым фізкультурнікам, карміў-бы ты ракаў недзе на дне Бярозы,—дабрадушна сьмяецца з яго Антон Дашковіч, і пачуцьцё дружбы цёплымі іскрынкамі сьвеціцца з вялікіх наіўных вачэй.

— Усё можа быць,—спакойна згаджаецца Галевіч і ўсьміхаецца шырокай аж да вушэй усьмешкаю.

— Яшчэ добра, што ў мяне ня было вінтоўкі, а так-бы, канечне... Цэлы дзень дрыжэў потым ад холаду, думаў, што захварэю. Але-ж данясеньне прынёс...

— Яно было мокрае...

— Дарма,—не разумеючы жарту, сур'ёзна адказвае Галевіч,—дзякуючы яму наша рота нечаканым ударам зьмяла левы фланг супрацоўніка і выгнала з акопаў...

— А ў мяне было якое здарэньне!..

— Пачакай! Няхай Мазін раскажа, якое ў яго было здарэньне.

— Расказвай, Мазін!

— Да ну вас к чорту! Ня чмуры, Дашковіч!

Насупіўшыся, Мазін адыходзіць.

— Тады я за яго раскажу,—падміргнуў усім Бойка.

— Слухайце! Захацелася, значыць, нашаму Мазіну малачка, ой як захацелася. Што-ж ты тут паробіш! Пакінуў ён сваё аддзяленьне ў абароне, а сам пашоў у бліжэйшую хату. — «Дай, гаспадыня, малачка бедненькаму камандзіру!» —Добрая бабулька зжалілася над Мазіным і прынесла з склепу цэлы гарлач малака. — «Ах няшчасьненькі салдацік, мусіць галодны, зморany, бяры еж, абаронца наш», —кажа бабка і жаласьліва глядзіць на Мазіна.—«Так, так, бабка, зморany, галодны, сінія на нас нападаюць». — «Ах, божачка ты мой,— праклятыя сінія!». Як зыкне тады наш валявы камандзір Мазін: «Бабка, зважай! Цягні хутчэй вялікую лыжку, а то малако даесьці не пасьпею—сінія могуць перашкодзіць». А тут якраз нечакана ўварваліся ў вёску сінія...

— Ха-ха-ха, ну, а што Мазін—абараняцца пачаў, ці ўцякаць пабег?

— Не, уцякаць ня было куды—хата акружана... Вінтоўку сваю Мазін таксама паставіў у качарэжніку, дык яе адразу, як толькі ўвайшлі ў хату сінія, захапілі...

— Дрэнна! Што-ж рабіў Мазін?

— Дрэннага ня думайце: ён сябе ў крыўду ня даў... Даеў, значыцца, гарлач малака, аблізаў лыжку, падняў яе—ды як крыкне: «не падыходзь блізка, я за сябе ня ручаюся!»

— Здорава! От гэты Мазін!

— Аднак яго ўзялі ў палон,—сумна ўздыхнуўшы, сказаў Бойка і скорчыў такую грымасу, што ўсе пырснулі са сьмеху,—абкружылі яго сінія за сталом, наставілі штыхі і ўзялі... Праўда, у арміі заслугі перад рэвалюцыяй ніколі не забываюцца. За рашучасьць і адчайнасьць Мазіна камандзір палка таксама не забыў і ўзнагародзіў... Чым вы думаеце?

— Граматай ударніка?

— Не...

— Чым-жа? Тысячай рублёў? Пазачарговым месячным водпускам?

— Ды гавары ты хутчэй, Бойка, чорт цябе пабяры.

— Не, хлопцы — усяго-на-ўсяго ўзнагароджаны толькі дзесяцю днямі... гаўптвахты і пазбаўленьнем званьня ўдарніка...

— Ма-а-ла-а!

— Мала таму, што ён абараняўся ад узброеных вінтоўкамі і кулямётамі сініх толькі аднэй вялікай лыжкай. Трэ' было праявіць ініцыятыву і пусьціць у дзеяньне гарлач замест гранаты Мільса.

— Ха-ха-ха, правільна, Бойка! Дрэнны камандзір без ініцыятывы.

Усе гавораць толькі пра манэўры. У нас ёсьць пра што ўспомніць. Наша палкавая шматтыражка «Ўдарнік» яшчэ сьвежая і пахне друкарскай фарбай. Яе чытаюць нарасхват. Там адзначаны лепшыя ўдарнікі, расказаны эпізоды з нашай баявой работы. Але за ўсімі гэтымі размовамі хаваецца нешта больш важнае для нас—сотні курсантаў. Прахсдзіць дзень, адлегласьць паміж пражытым усё больш павялічваецца. Першая партыя чырвонаармейцаў ужо сёньня ад'язджае ў доўгатэрміновы водпуск. Іх на станцыю праводзяць з музыкай. На мітынгу яны абяцаюць камандаваньню па першым закліку зноў зьявіцца ў свой любімы ўдарны полк. Частка чырвонаармейцаў і малодшых камандзіраў-адпускнікоў едзе ў камуну Далёкага Ўсходу і ў прымежныя калгасы: яны павязуць з сабою нязломную веру, дысцыпліну і арганізаванасьць, набытыя ў Чырвонай арміі за два гады.

Мы—сто курсантаў, будучых камандзіраў... А што за намі і што перад намі?

Сёньня зайшоў да нас у казарму кампалка і з суровай дзелавітасьцю апавясьціў:

— Праз пяць дзён у нас будуць экзамэны. Усім падрыхтавацца! Памятуйце, што гэта ня толькі праверка таго, чаму вы навучыліся за год (камандваньне і так ведае кожнага з вас), але і рубеж, за які вы павінны пераступіць сярэднімі камандзірамі. Зараз, як ніколі патрэбны камандзіры нашай Чырвонай арміі,—вы пра гэта не забывайцеся. На звыштэрміновую з сотні чалавек вас падалі дакладныя толькі дваццаць—падумайце!

Здавалася, ніколі не гаварыў так цёпла наш камандзір палка. Хіба мы не адчуваем гэта?

— Бярыце ў рукі,—сказаў ён,—усе статуты, падручнікі, карты, тэхніку, дысцыпліну і сьвядомасьць, рыхтуйцеся пераскочыць апошні бар'ер вашай баявой вучобы, пакажыце, што вы мужна прайшлі суровы год і дасканала ауладалі тэхнікай, давядзіце, што варты быць камандзірамі Чырвонай арміі...

Так, мы ўсё помнім. Як нам ня помніць? Мы не забылі ніводнага бар'еру нашай баявой вучобы. Мы добра помнім, як падалі і падымаліся, колькі ў нас было памылак і прарэхаў, як здарыўся нячуваны стралковы прарыў, што паклаў чорную пляму на наш ударны вядучы полк, і ў гэтым многа вінаваты былі мы—курсанты,—колькі патугі і мужнасьці нам трэ' было, каб зноў выйсьці на першае месца! За кожны праступак паасобнага з нас мы ўсе хварэлі, мы давалі бой усяму варожаму—і некалькі чалавек адыйшло з нашай дружнай сям'і. Суровыя будні казармы зьнітаванасьцю і калектыўнай волю мы, як маглі, наколькі ў нас

хапала сілы,ператваралі ў са-праўдную школу камунізму.

Усё гэта засталося ад нас так далёка і цяпер здаецца такім про-стым і буднім, што аб пацёртых нагах, аб маскіроўцы ў баю, аб са-маўладаньні і іншых абавязях, важных і неабходных у свой час, думаць сьмешна і недарэчна...

Сёньня дзень як на дзіва цёплы і радасны. Мы глядзім з вокан на пляц, дзе некалі займаліся страя-вымі заняткамі, на старыя таполі, на гай, што на вяршыні кургану. Дрэвы зараз усе пярэстыя і ў во-сеньскім золаце, на іх чорных адвалох ляжаць плямкі бледнага сонца. Неба празрыста-сіняе і ня-рухомае—восень, восень. Што на-гадвае нам гэта?

Усяго адзін год таму назад вось такой парою, мы прышлі ў казар-му нічога ня ведаючы, з адным толькі жаданьнем... Недзе далёка па-за намі застаўся гэты суровы год, і мы сталі іншымі, непадоб-нымі на ранейшых нас, зусім ін-шымі.

Праз тры дні ў нас экзамэны. Шалясьціць папера, перад вачыма мільгаюць літары, параграфы, фор-мулы, рысункі — у памяці ўста-юць жывымі зьявамі, рэальнымі да нэрвовай адчувальнасьці. А па-за імі ўстае нейкая інакшая дарога, інакшыя вобразы, дарагія ўспамі-ны. Хочацца пра іх думаць і ня-прыкметна для сябе пачынаеш ма-рыць—тады мімаволі забываеш па-раграфы, формулы, рысункі... Нех-та пачынае голасна ўспамінаць... Ігнат Бойка піша доўгі сантымэн-тальны ліст да дзяўчыны і сам са-бе шэптам паўторвае: «Мая мілая, любая!» У паўголаса чутны словы нашай паходнай песьні:

Можа заўтра нам ў паходах
Дружна маршамі грымець...

Усе рэчы ў казарме набываюць своеасаблівы, нейкі вышэйшы сэнс, якога на працягу году зусім не надавалі ім,—за імі жывуча ха-ваецца частка нашага быцьця і но-вай нязнанай дарогі нашай. Бу-дзённая казарма становіцца вялі-кай лябараторыяй нашых дум і ад-чуваньняў. Казарма намітусь пе-расечана траекторыямі, прыцэльны-мі лініямі, пакапана выбражаль-нымі акопамі; сіні ледзь прыкмет-ны дымок атручальных матэрый пасьцілаецца па зямлі; глуха стог-нуць выбухі знарадаў; казарма—лінія агню...

Некаторыя баяцца за свой лёс: а што калі ня вытрымаем экзамэ-ну? Іншыя ўпэўнены ў сабе, у сваёй сіле і здольнасьці. Адылі ў ва ўсіх узьняты напружаны на-строй. Дашковіч і Бойка прабуюць жартаваць:

— Скажы, Бойка, што значыць няведаньне ўсіх задзержак стан-ковага кулямёта?

— А гэта значыць—адна «за-дзержка» на два месяцы пасьля экзамэну.

Зьбіраюцца ў карыдоры, у ку-рылцы, многа кураць, задаюць адзін аднаму няясныя пытаньні.

— У якіх выпадках высылаюцца перадавыя батальёны?

— Якое назначэньне другіх эша-лёнаў?

— Колькі важыць куля?

У махорачным дыме шумна. Раз-гараюцца заядлыя спрэчкі, якія на-ват з дапамогаю статутаў да кан-ца не вырашаюцца—занадта мно-га лішняга запалу.

Мы кладзёмся спаць пазьней, як звычайна. Тут не дапамагаюць на-ват загады і пагрозы дзяжурнага па роце: унутраная дысцыпліна прыкметна зьнізілася, але патра-бавальнасьць да сябе ўзрасла над-звычайна—людзі перасталі верыць сабе і сваім ведам, таму не хапае сутак. Побач са мною на ложаку ўскрыквае маленькі Саламон Сі-зоў, ён падае каманды для страль-бы. Дашковіч у неабдымна-радас-най усьмешцы нешта ціха мармы-ча. Мазін як апараты ўскаквае басанож з пасьцелі і нешта кры-чыць. Іншым сьняцца блізкія спат-каньні...

Экзамэны пачаліся нечакана ра-ней, чымся былі прызначаны. Гэ-тая неспадзяванасьць спачатку аглушыла, а потым ува ўсіх узь-няла настрой. — Што будзе, то бу-дзе, абы толькі хутчэй разьлічыцца.

Каля дзьвярэй габінэта, дзе па-сядаюць прыймовыя камісіі, ста-яць чаргі. Першыя ўсхвалёвана ўваходзяць, іх нецярпліва чака-юць, каб распытацца; з выглядамі

людзей, што прайшлі агонь, першыя даюць сваё заключэньне, да каго лепш ісьці здаваць, хто менш «рэжа»...

Я ўваходжу ў габінэт тактыкі. Там ад усіх рэчаў—ад статутаў, топографічных карт, ад выгляду камбата 2 павявае спакойнай суровай урачыстасьцю.

— Сядайце,—кажа ён і няпрыязна акідвае мяне позіркам. —Вось ваш раён дзеяньня. Вы знаходзіцеся з сваёй ротай у абароне. Расстаўце агнявую сілу, намецьце плян дзеяньня. Думайце дзесяць хвілін, але залішне не фантазіруйце...

Здаравенная мускулістая рука камбата 2 на топографічнай карце бяз жалю нарысавала сінім алоўкам круг, падобны да аркану. Я гляджу на гэтую руку, перарэзаную сінімі жылкамі, цьвёрдае сэрца алоўка спыняецца на пунктах, назвах, я напружваю зрок і слых. Потым рука пачынае гартаць баявы статут: ён шукае, напэўна, самых складаных камбінацый (трох, аднаго за адным ён ужо «зрэзаў» па тактыцы). Каля яго ляжыць маленькі ручны гадзіньнік, дзесяць хвілін, што дадзены мне на вырашэньне задачы, няпрыкметна праходзяць... Цяпер, калі я выкладваю сваё вырашэньне задачы, на шырокім загарэлым твары з шурпатым падбародкам я стараюся разгадаць свой лёс, і я мімаходзь думаю аб яго дваццацёхгадовай вайсковай службе, аб халодным бляску яго глыбокіх вачэй сталёвага колеру, аб яго тонкіх маршчынах. Ён моўчкі слухае і барабаніць пальцамі па карце, потым ставіць некалькі пытаньняў, папраўляе мяне, нешта адзначае ў сшытак і ўжо больш прыязна, але таксама неразгаданна кажа:

— Добра! Ідзіце...

Мяне сустракаюць на карыдоры запытаньнем:

— Зрэзаў?

Я выціраю пот і ў замяшаньні адказваю:

— Ня ведаю, мабыць—не...

Хлопцы недаверліва глядзяць...

Потым пераходжу ў другі габінэт. Наш паліткіраўнік тав. Зяленоў ветліва, кіўком галавы паказвае мне на крэсла. Я расказваю яму пра віды палітагітацыі і праз пяць хвілін выходжу. Далей усё робіцца механічна, усё становіцца абыякавым і хочацца, каб толькі хутчэй скончылася. Праходзіць дзень, другі... Адылі апошні з дванаццаці залікаў здадзены. Я прыходжу ў казарму, прыхіляюся патыліцай да сьцяны: перад вачыма ўспыхваюць і патухаюць зялёныя іскры. Страчана адчуваньне часу, мне зусім лёгка, галава прыемна кружыцца.

— Я і ты экзамэн вытрымалі,—няўпрыметку падышоўшы да мяне, кажа Бойка. —Я бачыў паслужныя сьпісы.

Са ста чалавек ня вытрымалі экзамэн толькі чацьвера—яны павінны застацца яшчэ на два месяцы. Некаторыя ўжо запакавалі свае чамаданы. Цяпер мы не курсанты...

З самай раніцы мыем, шаруем, чысьцім казарму. Трэ', каб кругом сьвяцілі, зьзяла фэерверкам агнёў. Мы яшчэ больш стараемся таму, што гэта апошні раз—больш мыць ня прыдзецца. Вечар пачынаецца ўрачыстым маршам, гукі яго не зьмяшчаюцца ў сьценах казармы і магутнай сілы хваляй вырываюцца з вокан. У нас узбуджаны, сьвяточны настрой. У нас на чырвоных пятліцах блішчаць новенькія квадрацікі...

Мы зараз уяўляем адну дружную непарыўную сям'ю. Мы нездарма прайшлі разам паходы. Нас злучыла адна сіла, нечаму навучыла, і вось, калі зараз наш кампалка ўспамінае пройдзены год, становіцца радасна, нешта салодкае і дужае сьціскае горла.

Камдыў закінуў назад галаву, павольна, у рытм, размахвае рукамі і кажа:

— Я ня буду хваліць: вы таму сяму навучыліся. Але перад вамі яшчэ цяжкія і складаныя задачы. Яшчэ многа-многа трэба вучыцца. Бо пытаньне інтэрвэнцыі краіны Саветаў яшчэ ня здымаецца...

Магутная грузная фігура камдыва, яго здаровы голас намаўляюць нам упэўненасьць, распальваюць наша выабражэньне...

— Частка з вас застаецца на звыштэрміновую камандзірамі, частка будзе працаваць у мірных абставінах на месцы ранейшай службы — інжынэрамі, тэхнікамі, аграномамі, настаўнікамі. Але дзе-б вы ні былі—ніколі не забывайцеся пра вайсковую справу, пра гатоўнасьць да абароны краіны...

Гучнай авацыяй і крыкамі «ура» пакрылася прамова камдыва.

— Мы не забудзем! Памятаем!..

І пасьля таго, як скончылася музыка, стала хіліць да сну, а за вокнамі ўжо сінеў змрок раніцы, хлопцы абменьваліся адрасамі, кляліся не забываць дружбы, якая нідзе ня можа быць такой моцнай! А расчулены чуць не да сьлёз Дашковіч упрашваў:

— Хлопцы, давайце бліжэй сюды... Можа ў апошні раз засьпяваем нашу баявую, слаўную песьню. Ах хлопцы, хлопцы!..

І тады нашы запявалы вышлі ў сярэдзіну круга, а мы іх абступілі шчыльнай сьцяной, абняўшыся за плечы.

За полями, за лесами
Эх в дальней стороне...

Пачуўся ціхі і звонкі напеў. І здалося, у палёх зашалясьцела высокая трава, загуў лес і пашоў гуляць, шумець вецер...

Трубы песню заиграли.
Песню о войне...

Раптам дзесяткі галасоў падхапілі прыпеў гнеўна і бурна:

Видно, братцы, снова биться,
Эх, как в двадцатый год!
На советские границы
Генерал идет...

І здавалася, што мы зноў ідзем у паходах; пад нагамі ў нас храбусьціць пясок і жарства, у нас маладыя бадзёрыя ногі; недзе за гарамі ўстаюць празрыстыя туманы і за зялёным росным лесам узыходзіць залатое, цудоўнае сонца. А ў памяці ўстаюць наступныя паходы—такія доўгія крывавыя і рашаючыя паходы.

Ці гатовы мы да наступных паходаў? Ці заваявалі мы права на мужнасьць? Мы ведаем адно, што недарэмна прайшлі дыстанцыі, за намі засталіся старыя дарогі, а ўперадзе нас, недзе ўперадзе нас крылатая шчасьлівая будучыня...

На станцыі мы доўга разьвітваемся з таварышамі.

— Хто ведае,—сумна кажа Дашковіч,—можа больш ня ўбачымся. Але чаму-ж? Убачымся ня тут, дык у іншым месцы.

Нас чацьвера—Бойка, Дашковіч, Сізоў і я—праз замурзаныя вокны глядзім на станцыю. На пляцформе стаіць наш паліткіраўнік таварыш Зеляноў і ківае галавою. Раніца хмурая, яна робіць нас маўклівымі і многадумнымі. У нас на руках дакуманты, дзе паказана, што мы едзем у месячны водпуск.

Хуткі цягнік праяжджае мясцовасьць, дзе мы калісьці часта праводзілі тактычныя заняткі. Тут усё нам знаёма, тут зямля пераз рывана акопамі, бліндажамі, агарожамі. Мірная, спакойная зямля, якая не загаіла яшчэ крывавых ран ад мінулых боек!... Мы праяжджаем пераказыжаваньне дарог: едуць цэлыя абозы, нагружаныя хлебам, каля мокрага фарбаванага доміка гуляюць босыя малыя дзеці. У далі відаць за туманамі сінія пралескі, курганы, яры...

Тады Ігнат Бойка пачынае, а ўсе разам сьпяваем:

Можа заўтра нам ў паходах
Дружна маршамі грымець...

*МІХАСЬ БАГУН*

# НА ДАРОЗЕ

## I. УДАРНАЯ НОЧ

*—Траса ў тумане.—Васіль Задарожны.—Круп на службе сацыялізму.—Вясёлыя грузчыкі.*

Сонца коціцца ў восень. Кожны сёньняшні круг яго, прарэзаны за дзень у выцьвілым мутна-блакітным небе, карацейшы за ўчорашні. Калі яно, спаўзаючы ў канец свайго дзённага шляху, топіцца ў возеры халоднай малінавай крыві, канчаткова зьнікае за няпэўнай рысай кругавіду,—з балатоў, з ясных нізін падымаюцца сінявыя туманы. Вырастаючы, тусьцеючы, мутным валам яны ўспаўзаюць на роўны, доўгі—як вокам скінуць—пескавы насып—і заліваюць усю яго бясконцую даўжыню.

Калі гэткай часінай стаць на ўзгорку і глянуць уздоўж насыпу—здасца: няшырокая, белая—зачараваная—ціха коціцца з усходу на захад, у невядомую далеч, таемная рэчка.

Цішыня. Вушы глохнуць ад гэтае нязвычайнае цішыні.

Маўкліва калышуцца белыя хвалі, паўзуць туды, дзе абапал насыпу, як непадкупная суровая варта, выростаюць у неба зубчастыя чорныя сілуэты высозных хвой. У глыбокім і чорным восенскім небо буяюць вялікія белыя кроплі зор. Іх няпэўнае халоднае сьвятло, ломячыся, дрыжыць у вачох. Раскіданыя абапал насыпу гурбы каменьня ўночы здаюцца таемнымі магіламі невядомых старадняўечных асілкаў.

Камень мае свой пах. І гэты пах каменю—цяжкі, дзікі, непадобны ні да якога іншага—зьліваючыся з вільготным сьвежым пахам туману, ласкоча нос, прымушае напружана ўспамінаць нешта трывожнае, ніколі ня веданае—і, разам з тым, даўно забытае... Глыбокай каменнай пячорай дагістарычнага чалавека пахне камень. Адчуваецца ў гэтым паху цяжкая тхлань магільных склепаў і маўзалеяў—гэта трывожыць.

У непарушную немую цішу няпрыкметна ўядаецца дзіўны нізкі гук. Ён ідзе аднекуль здалёк, з-за насыпу, з гушчы хваёвых, залітых туманам, лясоў. Стрыманая сіла, напружанасьць чуецца ў гэтым гуку, ад яго дрыжыць вільготнае паветра.

Па лесе, па тумане пераказваецца, нарастае злавесная, грозная, густое:

— У-у-у-у... уу-у-уу-у...

Трашчыць, ломіцца на гаці за насыпам пад цяжкой хадой невядомага зьвера гольле. Гудзе зямля. У прыдарожным бярэзьніку недалужна пaпісквае стрывожаная, сонная сініца.

Трэск на гаці сьціхае. Цяжка сапучы, бразгаючы жалезнымі ланцугамі, успаўзае на насып вялізная гарбатая пачварына. Вочы яе, то апускаючыся, то падымаючыся, шнырараць па зямлі, на момант

выхопліваюць з белага мораку абрысы грубых хваёвых камлёў, працінаюць туман неспакойнымі, дрыготкімі палоскамі. Пачварына паднялася на насып, цяжка завярнулася—і проста на мяне глядзяць, адкладаючы ў тумане нізкія роўныя сьцежкі сьвятла, рэфлектары аўтамабілю.

У рамантычны спакой санлівай прыроды ўладарна ўрываецца дваццаты век.

Выючы, бразгаючы жалезнымі ланцугамі, аўтамабіль шпарка набліжаецца да мяне. Яго вялізнае шэрае тулава прапаўзае каля мяне і спыняецца.

Гэта—Круп.

З карабу машыны саскоквае невялічкая рухавая постаць. Яшчэ тры гэткія постаці варушацца на версе машыны. Бразгаюць ланцугі, з грукатам адкідаецца борт, град каменьня сыплецца на насып.

Тым часам шофэр выключыў матор, згасілі ліхтары і, не сьпяшаючыся, вылазіць с душнай кабінкі на вольнае паветра. Абапёршыся на шырокае крыло—накрыўку над пярэднім колам, ён запальвае сярнічку і падносіць яе да таўстой, нязграбна скручанай папяросы. Сярнічка на момант асьвятляе сымпатычны, сур'ёзны твар, вялікія, заўсёды крышку зьдзіўлёныя вочы.

— Задарожны?

У цемні пабліскавае агоньчык папяросы, шофэр падымаецца з крыла машыны, напружана ўзіраецца ў туман.

— Задарожны?—паўтараю я і падыходжу бліжэй.

— Я,—чуецца спакойны, чамусьці крышку нездаволены адказ.—Ну што? Хто там?

Падыходжу яшчэ бліжэй— і праз хвіліну ў нас завязваецца жывая гутарка.

— Чаму гэтак позна працуеш? —дзіўлюся я.—Ужо-ж дзесятая гадзіна.

— Хм!—чаму?—успыхвае папяроса і я бачу на шырокім абвятраным твары шофэра ўсьмешку—трэба, дык і працуем!

Задарожны, не сьпяшаючыся, зацягваецца, абтрасае з папяросы попел і толькі тады гаворыць далей:

— Заўтра тракт канчаць, а каменьня няма... Вось і падкідаем,—недакурак, апісаўшы ў паветры агністую дугу, ляціць далёка ў канаву. У цемні я ня бачу шофэравага твару, чую толькі голас, сур'ёзны, нават з суровыміноткамі.

— Ударнікі мы. Нас—шэсьць машын сёньня на прарыў вышла. Я, Судакоў, Глушакоў, яшчэ там хлопцы... Удзень працавалі звычайна, а ўночы,—на ўдарную работу. Паўтара кілёмэтры трэба за ноч шашкай закідаць... Ну, ты выбачай, няма калі дужа раздабарваць: трэба пад капот злазіць...

Закасаўшы да локцяў рукавы Задарожны лезе пад «капот»—адкідную частку мэталічнага футаралу, што закрывае сэрца машыны—матор.

Чуцен басавіты гудок. З туману выпаўзае яшчэ адна машына і спыняецца, не даехаўшы да першай, мэтраў за пяць ад яе.

Грузчыкі, справіўшыся з машынай Задарожнага, зашчапілі барты жалезнымі крукамі, пайшлі на другую машыну. Неўзабаве адтуль пачулася бразганьне жалеза, глухія частыя ўдары—гэта пасыпаўся на зямлю буйны каменны дождж.

Задарожны корпаецца ў маторы, залівае аліву ў рэзэрвуары, правярае бак з бэнзынай, аглядае і выстуквае машыну, як доктар хворае дзіця.

Пра Задарожнага і яго адносіны да машыны сярод шофэраў ходзяць анэкдоты. Кажуць, што з тае пары, як аднаго разу, уночы, у кабінцы машыны нехта выбіў шкло і ўкраў з-пад падушкі французскі ключ,—Задарожны заўсёды сьпіць у машыне, бо ў ноч, калі здарылася злачынства, ён, плачучы, прысягаўся перад машынай заўсёды, нават зімой, не пакідаць на ноч свайго таварыша.

І сапраўды, нельга сказаць, каб гэты анэкдот быў цалкам беспадстаўны: Задарожны даглядае сваю машыну так, як наўдачу, каб кожная матка даглядала дзіця. Факты сьцьвярджаюць гэта: машына За-

дарожнага мае найбольшы кіламетраж прабегу і адначасова—найбольшую эканомію ў выдаткаваньні бэнзыны, алівы, гумы. Машына Задарожнага за ўвесь час работы ня мела ніводнай аварыі, ніводнай сур'ёзнай паломкі.

Круп—вялізны сьветла-шэры грузавік. Ён падымае для перавозкі поўных пяць тон і сам важыць таксама блізка пяці тон. Бацькаўшчына Крупа—Германія. Выпісаныя з Германіі Крупы ўпяршыню зьявіліся ў нас у канцы 1931 г. Згрупаваныя ў атрады па 30-40 штук, якія ў сваю чаргу падзяляюцца на калёны, гэтыя магутныя «бюргеры» працуюць у нас пераважна на дарожным будаўніцтве.

Адна з галоўных і важных асаблівасьцяй крупаўскай машыны, якой ня маюць нашыя савецкія пяцітонныя «ярраслаўкі»—гэта тое, што ў Крупа—дзесяць колаў: пярэднія два разьмешчаны таксама, як і ў кожнай звычайнай грузавой машыне, а заднія—іх восем—на дзьвёх восях, па дзьве пары колаў на кожнай. Гэтая асаблівасьць Крупа карысная тым, што дазваляе машыне з поўнай нагрузкай праходзіць па такіх дарогах, па якіх звычайны грузавік, бязумоўна, ня пройдзе.

Скончыўшы агляд машыны, Задарожны круціць папяросу і залазіць у кабінку.

— Ну, як?

— Што—як?—усьміхаецца з вакна кабінкі шофэр,—машына як? Ого, брат, бюргер! Ён у мяне яшчэ заслужыць... павозіць яшчэ... здаровы, як... як конь!—і, запаліўшы ліхтары, Задарожны ўключае матор.

Вялізнае цела машыны, калоцячыся, бразгаючы ланцугамі бартоў, заварачваецца, выраўноўваецца на дарозе і з пераможным гудам зьнікае ў тумане.

Шофэрава параўнаньне выклікае ў мяне мімавольную ўсьмешку,—як конь? Круп цягне на сваім магутным гарбе 5 тон—5.000 кілёграм. Які конь пацягне па выбоінах, па калдобінах жахлівай ваеннай дарогі хоць дзесятую частку гэтага грузу?

Мае матэматычныя выкладкі перапыняе звонкая, задзёрыстая песьня. Малады тэнар, на фоне мяккіх пругкіх альтоў, старанна выводзіць:

А я жыта ня жала,
А я жыта ня жала.
А-а я жы-ыта ня жала—
Ў баразёнцы ляжала...

Сьпяваюць грузчыкі. Яны ўжо справіліся разгрузіць другую машыну і яна, прарэзаючы густы туман шырокімі нажамі рэфлектараў, пашла ў чарговы рэйс. Грузчыкі, скарыстоўваючы вольны да прыходу новай машыны час, паселі на каменьні цесным гуртком і разьліваюцца ў звонкай песьні.

Падыходжу. На маё прывітаньне адказвае толькі здаровы плячысты хлопец—брыгадзір. Іншыя трое, лятуценна прымружыўшы вочы, на розныя галасы цягнуць:

А я дзень скарачу,
А я дзень скарачу...

Старэйшаму з іх наўдачу, каб было дваццаць год. Усе яны з Гомелю, мабілізаваныя камсамольцы. Мы—даўно знаёмыя. Як песьню скончылі, прасьпявалі спачатку яшчэ раз і зноў скончылі, пачынаецца гутарка.

— Таварыш Міхась,—агаляючы ў спакойнай, крышку сарамяжлівай усьмешцы роўны рад белых, як малако, зубоў, зьвяртаецца да мяне брыгадзір—Янка Жог—высокі, ёмкі хлопец, пра якога кажуць, што яму ўскінуць на грузавік пяцёхпудовы камень—як раз плюнуць.—Таварыш Міхась, чаму нам дагэтуль рукавіцы ня выдаюць? Ужо і ў газэце пісалі, і на сходах колькі трубілі—рукавіц як ня было, так і няма. Усе рукі пааббівалі. Глянь во,—бяз усякай злосьці скардзіцца ён і, запаліўшы сярнічку, паказвае правую руку.

На ёй—шырокай, патрэсканай, кожны палец завязаны анучкай-шкуматком паркалю. Праз усю далонь таксама пухне горб няўмелай перавязкі.

Вострае, разьбітае малатамі, або рванае аманалам, каменьне бязьлітасна рэжа грузчыкам рукі. Ім аба-

вязкова патрэбны рукавіцы, але рукавіц у кладовай праэаба няма.

І я маўчу.

— Рукавіцы! Яшчэ пальчаткі та-ке каб дамскія!—насьмешліва чмыхае носам чарнявы Абраша Зальцман і, з раптоўнай злосьцю, пытаецца ў Жога,—навошта яны цяпер—тыя рукавіцы? Ну, навошта? Усёроўна, заўтра ці пазаўтраму—дамоў, у Гомель, дахаты.

Вочы ў яго загараюцца агнём няcустрымнае буйнае радасьці. Моцна сьціснуўшы тонкія, нэрвовыя губы, заплюшчыўшы вочы, ён радасна трасе галавой:

— Дамоў! Дамоў! Дамоў!

— Мог даўно ехаць. Хто цябе тут трымае?—суха пытаецца, з пагардай гледзячы на Абрашу, руды мізэрны хлапчук з выразна сухотным тварам.

Гэта—Антановіч, камсамолец з ячэйкі аднаго є гомельскіх тэхнікумаў. Ячэйка не мабілізоўвала яго на дарожнае будаўніцтва. Ён самахоць паехаў з мабілізаванымі, спадзяючыся працай на вольным паветры падправіць здароўе, але прагадаў: за лета хвароба ягоная значна пасунулася наперад. Не зважаючы на гэта, у рабоце Антановіч—першы. Ён на ўсякую работу кідаецца са злосьцю, як галодны каршак на галуба, змагаецца з ёй, як з ворагам, не супакойваецца, покуль ня скончыць яе. Ён бязьмерна крыўдзіцца, злуе на таварышоў, калі тыя гавораць яму, што ён—хворы, што яму патрэбна ехаць дамоў ды лячыцца. Ён—самы старэйшы ў групе грузчыкаў і да ягонага голасу таварышы заўсёды прыслухоўваюцца, ведаючы, што на ўзьвей-вецер ён гаварыць ня будзе.

Зальцман дужа пакрыўдзіўся на Антановіча.

— Як гэта—хто трымае? А цябе хто трымае?—пырскаючы сьлінай, ад абароны перайшоў ён да нападу.

— Ну, хто цябе трымае? Табе даўно ў больніцы трэба было ляжаць, а не каменьне грузіць!..

— І вось заўсёды гэтак,—нахмурыўшы шырокі лоб, тлумачыць мне брыгадзір — Жог — як сыйдуцца ўдвух, дык і пайшла калатня. Але гэта дармо: на работу яны, што тыя зьвяры, асабліва гэты, чорненькі,—кіўнуў ён Абрашу.—Ён дужэйшы, дык і хапаецца за што папала... Вось і сёньня—у нас-жа выходны, а як прышоў Задарожны грузчыкаў—ударнікаў пытацца—абодва першыя... У момант сабраліся... Дармо... што ён ные: дамоў... дамоў!... Ён з самае вясны кожны дзень дамоў зьбіраецца.

Хлопцы дружна зарагаталі. Сьмяяўся і сам Абраша, гледзячы на нас вільготнымі чорнымі вачыма. Сьмяяўся, кашляючы, і хворы Антановіч.

Адна за аднэй, раскідаючы ў туман снапы мутнага сьвятла, з лесу вышлі дзьве машыны.

Грузчыкі жвава ўсхапіліся і пайшлі насустрач машынам, паціскаючы ад холаду плячыма, расьціраючы зьбітыя каменьнем, змуляныя рукі.

Машыны ішлі адна за аднэй. Лес гуў ад іх цяжкога, напружанага дыханьня. Жоўтыя вочы ліхтароў рэзалі туман на кавалкі...

Грузчыкі не спраўляліся разгружаць пяцёхтонкі. Ім на дапамогу прышлі шофэры. Плячо ў плячо стоячы на сьпінах машын працавалі ўдарнікі.

Была ўдарная ноч перад сканчэньнем ударнай работы.

ВАСІЛЬ МАКЕЕЎ

# ПОЎНЫ ХОД

Машыны прагрэты. Застылы ў даўгой аднастайнасьці вал маруд-на папоўз справа налева, варочаючы насаджаны на яго вінт.

Бочка, на якую становіцца лінкор на малым рэйдзе, ледзь прыкмет на паўзе па барту. Усё гэта адзнакі таго, што карабель зьняўся з якара.

Стрэлка тэлеграфу сваім вастрыём упіраецца ў надпіс на цыфэрбляце «адну фарсунку на кацёл». Хуткім ужо звыклым рухам махавічок фарсункі на поўзварсту паварочваецца налева ў маленькую шчылінку распыліцеля. Сілаю ціску ў дванаццаць атмасфэр выкідаецца тлустая вадкасьць—мазут.

Артамонаў, не адрываючы левай рукі ад махавічка, пільна ўглядаецца ў люстра. Вочы яго глыбока падкаціліся пад лоб. Бесьперапынна рэгулюе махавічком да таго часу, пакуль не дамагаецца патрэбнага выніку—яго фарсунка дае бяздымнасьць згараньня мазута.

— Дык значыць гаворыце, таварыш старшыня, зьнімаемся з якара?—самаздаволена і ледзь-ледзь усхвалявана кікуў старшыні Артамонаў, малады чырвонафлёцец ударнік, пастаўлены ўжо на самастойную вахту да катла.

— І сёньня поўны ход дамо, ды так, каб патравіць было чым!—сказаў старшыня, цярэбячы шчацінку па-ангельску голеных вусоў і адчыніў нафтавы клапан на поўны.

Пражэрлівай пасьцю палаючай топкі адчыніліся дзьверцы. Моцны струмень паветра зьмятае грэбень вугалю з шырокае качагарнае лапаты. Чорны ад вугальнага пылу, абвеены з усіх бакоў напорыстай плыньню паветра, сілаю сталёвых цягліц, качагар з асаблівым майстэрствам расьсейвае вугаль па ўсёй топцы. Наглядае ў глазуры гарэньне.

— Давай, давай, таварыш Артамонаў, рэгулюй, рэгулюй часьцей, ды ў люстра, у люстра таксама часьцей, бо даўно-ж сябе ня бачыў,—жартуе старшыня.

— Вось так. Ага. яшчэ адну фарсуначку? Дай, дай больш пары, таварыш Артамонаў.

— Ёсьць больш пары. таварыш старшыня!

У старшыні багата клопатаў. Ён праверыў кацёл у аднаго чырвонафлётца, пашоў да другога, трэцяга, да насосаў.

— Вучні ў нас сёлета што трэба—во! На вяліві!

— Ды яшчэ з накрыўкай,—расплестанаю далоньню прыкрыў Галабін горды палец старшыні.

— Вось ужо самастойна стаяць вахту і давяраем. Спраўляюцца, бо ўважлівыя, тэорыю з практыкай вяжуць, што вось гэты плецены сальнік. Да таго хлопцы амаль усё з вытворчасьці.

Мора... Ідзем сярэднім ходам. Вясна на Чорнамор'і характэрна штормамі. Шквал хвалі навальваецца і расьсякаецца аб хвалярэз і залацістым грэбенем плешчыцца па палубе. Карабель зьлёгку пакачвае. Малодшыя з чырвонафлётцаў «паехалі ў Рыгу». Старэйшыя робяць парады, жартуюць.

Унізе, ля мэханізмаў, качагарак, ля электра-матору, ля гармат і штурвала—усюды напружанасьць.

клапатлівасьць пра бесьперабойную работу мэханізмаў.

— Старшыню Галаваценка да тэлефону!

— Ёсьць ля тэлефону старшыня Галаваценка!

— Даем поўны!—вырываецца с трубкі:—трымаць больш пары, ды так, каб патравіць было чым.

— Ёсьць больш пары, таварыш мэханік,—усё ў спраўнасьці, гарэньне добрае,—упэўнена кідае ў трубку старшыня. Упэўненасьць гэта не фальшывая, яна падмацована чоткаю работаю мэханізмаў.

Артамонаў да прызыву ў флёт працаваў кацельшчыкам у адным з затснаў. У гэтым шуме мэханізмаў, у перакрыжаваньнях клапатлівых рухаў таварышоў ён не разгубіўся, як бывае з няпрывычкі. Ён цьвёрда прыкаваў сваю ўвагу да малочнага полымя топкі, да катла, да люстра.

Аднастайна зьвініць ураўніцель. У такт яго звону адчыняюцца дзьверцы топак. Тлусты пласт данбасаўскага вугалю засьцілае каласьнікі.

— Поўны далі, чуеце, хлопцы? Пары болей!

Трудна працаваць качагару. Але ні ў думках, ні на твары няма разгубленасьці. Яна перамагаецца воляй да выкананьня заданьняў свае клясы.

Стараннасьць качагараў ня ідзе на вецер. Кожная лапата вугалю павялічвае пару. Качагары—майстры па выпрацоўцы гэтай магутнай сілы караблёў. Пара прыводзіць карабельныя мэханізмы ў рух, пара забясьпечвае караблю ход, асьвятленьне, параджае праз складаную сыстэму мэханізмаў электраэнэргію, прыводзіць у дзеяньне гарматныя вежы. Усюды на лінкэры сустрэнеш паравую магістраль, абшытую тоўстым пластам азбэсту.

Ля машын, там, дзе журчыць непрыкметная сіла, кружыцца ротар з радамі лапатак. Рухаюцца турбіны.

Далёка застаўся Севастопальскі рэйд. Наперадзе мора ды воблакі. Карабель ідзе поўным. Поўным упяршыню пасьля рамонту. Хвалярэз расьсякае хвалі, якія навальваюцца на яго. Бліскучыя пад сонцам пырскі зганяюць з бака чырвонафлётцаў, што прышлі паглядзець. Усё глыбей зарываецца ўзброеная цытадэль у прасторы мора, якое сёньня ня дрэмле.

Запалкамі да ніжняга калектара паравога катла ў зазоры жалезнае абшыўкі Молеў прымацаваў лёзунг: «Рапартаваць партыі, рабочай клясе і працоўным нашай краіны поўнаю баявою падрыхтаванасьцю».

—Ёсьць рапартаваць,—адклікаюцца байцы.

— Сярэдняя машына?

— Але, сярэдняя...

— Перадайце на мосьцік камандзіру і камісару, што качагары кандыдаты УсеКП(б) Сапегін і Талакноў рапартуюць партыі і ўсёй краіне жаданьнем застацца на зьверхтэрміновую ў шэрагах ударнікаў другой пяцігодкі.

— Як прозьвішчы?—перапыталі з машыны.

— Талакноў і Сапегін, ударнікі...

—Зразумела!—вырвалася з тэлефоннай трубкі.

Уключылі ўсю тэлефонную сетку кацельнае групы, перадаюць:

— Слухайце, Талакноў і Сапегін з № баявога паста рапартуюць жаданьнем застацца на зьверхтэрміновую. Перадаць усёй камандзе!

— Ёсьць перадаць усёй камандзе!—адказалі баявыя пасты.

— Гаворыць № пост кацельнай службы. Чырвонафлётцы Ялісееў, Мычалкін, Грошаў уступаюць у шэрагі партыі.

— Гаворыць сёмая качагарка. У шэрагі партыі ўступаюць Рабуха, Скакун, Кураў.

— Малодшы камандзір Хамідулін, чырвонафлётцы Радзівонаў, Сьмірноў Ф., Каленскі, Рабушаў, Сьмірноў Г. застаюцца на зьверхтэрміновую...

Так множацца рапарты баявых падразьдзяленьняў кацельнай групы. Множацца ў выніку прыкладных узораў забесьпячэньня поўнага ходу качагарамі.

Роўнамерна на поўны да адказу працуюць мэханізмы. Высокім слупам, з языкамі накшталт ляза гострае шаблі, полымя ліжа воблакі, што навісьлі па-над морам. Чыр-

воным сьвятлом адлюстроўваюцца кажухі труб, падплыла з іх фарба, згарэла. Фарсыроўка гарэньня найвышэйшая.

За кармою перавалам застаюцца высока ўздыбленыя слупы вады. Ад вінтоў яны ідуць калавертам, пеняцца і бездапаможна плешчуцца. Гэта значыць—поўны ход.

З атмасфэрнае трубы спачатку рэдкімі, а пасьля бесьперапыннымі кавалкамі выкідаецца белая пара. Знайшоўшы сабе прастор, пара засьцілае ўсю палубу і застыглымі дробнымі крупінкамі вады ўпрыгожвае грыбы і вежы, як упрыгожвае ранішняя раса густы азімы калгасны клін.

Узброеная цытадэль клякоча парою ў машынах, грохатам і моцнымі штуршкамі вінтоў перамагае новыя вузлы ходу. Выпрабоўваецца ўсё; мэханізмы—малыя і вялікія, простыя і складаныя... Выпрабоўваюцца людзі—радавыя, малодшыя камандзіры, сярэдні, старшы і вышэйшы начсклад. Выпрабоўваецца арганізацыя службы, карабельны распарадак, ауладаньне тэхнікай і ваенна-морскай падрыхтоўкай.

Дзяўчынка з Барысаглебску даслала чырвонафлётцу ліст. Яна захапляецца прыгожай морскай формай і выказвае сваё нездавальненьне ў тым, што праз паўтары гады будзе настаўніцай...

Мікола Маскаленка скончыў дзевяцігодку, моцны здаровы хлапец, шахцёр з Данбасу, у флёце зрыкладны малодшы камандзір. Ён рыхтуе кадры для флёту.

Косьця Апэн, вучань мэханіка, у флёт прышоў добраахвотнікам. Прыкладны камуніст і зараз малодшы камандзір.

Міша Елін. што прышоў на карабель з калгасных палёў і стаў электрыкам, застаўся на зьверхтэрміновую.

Няўжо-ж ты, Валя Разанава з Барысаглебска, разьлічвала знайсьці сабе глебу для хныканьня і апатыі ў флёце? Пісала ты свой ліст да нас, відавочна, таму, што мала ведаеш флёт і зусім ня ведаеш людзей, што служаць у флёце.

Баявая падрыхтоўка, якасьць якое мы падвышаем з кожным днём, патрабуе клясавай сьвядомасьці, упартай вучобы. Тут ужо ружовым колерам ня возьмеш. Патрэбна ўпартая работа ў засаленым камбінэзоне, што наскрозь пранізаны нафтай і сажай, у цёплай шубе і валёнках, у супроцьгазе, у сьпякоце і холадзе, у паветры, што пахне сьвежасьцю вясны, і ў паветры, дзе не стае кіслароду, уночы і ўдзень, на сонцы і ў імгле, у ясны прыгожы паўднёвы крымскі дзень і ў моры, што зацягнута густым туманам...

Сьвежы вугальны пыл Данбасу ледзь-ледзь сушыць ноздры. Тлустая, адваленая лемяшамі трактарнага плуга, зямля калгаснае Ўкраіны і Кубані адлюстроўваецца ў морскай роўнядзі.

Рында адбіла чатыры склянкі. З мосьціка аддадзены загад: «паменшыць ход». Артамонаў і ўся вахта зьмянілася. Кінуты якар. Карабель уступіў у летнюю кампанію і рапартуе партыі пра поўную баявую падрыхтаванасьць.

Даўгім чырвоным лязом падняты пераможны вымпел.

Севастопаль.

(Лінкор «Парыская камуна»).

ЯКУБ КОЛАС

# ЯК Я ПІСАЎ АПОВЕСЬЦЬ „АДШЧАПЕНЕЦ"

У канцы 1929 ці ў пачатку 1930 году адзін вядомы беларускі пісьменьнік быў у раёне ў часе калектывізацыі. Дзелячыся сваімі ўражаньнямі, расказаў ён, паміж іншым, аб адным бытавым эпізодзе. Нейкі селянін, не спачуваючы ідэі калектывізацыі, ня хоча ісьці ў калгас. Каб унікнуць яго і паставіць на сваім, ён надумаўся сыйсьці з дому, адрокшыся гаспадаркі і сям'і. Выбраў час, позную ноч, адзеўся па сьвяточнаму, памаліўся богу, аддубасіў палкаю жонку і сына—яны стаялі за калектывізацыю— і сказаў: „Цяпер ідзеце ў калгас", а сам павандраваў невядома куды.

Гэты эпізод моцна прыкаваў да сябе маю ўвагу, і я задумаў скарыстаць яго, як тэму для апавяданьня. Спачатку я меркаваў абмежавацца гэтым нескладаным сюжэтам. Першыя шэсьць разьдзелаў аповесьці і замыкаюць яго. Але, напісаўшы іх, я задумаўся. Паўстаў цэлы рад пытаньняў. Па істоце гэтыя шэсьць разьдзелаў—закончаны расказ. Але ў такім афармленьні ён болей шкодзіў, чым спрыяў самой ідэі калектывізацыі. Цікавіла мяне таксама і пытаньне аб лёсе гэтага селяніна. Куды ён пашоў? Што магло здарыцца з ім? Як мог пераламацца ў яго псыхіцы далейшы ход падзей?

Перада мною сталі разгортвацца малюнкі вандраваньня гэтага самавыгнаньніка. Дарог-жа перад ім, за межамі яго вёскі, магло быць многа, і ўсюды біла жывою крыніцаю маладая кроў новага жыцьця, шырокі разгон тварэньня яго новых форм. І ўсё гэта не магло не адбіцца на псыхіцы ўпартага нехацімца. Жыцьцё павінна было ўварвацца ў яго заскарузлае сьветаразуменьне і разбурыць яго дашчэнту.

На гэтай стадыі работы над аповесьцю я меркаваў павесьці свайго героя па цэламу раду калгасаў і саўгасаў, накіраваць яго ў гарады, паказаць яму сацыялістычнае будаўніцтва ў розных формах, дзе прымаюць удзел многамільённыя масы рабочых, сялян, інтэлігенцыі. Але выкананьне такога пляну патрабавала ад аўтара многа часу, быць можа гадоў упартай работы. Да і самая ідэя аповесьці—перарабленьне псыхікі селяніна—індывідуаліста ў працэсе калгаснага будаўніцтва—ужо-б уваходзіла

ў гэту работу, як аддзельны эпізод. Вось чаму я звузіў рамкі свайго пляну работы над аповесьцю. Таксама пакінуў я мысьль паказу розных іншых калгасаў. Паказваць іх у такім відзе, у якім былі яны ў сапраўднасьці на той час, значыла-б умацаваць у маім герою тыя настроі, з якімі станавіўся ён да калгасу. Вось чаму я абмежаваўся паказам аднаго толькі калгасу „Хваля рэвалюцыі“, дзе калгасная справа была добра наладжана. Разумеецца, аповесьць больш выйграла-б, калі-б герой яе прайшоўся і па іншых калгасах.

Пытаньне тут зводзіцца вось да чаго: ці выстарчае паказу аднаго толькі калгасу, якім зьяўляецца ў аповесьці калгас „Хваля рэвалюцыі“, для таго, каб зрушыць і пахіснуць заскарузласьць поглядаў цёмнага селяніна на калгаснае будаўніцтва і зрабіць з яго староньніка калгасу?

Даць адзін пэўны адказ на гэта запытаньне і лічыць яго правільным для ўсіх выпадкаў—я маю тут на ўвазе розных суб'ектаў,—разумеецца нельга. У адным выпадку можна сказаць—выстарчае, у другім—не, не выстарчае. Калі-ж даваць адказ, маючы на ўвазе Пракопа Дубягу, то на маю думку можна сказаць: выстарчае.

Пракоп, як і мільёны сялянства, ня мог не перажываць востра і балюча пераходны момант ад індывідуальнай формы гаспадаркі да гаспадаркі калектыўнай. Тысячы новых пытаньняў і рознастайных матываў прымушалі селяніна моцна і глыбока задумацца. Думаў і многа думаў аб гэтым і Пракоп. Жонка і два Пракопавы сыны насядаюць на яго, гавораць аб перавагах калектыўнай гаспадаркі, патрабуюць ісьці ў калгас. „Пракоп адчуў сябе пабітым і адзінокім. Хмурыўся і маўчаў... Свая-ж хата пазірала на Пракопа нявітліва і негасьцінна, як-бы ён быў тут чужы і лішні“. (Адшчапенец—стар. 20).

Аб гэтым-жа гавораць і на сходах прадстаўнікі ўлады і партыі. Пачынаецца масавы рух сялянства ў калгас. У такой абстаноўцы пакідае Пракоп сваю гаспадарку, хату і сям'ю. Сялянская роўнавага яго парушана, мысьлі растрывожаны, узбунтаваны. Доўгі і нязвычны для яго час бадзяньня, дзе ён горкім дасьведчаньнем пераконваецца ў тым, што ня так-то проста і лёгка знайсьці работу ў сяле, адпаведную яго здольнасьцям. А здольнасьцяй гэтых, апроч прывычных да чорнай рольніцкай работы рук, у яго няма. Ён ніяк ня можа вырвацца з зачарованага кола думак аб зямлі, аб формах карыстаньня ёю і мысьль аб дэлегацтве таксама падказваецца яму тою-ж немагчымасьцю для яго выйсьці з гэтага зачараванага кругу. Ён адважваецца на фальшыўку, самазванна бярэ на сябе ролю сялянскага дэлегата і ў гэтай ролі прыходзіць у калгас, дзе людзі чэсна і аддана працуюць, дзе ён бачыць сваімі вачыма вялікія здабыткі калектыўнай працы і добрабыт членаў калектыву.

Ці мог-жа пераканаць яго такі калгас у тым, што калгасу ня трэба баяцца, што ў калгас уступаць можна сьмела? Бясспрэчна мог.

І дарма адзін з крытыкаў гэтай аповесьці (гл. „Полымя“ 1931 г. кніга 11—12. Праф. Піотуховіч „Тэма колгаснага будаўніцтва“ ст. 158—159) гіронічна заўважае: „серадняк Пракоп сытна паабедаў у калгасе, пасьля абеду смачна адпачыў, па словах аўтара „пагладзіў тугі, як барабан, жывот“, пазнаёміўся з шчасьлівым і сытным жыцьцём калгасьніка, папарыўся ў добрай лазьні, пап'янстваваў у кулака разам з мяккацелым рабочым падкулачнікам і... зьвярнуўся ў вёску ўжо ў якасьці агітатара на карысьць калгаснага будаўніцтва: з Саўла зрабіўся Паўлам. Усё адбываецца надзвычайна лёгка і гладка, паказваецца па сутнасьці адзін вагар пераробкі серадняка—„тугі, як барабан, жывот“. Мой крытык напэўна самазадаволена пасьміхнуўся, напісаўшы пра „тугі, як барабан, жывот“ А я думаю, што гэты „тугі, як барабан, жывот“ не апошнюю ролю адыгрывае і ў крытычных устаноўках і зрухах самаго крытыка, каб так зьняважліва адзывацца аб значэньні „тугога жывата“ ў дачыненьні да цёмнага Пракопа.

Аднэю з асноўных хібаў аповесьці, па словах таго-ж крытыка, зьяўляецца „глянцоўка рачаіснасьці“... „Колас у сваім малюнку калгасу пабівае рэкорд глянцоўкі рачаіснасьці: у яго ўсюды ў калгасе чыстата і парадак, сталоўка больш падобна на гарадзкі рэстаран, кватэры калгасьнікаў з трох пакояў, тут пануе патрыярхальная гасьціннасьць і г. д.“ (Там-жа ст. 160.)

Праф. Піотуховічу здаецца дзікім чыстата ў калгасе. Яго прафэсарскае сэрца ня можа пагадзіцца з трыма пакоямі для калгасьніка. Для яго, відаць, больш натуральным, больш пажаданым зьяўляецца бруд і неахайнасьць. Прафэсарская мудрасьць замінае яму зразумець простую рэч, што пры стараннасьці і невялікай затраце энэргіі з боку членаў калектыву можна збудаваць чысты, акуратны калгас, дзе людзі маглі-б жыць-па-людзку, што калгас ня ёсьць мэханічны пераход ад аднэй формы гаспадаркі да другой, а разам з тым ёсьць і карэнная ломка ўсяго бытавога ўкладу селяніна. Праф. Піотуховіч заплюшчыў вочы і не захацеў бачыць, што аўтар, паказваючы калгас „Хваля рэвалюцыі“, выступае проста, як агітатар за будаўніцтва новага калгаснага быту, не адрываючыся ад жывой рачаіснасьці: хіба-ж трудна пабудаваць пры жаданьні і добрай волі калектыву такі калгас, як калгас „Хваля рэвалюцыі?“

У адным з №№ „Праўды“ за 1932 г. быў зьмешчан допіс Аграноўскага аб калгасе “Социалистическое поле“. Цікава, што ў гэтым калгасе будаўніцтва вядзецца тымі-ж спосабамі, як гэта паказана і ў калгасе „Хваля рэвалюцыі“. Крытыку трэба зразумець, што такога калгасу можа яшчэ і няма, што такі калгас толькі мысьліць сабе аўтар. Можна спрачацца, што калгас павінен быць нейкім іншым, лепшым ці горшым, але факт той, што калгаснае будаўніцтва ставіць на чаргу дня пытаньне аб унутраных парадках і быце калгаснага сялянства.

Характар гэтага артыкулу не дазваляе спыніцца на іншых выказваньнях Піотуховіча аб аповесьці „Адшчапенец“. А іх многа, і на жаль яны вельмі часта ня сур'ёзны, блутаны, супярэчлівы, а часамі проста прадуўзяты. Так у адным месьце ён піша: „Па ўнутраных якасьцях Брыль перш за ўсё добры прамоўца, які вельмі прыгожа і трапна даў малюнак жыцьця ў калектыве“. „Гэта адна прамова“, гаворыць далей крытык, „і разьвязвае ў Коласа справу калектывізацыі ў вёсцы, робячы вялікі пералом у сялян“. (Там-жа, ст. 160).

Ізноў-жа такі крытык ня хоча бачыць таго, што апісваецца далей у аповесьці. А там расказваецца, што сяляне з такою-ж хуткасьцю, пад уплывам пэўных падзей, выпісваюцца з калгасу, з якою пазапісваліся яны пасьля прамовы Брыля. Крытык забывае таксама, што Брыль выступаў ужо на сёмым сходзе, прысьвечаным калектывізацыі, і што гэту калектывізацыю вырашае зусім не прамова рабочага Брыля. У другім месьце ён „крытыкуе“ так:

„Ухіл у бок шкоднага гуманізму тым больш тут яскрава выступае, што ў паказе вобразаў беднякоў пісьменьнік дапускае ўжо поўнае скажэньне рачаіснасьці, якое мяжуецца з паклёпам на бедняка. Гаворачы аб тым, што зьнікненьне Пракопа выклікала панылы настрой у вёсцы, пісьменьнік дадае ад сябе: „нават той „энтузыязм“, з якім група затонцаў на чале з Марынічам і Нічыпаруком, першым падпісаўшым сваёю лёгкаю рукою пратакол аб пераходзе ў калектыўную гаспадарку, ужо гатова была рынуцца на заможнікаў-кулакоў, каб паліквідаваць іх трохі, нават гэты „энтузыязм“ разьвеяўся, як дымок, выпушчаны ў паветра з Марынічавай піпкі“.

Адкуль крытык узяў, што група затонцаў на чале з Марынічам і Нічыпаруком былі беднякі? Пра сацыяльнае становішча Нічыпарука нічога не гаворыцца ў аповесьці. Падпісаў-жа ён першым пратакол толькі таму, што яго падбіў сход, спасылаючыся на яго „лёгкую“ руку. Наўрад ці бывае „легкая“ рука ў бедняка. Калі прафэсар—крытык патурбуецца ды падумае над „лёгкімі“ рукамі, то ён можа дадумаецца, што „лёгкія“ рукі бываюць часьцей у заможных людзей, чым у беднякоў. Адносна-ж Марыніча прыгадаю крытыку невялічкую цытату з аповесьці. „З коміна, дзе ўткнута шэрая пад колер сталі гліняная труба, плыве-бяжыць сіневаты дымок, а разам з ім расплываецца па паветры спакусьліва запах сакаўных скварак.—Гуляе Марыніч, запускі робіць, сам сабе думае Пракоп“. Наўрад ці можна назваць Марыніча бедняком, калі ў яго печы смажацца скваркі, ды яшчэ сакаўныя. Ва ўсякім разе ад такой крытыкі праф. Піотуховіча пахне ня так прыемна, як ад Марынічавых скварак.

Пакідаю ў баку ўсе іншыя крытычныя практыкаваньні праф.Піотуховіча. Я-ж павінен сказаць, што мая аповесьць мае многа хібаў і вельмі значных. Толькі-ж мой крытык ня бачыць іх. Ён бездапаможна боўтаецца на мелкім месьце і думае, што плавае на глыбіні.

Да хібаў аповесьці трэба аднесьці вузкасьць і непаўнату разгорнутасьці сюжэту. Мастацкі паказ часта падмяняецца простым пераказам ад аўтара. Для аповесьці ў цэлым было-б лепей, калі б вандраваньне Ракопа было паказана спачатку да канца ў форме раду сцэн, эпізодаў. Мала ўдзелена ўвагі фігуры рабочага Брыля. Абрысоўка яго ня поўная, павярхоўная. Слаба паказана роля камсамолу ў калгасным будаўніцтве і нічога ня сказана аб кіруючай ролі партыі.

Некаторыя чытачы расцэньваюць маю аповесьць, як „агітку". Не пярэчу. Але-ж кожны мастацкі твор ёсьць па істоце агітацыя за пэўную ідэю. Справа толькі ў тым, каб агітацыйныя прыёмы мастака не выступалі занадта аголенымі, каб яны ня выходзілі з пэўных граніц меры і прапорцыі. Быць можа ў маёй аповесьці мера гэта не захована. Але аб гэтым няхай судзіць чытач— з боку яму відней.

Усе гэтыя хібы, як і ўсе іншыя, якіх ня бачыць сам аўтар, тлумачацца ў значнай меры ўрывачнасьцю і сьпешкаю работы над аповесьцю. Аўтар павінен прыняць за правіла—я маю тут на ўвазе ня толькі самога сябе—не тарапіцца здаваць у друк свае творы. Лепш, калі яны паляжаць у яго некаторы час, а пасьля гэтага іх трэба вельмі ўважна прачытаць і строга аднесьціся да кожнага радка свае работы.

У заключэньне скажу, што аповесьць надрукавана вельмі неахайна. А яна знаходзілася ў друку болей году. Друкарскія памылкі выпіраюць з кожнай старонкі. Некаторыя беларускія словы заменены рускімі (дзервяны –дзеравяны (й) ) Трапляюцца выпадкі скажэньня цэлых фраз. „Насычанае крохкім, як шкло, марозным паветрам чульліва лавіло ранічныя гукі". („Адшчапенец" стар. 75). У мяне не захаваўся рукапіс аповесьці, каб дакладна падаць гэты сказ. Там пэўна было так: „Насычанае крохкім, як шкло, холадам, марознае паветра чульліва лавіла ранічныя гукі"...

Выдавецтву трэба з большаю пашанаю адносіцца да мовы і свае прадукцыі і даваць магчымасьць аўтару рабіць карэктуру. Крытыку-ж трэба болей сур'ёзна падыходзіць да сваіх крытычных заўваг і не захапляцца шуканьнем ідэалёгічных плям у творах аўтароў, асабліва там, дзе іх і няма.

14-XI—1932 г.

ПРАФ. А. І. БАРАЧЭЎСКІ

Разбор вершу М. ЧАРОТА

# „ТАМ, ДЗЕ ЦІХІ НЁМАН“

*Зачытаем перш за ўсё самы верш:*

Сум асеньнім лісьцем сьцелецца...
Каму скажаш, выплачаш каму?
Правяла мілога за аселіцу,
Павялі яго за краты-мур.

Не сказалі слова мне, паганыя,
І за што? Куды яго бяруць?
Толькі помню—шабляю паранены
Быў мой мілы, калі гналі ў пуць...

Сум асеньнім лісьцем сьцелецца...
Ой, галосіць вецер-ліхадзей!
Праглядзела вочкамі аселіцу,
А з няволі мілы ўсё ня йдзе.

А вясною—раньнем сонечным,
Калі птушкі плакалі ў лясох,
Ясны дзень і цёмну ноченьку
Ткала я мілому паясок...

Ткала ніткамі чырвонымі,
А здавалася—шлях мілага ў крыві...
Ён нядоўга будзе заняволеным,
Радасьць хочу ў поясе завіць.

Веру—хутка мілы зьвернецца,
Белавежжа шэпча мне аб тым...
Хтось у сэрца кінуў зернятка,
Каб расьці надзеям залатым.

Раптам—стук! У вочках зелена...
Шабля вострая на сонцы зіхаціць...
Трапятала птушкаю падстрэленай,
Не хацела дзеўчына з хаты йсьці.

Сум асеньнім лісьцем сьцелецца,
Каму скажаш, выплачаш каму?..
Мілага ня стрэла за аселіцай...
Павялі яго за краты-мур.

А вятры ў полі забуянілі,
Ой, як птушкі плакалі ў лясох...
І дзяўчыну шабляю паранілі,
Бо чырвоны ткала паясок...

Гэта песьня сёньня складзена
Пра дзяўчыну горадзенскіх ніў...
Аб краіне, ворагам украдзенай,
Там, дзе ціхі Нёман забурліў.

Тэма вершу М. Чарота — аб зьняволеньні каханага дзяўчыны яго ворагамі, а потым зьняволеньня і яе самой—магла б быць распрацавана ў розных літаратурных жанрах: і ў навэлі, і ў рамане, і ў п'есе і г. д. Паэт выбраў жанр так званай фабульнай лірыкі: перад намі маленькае апавяданьне, якое аднак-жа нельга цалкам аднесьці да эпічнае творчасьці. Верш у такой меры ў кожным сваім радку насычаны эмоцыяй, і задача заразіць успрымальніка пэўным настроем і пачуцьцём настолькі выступае як асноўная, што верш належыць, ня гледзячы на яго апавядальны характар, ня менш да лірычнай творчасьці, ніж да эпічнай. Вершы з такой шчыльнай сувязьзю апавядальнага

і лірычнага элемэнтаў нярэдка называюцца балядамі. Калісьці ў літаратуры рамантызму баляда была адным з асноўных жанраў. Балядды мелі часта сваім выточным пунктам народныя песьні лірыка—апавядальнага характару. У стылі такой народнай песьні напісан і верш М. Чарота, аб чым сьведчыць між іншым ужываньне частых у народных песьнях парных назоўнікаў, як краты-мур, паменшальных назоўнікаў, як вочкі, ночанька, птушкі, зернятка, сталых эпітэтаў, як ясны дзень, цёмная ноченька, шабля вострая, параўнаньня жанчыны ў бядзе з падстрэленай птушкай, матыву вышываньня міламу ў час разлукі паяска. Верш напісаны на тэму сучасную, але нашым далёкім патомкам верш раскажа аб тым, што для іх будзе авеяным паданьнямі і легендамі, гераічным мінулым.

Патрабаваць ад сюжэтнай лірыкі падрабязна распрацаванага апавяданьня было-б няправільна: усхваляванасьць апавядальніка, прасякнутасьць песьні моцным пачуцьцём ня мірацца з такім спакойным і дакладным паказам фактаў і матывіроўкай іх, якія мы можам знайсьці ў навэлі, рамане ці драме. Але ў той- жа час задача такой распрацоўкі фабулы, якая-б ня ўзбуджала ў успрымальніка супярэчнасьцяй і непаразуменьняў, усё-ж ня зьнімаецца. М. Чарот рашыў гэту задачу, на мой погляд, не беззаганна. Дзяўчына, гераіня песьні, паказана зьбіўчыва. Арышт каханага выклікае ў ёй пытаньне: „І за што?“ Куды яго бяруць?“— пытаньне, якое ня ўвязана з тым, што потым і яна аказалася арыштаванай. Была яна толькі каханай арыштаванага ці таксама яго таварышом у той справе, за якую ён арыштаваны? Гэта—няясна.

Яе арышт матывуецца тым, што яна „ткала чырвоны паясок“. Такая матывіроўка, якая пры літаральным яе разуменьні была-б бяссэнсіцай—за вышываньне паяскоў, хаця-б і чырвоных, не арыштуюць—прымушае чытача бачыць у вышываньні чырвонага паяску сымбаль вернасьці дзяўчыны каханаму, якогасьці ўдзелу яе ў яго справе, за што праз некаторы час яна і разьдзяліла яго лёс. Каб надаць вышываньню паяску такі сэнс, аўтар павінен быў паказаць яе працу над паяском, як выражэньне яе думак, пачуцьцяў, імкненьняў. Узор і фарбы паяску маглі-бы быць дадзены ў іх сымбалічным значэньні. Такое імкненьне, як відаць з пятай страфы, у аўтара і было, але зьдзейсьнена яно не яскрава і нават блытана; дзяўчына вышывала паясок чырвонымі ніткамі, якія не то напамінаюць ёй аб крывавым шляху мілага, параненага ворагамі, ня то „завіваюць радасьць“. Прыгожа разгорнутая мэтафара—

Хтось у сэрца кінуў зернятка,
Каб расьці надзеям залатым

магла-б быць выкарыстана пры апісаньні паяску, а не стаяць паасобку! Сымбалічнае ўсьведамленьне фарбаў ніток, паказ растучых з зернятка залатых надзей, як прасякнутага верай

у жыцьцё і перамогу ўзору паяску, зрабілі-б верш палітычна больш вострым, пэрсанажны вобраз больш клясава выразным.

Пэўным недахопам апавядальнага боку вершу можна лічыць і тое, што арышт каханага, а потым і самой дзяўчыны апісваецца зусім аднолькава: ён—быў паранены шабляю пры арышце, праз некаторы час таксама і яна. Гэтае паўтарэньне робіць апавядальны бок вершу бедным і схэматычным. Ёсьць розныя паўтарэньні. Лірычныя паўтарэньні вырашаюць эмацыянальнасьць песьняра, сканцэнтраванасьць яго пачуцьця на адным прадмеце, захопленасьць пэўным матывам. Такія лірычныя паўтарэньні мы знаходзім і ў даным вершы: паўтарэньне тройчы прыгожага радку „Сум асеньнім лісьцем сьцелецца", як лейтматыву вершу і паўтарэньне элемэнтаў прыроды—вобразу ветра ліхадзея і плачучых птушак,—што выконваюць функцыю пэйзажу, як лірычнага акампанімэнту да фабульнай лініі вершу. Усе гэтыя паўтарэньні пасіляюць лірычную мэлёдыю песьні. Менш апраўданы поўныя паўтарэньні бяз усякіх варыяцый у эпічных фабульных элемэнтах вершу, дзе трэба даць тую рэальнасьць, якая ня церпіць поўных паўтарэньняў.

У прыроду паэт праіцырвае сумныя пачуцьці сваёй гераіні. Яе непакой і хваляваньне двойчы ўцялесьнены ў голасе ветра, яе плач—у плачы птушак. Прырода прымае ўдзел у яе няшчасьці. Яе надзея падтрымана борам:

> Веру—хутка мілы зьвернецца
> Белавежжа шэпча мне аб тым...

Прыроду, якая ў сюжэтнай лірыцы часта прымае ўдзел у здарэньнях і чалавечых пачуцьцях, аўтар, як мы бачым, увёў скупа, але вельмі тонка і мастацка. Спрэчным зьяўляецца толькі паказ прыроды ў чацьвертай страфе: па-першае, вясною сонечным раньнем птушкі ня плачуць, а наадварот, шчабечуць бадзёра і радасна,—не ва ўсякі момант жыцьця прыроды і яе зьяваў можна праіцырваць любы чалавечы настрой так, каб гэта было мастацка-верагодна; па-другое, азначэньне часу-„раньнем сонечным"-і ў той-жа час тканьне дзяўчынай у „ясны дзень і цёмну ночаньку" стварае няпрыемнае аграмаджэньне і блытаніну, ня гледзячы на тое, што сонечнае раньне для аўтара (аб гэтым сьведчыць знак—) зьяўляецца мэтафарычным азначэньнем вясны. Пры простым, немэтафарычным разуменьні вобразу сонечнага раньня, а яно лёгка ўзьнікае ў чытача, атрымліваецца блытаніна.

Аднэй з асаблівасьцяй пабудовы данага вершу зьяўляецца тое, што першыя 6 строфаў пададзены ад імя дзяўчыны: яны—яе ўласныя словы, словы пэрсанажу, а не аўтара—той від лірыкі, які немцы называюць Rollenlyrik (лірыка роляў); пачынаючы з сёмай страфы, з моманту перыпэтыі апавядае сам аўтар. Гэты пераход у вершы вельмі нявыразны. Наогул абедзьве часткі стылістычна амаль не адрозьніваюцца, бо і ў другой частцы зноў гучыць радок, які мы называлі лірычным лейт-матывам

вершу, аўтар расказвае аб далейшым тымі-ж словамі, што ўжывала і дзяўчына, дае паўторна вобразы ветру і плачучых птушак. Паколькі мова аўтара стылістычна саўпадае з мовай пэрсанажу, узяты ў пачатку тон вершу захоўваецца да канца, але як раз з гэтай прычыны зьмена ў спосабе апавяданьня праведзена няясна, ня ўносіць у верш нічога новага і застаецца мастацка не ўгрунтаванай і ніяк ня выкарыстанай, толькі парушаючай у пэўнай меры цэльнасьць вершу.

Варта зьвярнуць увагу, як на дадатны бок вершу, на вельмі арыгінальную падачу яго заглаўя не ў пачатку, дзе з яго даецца толькі вынятка, а ў канцы, дзе яно разгорнута ў цэлую страфу, якая ўскрывае не выстарчальна паказаную ў самім вершу яго сацыяльна-палітычную аснову, дае адносіны аўтара да тых падзей, якім прысьвечана песьня (эпітэт да краіны—„ворагам украдзеная") і выражае ў фінальным радку веру, што ім, ворагам, ня ўдасца ўтрымаць у сваіх руках краіну: вобраз ціхага Нёману, які забурліў, успрымаецца як сымбаль хваляваньня людзей, народнай масы. Вельмі прыгожае завяршэньне вершу, якое з мастацкай тонкасьцю дае бадзёрую палітычную канцоўку сумнаму апавяданьню песьні.

Пяройдзем да вершаскладальнага боку твору. Верш уложаны ў строфы: чатырохрадзьдзі з крыжаванымі рыфмамі. Ён напісаны харэічным разьмерам рознастопным. Сустракаюцца чатарохстопныя радкі („Сум асеньнім лісьцем сьцелецца"), пяцістопныя („Не сказалі слова мне, паганыя") і шасьцістопныя („А здавалася—шлях мілага ў крыві"). Магчыма, што верш выйграў-бы ў сваёй песеннай арганізаванасьці, калі-б паэт унікаў пэўнай стракатасьці і выпадковасьці ў колькасьці стоп у радку. Нявытрыманасьць самага харэічнага разьмеру сустракаем у адным радку: „Не хацела дзеўчына з хаты йсьці" (лішні склад у трэцяй стапе).

Разьмер у вершы, напісаным пэўнымі стопамі, ажыцьцяўляецца наогул шляхам узгодненьня націскаў мэтрычных, г. зн. дыктуемых выбраным разьмерам з граматычнымі націскамі слоў. Гэтага мы ня бачым у наступных радках: „Каму скажаш, выплачаш каму?" і „Быў мой мілы, калі гналі ў пуць". Словы „каму", „калі" маюць граматычны націск на другім складзе, а харэічны разьмер ставіць націск на першым. Аднак-жа паколькі на словах каму і калі націск наогул у даным кантэксьце ня гучыць, бо яго праглынае націск наступных дзеясловаў, і радкі можна бяз гвалту над нармальным вымаўленьнем прачытаць, ня робячы на словах каму, калі ніякага націску, то адзначанае разыходжаньне між вершавым і граматычным націскам у даным выпадку не зьяўляецца недахопам. Але лепш такім разыходжаньнямі ня злоўжываць.

У эўфоніі вершу, у самых яго гуках, адчуваецца часам вельмі высокая арганізаванасьць. Так прыкладам, прыгожае параўнаньне суму з асеньнімі апаўшымі лісьцямі эўфонічна падтрымана гукаперамальнай алітэрацыяй, паўторам зычных *с* і *ц*: „Сум асеньнім

лісьцем сьцелецца", душэўны стан дзяўчыны пры арышце пера-даны нэрвовым стукам зычных *т*, *р* *і* *п*: „трапятала птушкаю падстрэленай".

Паасобным відам эўфоні вершу зьяўляецца рыфма. У вершы ўжыты дактылічныя рыфмы (у няцотных радкох страфы) і мужчынскія (у цотных). За некаторымі выключэньнямі аўтар унікае так званых граматычных рыфмаў—рыфмаў, дзе гукава пераклікаюцца аднолькавыя часьціны мовы ў сваіх суфіксах і канчатках (самы лёгкі і шаблённы від рыфмаў, дзе рыфмуюцца толькі службовыя часткі слоў, а ня іх корні, прыкладам, тым—залатым). Рыфмы разглядаемага вершу часта зьвязваюць розныя часьціны мовы: сьцелецца—аселіцу, зьвернецца—зернетка. Верш ня імкнецца да поўнага саўпадзеньня гукаў у рыфме пасьля націскной галоснай, але часта дае пераклічку гукаў перад ёю, дзякуючы чаму рыфма ідзе ў глыбіню радку і такім чынам не зьяўляецца знадворна прычэпленым да яго аздабленьнем.

У цэлым верш мабілізуе мастацкія сродкі на служэньне пэўнай мэце: стварэньню вобразаў і выкліканьню пачуцьцяў, якія-б узбудзілі ў чытача нянавісьць да клясавых ворагаў працоўных, адданасьць справе пралетарыяту.

„Я вельмі добра ведаю, што. ня гледзячы на наяўнасьць людзей мала пісьменных і някультурных, сярод пачынаючых пісьменьнікаў ёсьць многа таленавітых, шчыра жадаючых вучыцца. Ёсьць сярод іх і буйныя таленты. Але ўсім ім неабходна вучыцца тэхніцы справы, так як яны ў сваёй большасьці тэхнічна ня ўзброены, і гэта нязьбежна згубіць многіх з іх, ня дасьць расквітнець іх талентам з прыгожасьцю і сілай"

*Максім Горкі*

*РЫГОР КОБЕЦ*

# ЯК ПІСАЦЬ НАРЫС[1])

Доўгі час у нашай савецкай літаратуры ішлі спрэчкі аб тым, як лічыць нарыс, ці творам літаратурна-мастацкім ці творам публіцыстычным. Розныя таварышы выказвалі свае думкі. Адны казалі, што нарыс павінен быць агульна-публіцыстычным, дакумантальным. Іншыя казалі, што нарыс павінен быць сюжэтным мастацкім творам. Мы ня згодны ня з той і ня з другой думкай. Мы лічым, што аўтар, які піша нарыс, павінен думаць аб тым, што яго твор абавязкова павінен быць і публістычным і дакумантальным і ў той самы час творам мастацкай літаратуры. Такім творам, які-б захапляў чытача сваёй цікавасьцю, мастацтвам і пераконваў-бы яго і агітаваў-бы яго і накіроўваў-бы яго думкі ў той бок, які патрэбны аўтару.

У які-ж бок павінен накіроўваць аўтар свайго чытача? Зразумела, што ў нашай краіне, у наш час, як нідзе літаратура павінна быць вельмі вострай зброяй пралетарыяту. Літаратура павінна актыўна прымаць удзел у нашай працы, у барацьбе за перамогі пад сьцягам і кіраўніцтвам нашай партыі за пабудову сацыялізму.

Таму кожны рабочы-ударнік пачынаючы тварыць—павінен памятаць аб тым, штэ яго нарысы зьяўляюцца і павінны зьяўляцца зброяй войстрай клясавай барацьбы, магутным уздымам яго творчай працы на карысьць пралетарыяту.

Нарыс, як невялікая, але моцная форма літаратурнага твору, павінен чытацца цікава і пераканаўча. Калі некаторыя кажуць, што нарыс не зьяўляецца мастацкім творам, мы адказваем: няпраўда. Нарыс зьяўляецца мастацкім творам, які можна чытаць з вялікім захапленьнем і цікавасьцю. Вазьмеце, напрыклад, лепшыя нарысы Ларысы Рэйснэр, Зорыча, нарысы Караленкі і вы ўбачыце, што гэтая, так званая, „маленькая“ форма літаратурнага твору чытаецца з вялікай цікавасьцю і пераконвае чытача ў той бок, які патрэбен аўтару.

---

[1]) У разьвіцьцё думак гэтага артыкулу ў наступных нумарох будзе дадзены разгляд нарысаў розных аўтараў. *Рэдакцыя.*

Некалькі слоў практычных.

Шмат беларускіх, расійскіх і іншых савецкіх пісьменьнікаў (калі мы праглядзім гісторыю літаратуры) пачыналі з нарысаў. Асабліва з гэтай формы літаратурнай працы пачыналі, бадай што ня тры чвэрткі рабочых пісьменьнікаў. Чаму гэта так?

А таму, што нарыс зьяўляецца той формай літаратурнай працы, якой лягчэй за ўсё авалодаць. Калі мы прагледзім працу нашых лепшых журналістых, якія перарасьлі ў пісьменьнікаў, то таксама заўважым, што яны пачыналі зноў-такі з нарысаў.

Мы лічым, што пісьменьнікі рабочыя-ўдарнікі, вядома, ня ўсе, але тыя, якім крыху знаёма газэтная і літаратурная праца, павінны пачынаць з нарысу. Нам здаецца, што гэтая форма літаратурнае працы патрабуе кароткага, але моцнага выказваньня сваіх думак, палкага ўздыму свайго клясавага пачуцьця, сьвядомасьці і вельмі блізкага знаёмства з тым, аб чым піша, а таксама любові да тых людзей, альбо нянавісьці, аб якіх пішаш, з тым разьлікам, каб гэтыя людзі, калі можна сказаць героі нарысу былі жывымі, яскравымі і дзейнымі. Асабліва, калі мы ў нарысе апісваем жывых людзей, трэба памятаць аб адным: клясавую накіраванасьць і свае клясавыя адносіны да таго, аб чым пішаш Трэба памятаць, што чым больш любіш батрака, тым больш будзеш ненавідзець кулака. Чым больш любіш пралетарыят, тым больш ненавідзіш капіталізм. А калі гэта так, то мы, пішучы нашы нарысы, заўсёды зможам цікава і мастацкі пісаць аб нашым будаўніцтве, аб нашых лепшых людзях, аб нашым такім цікавым часе, паўтараем мастацкі пісаць і тут-жа біць, але таксама па-бальшавіцкі і мастацкі, нашага клясавага ворага, выяўляць яго твар, як-бы ён не хаваўся, біць нашы непаладкі, якія перашкаджаюць агульнаму росту нашай краіны.

Гэта першае аб чым павінен думаць аўтар, калі ён піша нарыс.

Каротка, моцна, клясавая напружанасьць і клясавая накіраванасьць сваіх адносін да таго, аб чым пішам.

Трэба, каб чытач пераконваўся ў той бок, які нам патрэбен, каб зрадніўся з думкай аўтара нарысу, каб набіраў сілы для далейшай працы, сьмяяўся, радаваўся, а часам і сумаваў, калі пішацца аб чым-небудзь дрэнным і накіроўваў-бы ўсе свае сілы для таго, каб палепшыць працу, як сваю асабістую, так і працу другіх таварышоў на карысьць нашай краіне.

*БАРЫС МІКУЛІЧ*

# З ПАРТФЭЛЮ РЭДАКЦЫІ

*Агляд ненадрукаваных твораў*

Таварыш абураецца: „Усякаму цярпеньню ёсьць мяжа. Я ўжо раблю вам другі напамінак, але вы не зьвяртаеце на гэта ніякай увагі. Настойліва прашу вас, каб вы хутчэй паведамілі аб лёсе майго апавяданьня пад назваю „Сьлізь“.

Гэты ліст пачынаючага пісьменьніка, аўтара, быць можа, першай літаратурнай спробы. Яго скарга законная. Людзі з рэдакцыі, не адказаўшы яму, зрабілі, па сутнасьці, дрэнную рэч: ня тым, што не надрукавалі яго першага твору, а тым, што не адказалі на ліст і гэтым самым зьнялі пытаньне вучобы гэтага маладога аўтара.

А вучыцца аўтару „Сьлізі“—Віктару Разумоўскаму трэба шмат.

У гэтым творы аўтар спрабуе паказаць, як у вышэйшую навучальную ўстанову трапілі варожыя савецкаму грамадзтву людзі (“сьлізь“), як калектыў ВНУ ачышчаецца ад гэтае „сьлізі“. Тое, пра што хоча напісаць аўтар (тэма), дужа цікавая рэч. У нас бракуе маладзёжных твораў, бракуе на паказ студэнцкага побыту. Цікавасьць тэмы—аўтарскі плюс. Але мінусаў у творы больш.

Пісьменьнік, абраўшы тэму, раней, чым пісаць той ці іншы празаічны твор, думае над тым, як гэту тэму падаць, як прымусіць чытача жыць жыцьцём тых людзей, якіх ён апісвае, як прымусіць чытача чытаць ягоны твор. Адным словам—пісьменьнік думае, у якую залежнасьць адзін да аднаго паставіць тыпаў свайго твору, як прывесьці іх у пэўную сутычку паміж сабой, праз якія падзеі ці здарэньні правесьці гэтых тыпаў („герояў“) для таго, каб у чытача зьявілася і не паслаблялася цікавасьць да напісанага. Тэма ў мастацкім творы не вызначаецца загадзя, як тэма для школьнай пісьмовай работы настаўнікам, а выяўляецца праз людзей, якія бяруць удзел у тых ці іншых падзеях, што непарыўна зьвязаны паміж сабой і лёгічна вынікаюць адна з аднэй. Такім чынам, пісьменьнік уцелясьняе абраную тэму

ў сюжэт для выяўленьня праз яго гэтай самай тэмы. Той мастацкі твор, які завецца апавяданьнем, абавязкова павінен мець сюжэт, г. зн. людзі, пра якіх пішацца ў творы, павінны неяк сутыкнуцца, павінна адбыцца паміж імі нейкая барацьба. Менавіта ад таго, наколькі цікава аўтар здолее зьвесьці людзей у барацьбе, наколькі трапна аўтар здолее падвесьці чытача да найвышэйшага пункту гэтай барацьбы, ад якога залежыць вырашэньне той ці іншай найважнейшай праблемы для гэтых людзей, менавіта ад гэтага залежыць цікавасьць чытаньня твору.

Гэта першая з галоўных прадумоў для напісаньня мастацкага апавяданьня, якую не засвоіў аўтар „Сьлізі". Ён ня здолеў двух супроцьлеглых, паводле аўтарскага замыслу, людзей—Люсю і Ваську Дубка—паставіць у гэткія ўмовы, пры якіх адбылася-б іхняя сутычка, адбылася-б разрадка тых супроцьлеглых настрояў, якія ёсьць у гэтых тыпаў. Аўтар уклаў у Васькавы вусны абвінавачаньне на адрас Люсі, а ў вусны яе—абвінавачаньне на адрас Ваські—і, па сутнасьці, апавяданьне для чытача скончылася ў першым-жа разьдзеле, а пяць астатніх разьдзелаў апавяданьня ахвяраваны на нячытаньне. Што тут атрымалася?

Атрымалася тое, што аўтар асноўную тэму апавяданьня ўклаў у вусны сваіх „герояў", а не паказаў яе праз цэлы шэраг падзей ці здарэньняў—і ў выніку: 1) чытач страціў цікавасьць да тэмы і 2) страціў цікавасьць да людзей, пра якіх пішацца ў творы, бо гэтыя людзі сказалі самі пра сябе, самі выкрылі свой клясавы твар. Апошняе—хвароба маладых пісьменьнікаў. Яны даюць поўны і дакладны пашпарт сваім „героям", забываючы на тое, што, прыкладам, кулак ніколі ня скажа ў жыцьці: „Я—кулак. Я супроць савецкай улады. Бярыце мяне і ліквідуйце, як клясу". Вось пэрсанаж са „Сьлізі" траха што ня так і заяўляе: „Ну падумай: ВНУ перастае быць ВНУ, бо яго напаўняе нейкая шваль. Ну, што з таго, што ты рабочы ці батрак, ударнік разударнік... Навуку ўцяміць—гэта ня тое, што малатком памахаць" і г. д. у гэткім-жа пляне.

Хіба ёсьць каго выкрываць? Хіба пасьля гэткай і ёй падобных рэплік аўтар адчувае задавальненьне ад таго, што вораг ліквідаваны? Гэта ня вораг, а пустыя рэплікі.

Вораг ня будзе гэтак казаць. Ён будзе рабіць, ён прыдумае цэлы шэраг рэчаў, якія павінны пашкодзіць таму, што яму ненавісна. Вораг, шкодзячы, будзе хаваць канцы ў ваду, будзе маскавацца. От менавіта ворагава шкодная чыннасьць, пэўная цяжкасьць ягонага выкрыцьця і самае выкрыцьцё,—гэта ўсё і ёсьць сюжэт, гэта ўсё і надае пэўную цікавасьць, якой мы павінны патрабаваць ад мастацкага твору. Такім чынам, адначасова вынікае адсюль і тое, што клясавы твар людзей у мастацкім творы выяўляецца праз чыннасьць людзей, праз тое, што, як і навошта гэтыя людзі робяць. Ад умелага паказу людзей, ад умелай расстаноўкі іх залежыць сюжэт (а значыць,—і чытабельнасьць) апавяданьня.

От, прыкладам, я прачытаў апавяданьне Юркі Рудзько „Гарт", бязумоўна, у колькі разоў мацнейшае за апавяданьне „Сьлізь". Але для апавяданьня Ю. Рудзько таксама характарна няўменьне паказваць людзей, а значыць—і няўменьне будаваць сюжэт твору.

Узятае само-па сабе прозьвішча „Кляўко" яшчэ нічога не гаворыць для чытача. Трэба абмаляваць таго, хто носіць прозьвішча „Кляўко". Гэта трэба рабіць не дакладным пераказваньнем біяграфіі таго ці іншага літаратурнага пэрсанажу, гэта трэба рабіць не наклейваньнем ярлычкоў кшталтам „рабочы-ўдарнік гэткі," а шляхам выяўленьня яго псыхалёгічнае постаці праз справу, учынкі, дзеяньні. У адваротным-жа выпадку атрымліваецца тое, што аўтар апавяданьня, сказаўшы чытачу „гэта—ударнік", а гэта—„крыва ўдарнік", загадзя вызначае па пэўнаму трафарэту род дзеяньня для кожнага са сваіх „герояў" і для чытача не застаецца ніякай работы, чытач расчаравана кажа: „Ну, зразумела, гэта-ж ударнік і інакшэн рабіць ня можа". Аўтар павінен пакінуць за чытачом права на пэўную творчую работу, сваю ўласную творчую работу павінен падзяліць з чытачом з тым, каб апошні, прасачыўшы за чыннасьцю таго ці іншага „героя", сам-бы мог сказаць: „Гэта—ударнік, а гэта—крыва ўдарнік, бо першы робіць так, а другі—так". Кантакт чытача і пісьменьніка—гэта важнае пытаньне, ігнараваць якога нельга.

Юры Рудзько ў апавяданьні „Гарт", не выяўляючы людзей праз іх чыннасьць, а загадзя вызначаючы іхнае сацыяльнае месца, пазбавіў, такім чынам, апавяданьне аднаго з асноўных кампанэнтаў яго,—па аналёгіі: паставіў перад згаладаным чалавекам парожнюю талерку, запэўніўшы яго, што на талерцы ляжыць надта смачная ежа. Зразумела кожнаму, што згаладаны чалавек не згадзіцца з Рудзько.

Без поўнакроўнага паказу людзей (паказу, бязумоўна, ня толькі знадворнага, а галоўным чынам, нутранога, псыхалёгічнага) ня можа быць пасьпяхова разгорнутага сюжэту, г. зн.—ня можа быць мастацкага твору. З-за дрэннае схэматычнае абмалёўкі людзей у Ю. Рудзько атрымалася тое, што сюжэтная лінія распалася і кавалкі яе прышлося мэханічна сцэпліваць, склейваць пераказам розных загадаў, выпісваньнем нататак з насьценгазэты і г. д. Апрача гэтага—твор страціў сваю важкасьць, зрабіўся дужа „лёгкім"; найважнейшыя праблемы (у апавяданьні—авалоданьне тэхнікай, вынаходніцтва) вырашаюцца неяк лёгка, адным росчыркам пяра, схэматычна.

„Верка прыветна ўсьміхнулася.

— Авалодаў тэхнікай, знача? А калісьці нагрэў ён цябе,— кіўнула яна на варштат.

— Было —згадзіўся Пётра, крыху саромячыся за старое.—Было гэтак, што мядзьведзь зграбна ля варштату пахадзіў...

Сьцёпка разадраў кола людзкое, сябру руку працягнуў.

— Дай пяць вынаходніка... Малайцом... Ыш ты, надумаўся як.

— Качаць вынаходцу!—кінула Верка. Падхапілі.

— Даеш!

— Ур-ра!

...На дошцы аб'яў—невялічкі аркуш"...І далей падаецца загад па цэсе.

Праўдзівы, так званы, рэалістычны паказ рачаістасьці патрабуе ад аўтара праўдзівага апісаньня. У жыцьці-ж робіцца прасьцей— без „даеш" і „ура". Характарна, што, калі ў апавяданьнях маладых аўтараў ліквідуецца, прыкладам, вытворчы прарыў, дык на сходзе абавязкова каго—небудзь „качаюць" і крычаць „ура". Гэта гучыць фальшыва, непераканаўча. Больш сур'ёзнае дзелавітасьці і прастаты, менш „ура—фразы"—і таннага эфэкту. От менавіта апошняга праз меру ў апавяданьні Юркі Рудзько, у апавяданьнях іншых маладых аўтароў.

Такім чынам, мы ўстанавілі.—

Для мастацкага апавяданьня патрэбен сюжэт з бесьперапынным нарастаньнем зацікаўленасьці да яго. Гэты сюжэт можна пабудаваць пры ўмове поўнакроўнага паказу людзей у іхнай чыннасьці. Гэтая асноўная ўмова ставіцца, бязумоўна, перад тымі, хто цалкам авалодваў моўнаю пісьменнасьцю, бо якраз апошняга бракуе маладым аўтаром. Але гэта—тэма адмысловых нататак.

**„У маладых пісьменьнікаў ёсьць што сказаць аб новых радасьцях жыцьця, аб шматгранным росквіце творчых сіл у краіне. Яны павінны шукаць натхненьняў і матар'ялаў у шырокім і бурным патоку працы, ствараючай новыя формы жыцьця, ім трэба жыць як мага бліжэй да творчай волі нашае эпохі,—воля гэта ўцелясьнёна ў рабочай клясе".**

*Максім Горкі*

# Крытыка і бібліяграфія

БРЫГАДА АСЬПІРАНТАЎ БАН

*Р. ЛЯПІЧ, Л. ФІАЛОЎСКАЯ, І КОБЕР*

## У ПАЛОНЕ ПАМЫЛАК [1]

Пастанова ЦК УсеКП(б) аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый сустрэла гарачы водклік і падтрыманьне з боку шырокай пісьменьніцкай савецкай грамадзкасьці. Гэтая пастанова адкрывае новыя нябачаныя пэрспэктывы для разьвіцьця пралетарскай і савецкай літаратуры і згуртаваньня ўсіх пісьменьнікаў, якія падтрымліваюць пляцформу савецкай улады, якія імкнуцца ўдзельнічаць у сацыялістычным будаўніцтве, вакол асноўнага лёзунгу партыі—стварэньня Магнітабулаў літаратуры, літаратуры, якая павінна адбіць усю веліч сацыялістычнага будаўніцтва, працэсы клясавага змаганьня пад кіраўніцтвам партыі за перамогу сацыялізму, якая павінна на аснове сучасных перамог паказаць пэрспэктывы будучага, паказаць гераічную барацьбу рабочай клясы і партыі ў мінулым.

У справе пасьпяховага выкананьня гэтых задач асабліва значэньне набывае літаратурная крытыка, якая для таго, каб правільна дапамагаць савецкім пісьменьнікам у іх штодзённай творчай рабоце і выкрыць клясава-варожыя вылазкі і тэндэнцыі ў літаратуры, павінна сама стаяць на ўзроўні марксысцка-ленінскага сьветапогляду. Крытычны фронт былое БелАПП у свой час налічваў у сваім творчым актыве ня мала дасягненьняў. Яркім доказам гэтых дасягненьняў можа паслужыць пасьпяховая барацьба літаратурнае крытыкі пад кіраўніцтвам КП(б)Б супроць вялікадзяржаўнага шавінізму, контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму, пераверзеўшчыны і іншых варожых тэорый у літаратуразнаўстве. Камуністычная крытыка павінна даць і дасьць руйнуючы адпор усім тым, хто імкнецца змазаць тыя

---

1) Мы разглядаем тут артыкулы т. Ал. Кучара пэрыоду 1929—1931 году уключна

відавочныя і бясспрэчныя дасягненьні ў рабоце ліквідаванай партыяй БелАПП і БелАПП'аўскай крытыкі за часы іх існаваньня. Усе дасягненьні, увесь дадатны вопыт пралетарскага літаратурнага руху скарыстоўваецца арганізацыяй Савецкіх Пісьменьнікаў Беларусі.

Адначасова неабходна да канца выкрыць усе памылкі, якія рабіліся асобнымі кіраўнікамі БелАПП і яе крытыкамі і якія вынікалі з таго, што сваячасовыя і вычарпальныя ўказаньні і дырэктывы партыі імі не заўсёды як сьлед выконваліся. Элемэнты групаўшчыны, заціску самакрытыкі, голага адміністраваньня ў адносінах да папутнікаў, замест непарыўнай упартай работы па іх ідэёваму перавыхаваньню, якія мелі месца ў БелАПП, неабходна зьнішчыць у корані. Адным з яркіх фактаў, які сьведчыць аб наяўнасьці элемэнтаў групаўшчыны і заціску самакрытыкі ў ліквідаванай БелАПП, зьяўляецца тое, што асобныя буйныя, палітычнага і мэтадалёгічнага характару памылкі, якія маюцца ў крытычных працах тав. Л. Бэндэ і А. Кучара, не крытыкаваліся ў друку.

Да рэчы кажучы: калі на вечарох „крытыкі крытыкаў", якія праводзіліся БелАПП яшчэ да яе ліквідацыі, пасьля выступленьня „Зьвязды", тав. Бэндэ, які ў асноўным стаіць на правільных пазыцыях, стаў на шлях прызнаньня зробленых ім памылак, дык Кучар, прыкрываючыся аўтарытэтам БелАПП, упарта абараняў асновы „сваёй" мэтадалёгічнай канцэпцыі.

Кучар і да гэтага часу ня вызваліўся ад ідэалістычна-мэханістычных канцэпцый Воронскага і Пераверзева, якія часамі падпраўляюцца ім голым плеханаўскім мэтадалёгізаваньнем. У сваіх артыкулах ён адрывае літаратуру ад рачаіснасьці і разглядае яе як нешта зусім самастойнае, як асобны сьвет, сьвет эстэтычных вартасьцяй і непасрэдных адчуваньняў. Вось чаму Кучар так многа ўвагі і месца адводзіць аналізу „паэтычных пачуцьцяў" і „адчуваньняў", „чуласьці" і інтуіцыі мастака (гл. „Маладняк" за 1929 г. №№ 7 і 8). З пункту гледжаньня Кучара сацыяльная функцыя літаратуры заключаецца ў тым, што прызнаючы (на словах, як мы ўпэўнімся ў гэтым ніжэй) пазнавацельную значымасьць літаратуры, ён ігнаруе актыўную яе ролю, часта кваліфікуючы твор пісьменьніка пазбаўленым ідэёвай накіраванасьці, адмаўляючы значэньне ідэалёгіі пісьменьніка ў яго мастацкай творчасьці. Так, прыкладам, першы этап у творчасьці Маракова характарызуецца Кучарам „адсутнасьцю клясавага твару паэты", а ў В. Каваля „няма нават мэтавай устаноўкі ў апавяданьні". В. Каваль аддаецца „плыні жыцьця". Куды яна яго прынясе, на тым апавяданьне і спыніцца". („Маладняк" №№ 7 і 8 за 1929 г.). Наадварот, чым больш пісьменьнік аслабаняецца ад сваёй ідэёвай накіраванасьці, чым непасрэдней яго ўражаньні, пачуцьці, тым большае значэньне надае Кучар яго творчасьці. „Тое, што ён (Маракоў) успрымае чуласьцю паэты („Маракоў-юнак у сваім сьветапоглядзе",—кажа Кучар), не дыс-

цыліруе праз сіта развагі і сталасьці. У ім пануе стыхія. Стыхія гэта надзвычайна моцная, бо паэта ўспрымае жыцьцё шчыра, палка, (такімі надзвычайна ўдалымі выйшлі вершы), але часамі паэта і мішурны сум прымае так палка, як і рачаіснасьць". („Маладняк" 1929 год № 8, старонка 71). Як відаць непасрэднае ўражаньне, а не клясавая ідэалёгія зьяўляецца асновай творчасьці пісьменьніка. Гэта, з дазволу сказаць, „тэорыя" аб перавазе інтуіцыі, бесьсьвядомага пачатку над клясавай самасьвядомасьцю пісьменьніка, ня блішчыць асаблівай навізной і арыгінальнасьцю. Кучар не зьяўляецца яе прабацькам. Яна належыць А. Варонскаму. Кучару-ж толькі належыць заслуга ўваскрошаньня яе на беларускай глебе. Варонскаму гэта рэакцыйна-ідэалістычная філёзофія аб непасрэдных уражаньнях, як аснове творчасьці пісьменьніка, была патрэбна для таго, каб абгрунтаваць у літаратуры тэзіс аб немагчымасьці ў нас будаўніцтва сацыялізму і пралетарскай культуры, каб стварыць тэорыю аб адзіным бясклясавым струмені літаратуры; Кучар, стоячы тут на адных пазыцыях з Варонскім, прыходзіць і да аднолькавых з ім вывадаў. Так, напрыклад, вызначаючы сацыяльную прыроду П. Труса („Маладняк" № 8—9—за 1930 г.), Кучар кажа, што пісьменьнік, прышоўшы ў беларускую літаратуру, як „кабзар", як „чулы лірнік-казачнік", сваім творам „Дзесяты падмурак" адзначыў „рэзкі пералом у беларускай лірыцы—пераход ад вузка-суб'ектыўнай, беспрадметнай, салодка-абывательскай лірыкі да тэм, да рытмікі сацыялістычнага будаўніцтва". І гэта называецца сур'ёзным імкненьнем на тэарытычнае вызначэньне і ўсьведамленьне клясавай прыроды беларускай лірыкі, якая па думцы Кучара да „Дзесятага падмурку" зьяўлялася адзіным струменем „беспрадметнай, салодка-абывательскай лірыкі". Выходзіць, што да „Дзесятага падмурку", беларуская лірыка, будучы „беспрадметнай", заставалася па-за клясавым змаганьнем, ня служыла зброяй у руках пэўных клясаў. Кучар зусім невыпадкова і зусім лёгічна і пасьлядоўна, з пункту гледжаньня ідэалістычна-рэакцыйнай „тэорыі" Варонскага і К-о трацкісцкіх сьпевакоў, гаворыць тут аб адзіным струмені ў беларускай лірыцы, змазваючы клясавую дыфэрэнцыяцыю ў ёй, груба фальсыфікуючы літаратурную рачаіснасьць, „забываючы", што побач з буржуазна-кулацкай, контррэвалюцыйнай лірыкай Дубоўкі, Пушчы і ім падобных існавала яшчэ і пралетарская лірыка М. Чарота, А. Александровіча і інш.

Зусім не выпадкова і тое, што Кучар ні ў адным з сваіх крытычных артыкулаў ні адзіным словам не абмовіўся аб тым, што мера пазнаньня рачаіснасьці заўсёды клясава абумоўлена, што яна розная ня толькі для розных клясаў і сацыяльных груп, але і для розных этапаў іх гістарычнага разьвіцьця.

Выходзячы з мэханістычнага атаесамліваньня літаратуры і рачаіснасьці, мэханістычнага аб'яднаньня аб'екту і суб'екту,

Кучар прышоў да пераверзеўскага ўваспраізьвядзеньня „сацыяльнага характару“, які зьяўляецца часткаю ўсёй рачаіснасьці. Рачаіснасьць у Кучара падмяняецца „сацыяльным характарам“. Падкрэсьліваючы вобразнасьць, як спэцыфіку літаратуры (што зусім правільна і неабходна), Кучар па пераверзеўскі разумее вобраз, які ў яго разуменьні зьяўляецца ня толькі спэцыфікаю літаратуры, а перарастае ў нешта самадаўлеючае, становіцца сутнасьцю літаратуры. Вось чаму ўва ўсіх сваіх артыкулах Кучар перш за ўсё шукае цэнтральнага вобразу, у адносінах да якога ўсе астатнія пэрсанажы выступаюць, як адрозьніваньне гэтага цэнтральнага вобразу, як паасобныя яго бакі. Іншы раз гэты цэнтральны вобраз расшчэплены па Кучару ў другарадных вобразах твору. Так, напрыклад „вобразы Арона, Ігнася, Майзеля, Дуба і Яся, узятыя разам, складаюць як бы адзін зборны вобраз сацыял-дэмакрата бальшавіка ў ідэальным разуменьні яго“. Эвалюцыю яго Кучар пачынае з „самага зародку гэтага вобразу ў Ясі і Дубе“. („Полымя“ кн. 4 за 1930 г.). Такія-ж па сутнасьці ўстаноўкі праводзяцца ім амаль ўва ўсіх сваіх крытычных работах і ў прыватнасьці ў аналізе творчасьці П. Труса, С. Баранавых і К. Чорнага.. Мы не падаем тут шматлікіх падобных прыкладаў, колькасьць якіх можна давесьці мінімальна да ліку крытычных работ Кучара. У выніку такога аналізу, які зводзіцца Кучарам да аналізу вобразу-характару, і атрымалася зьвядзеньне эвалюцыі стыля ў творчасьці таго ці іншага пісьменьніка да мэханістычнага яго разьвіцьця, да колькаснай зьмены вобразаў— іх павялічэньня, паскарэньня і памяншэньня. Так, у творчасьці В. Каваля Кучар вызначае два асноўныя вобразы: „першы тып— здаровай мэтаімклівай Аленкі—Арынкі. Другім, найбольш цікавым з іх—зьяўляецца простая сялянская жанчына, змучаная бедным сялянскім жыцьцём, зьбітая мужыком, прыгнечаная мацярынскай ношай—дробнымі дзяцьмі.“ Пачынаецца ён (вобраз) з Дар'і у „Сяльчанах“, што вышла замуж ня венчаючыся, ды гарue цяпер, ідзе праз Насту, сястру Агееву, з апавяданьня „Ліпы“. („Маладняк“ № 8 за 1929 г.). Гэтае месца цалкам, нават у больш дэталізаванай форме, было перанесена Кучарам у адзін з апошніх сваіх артыкулаў пра творчасьць Каваля. Такім чынам па Кучару выходзіць, што пісьменьнік не выражае ў сыстэме пэрсанажных вобразаў ідэялёгіі пэўнай клясы, а самі вобразы іманэнтна выцякаюць адзін з другога, пісьменьнік-жа цалкам ім падпарадкаваны, варочаецца ў зачараваным коле сваіх вобразаў, з якога яму цяжка і выбрацца. Няма адбітку шматграннай рачаіснасьці пісьменьнікам, няма актыўных яго адносін да яе, ёсьць толькі нейкая пэўная замкнутасьць, абрачоннасьць пісьменьніка ў коле вобразаў сваёй клясы. „Вобраз Лявона Бушмара вырастае ў такі магутны вобраз, што сам аўтар аказаўся падпарадкаваным яму, а ня ён аўтару. Гэтага кулака Чорны задушыць ня змог“. („Маладняк“ № 1 1931 г.).

Кучар не разумее, што вобраз зьяўляецца мастацкім выражэньнем клясавай ідэялёгіі, выражэньнем агульнага ў прыватным. Замест таго, каб ускрыць ідэёвы напрамак твору з клясавага пункту гледжаньня, Кучар выстаўляе вядучымі ў творы вобразы і па пераверзеўскі аддае Кузьму Чорнага на „с'едение" вобразам („Сам аўтар падпарадкаваецца вобразу, а ня ён аўтару"), чым адмаўляе актыўную ролю пісьменьніка ў паказе рачаіснасьці, падпарадкоўвае пісьменьніка панаваньню вобразаў над ім. Больш таго, Кучар нават імкнецца тэарытычна абгрунтаваць гэту датэрмінаванасьць, абмежаванасьць пісьменьніка, які быццам ня можа высьці за межы сваёй клясы, ня можа паказаць другога сацыяльнага асяродзьдзя. Як відаць Кучар у даным выпадку знаходзіцца цалкам у палоне пераверзіянскай канцэпцыі. І таму, напрыклад, Маракова ён лічыў не селянінам і не рабочым (бо бацька Маракова, як тлумачыць Кучар, быў рабочым, а маці—сялянка). Апошняе „адыгрывае выключна важную ролю ў творчасьці паэты" і „прывяло паэту да такога раздарожжа, што ён кідаўся ад гораду да вескі". Або: „здаецца, пусьці яго ў вёску (размова вядзецца аб Кавалю) і ён багата пасьмялее, ён знойдзе там людзей па сабе" („Маладняк" 1929 г. № № 7 і 8). Гэты пункт гледжаньня крытык спрабуе праводзіць і ў адным з пазьнейшых яго артыкулаў аб К. Чорным, калі імкнецца абгрунтаваць і паказаць, што адзічаласьць і замкнутасьць Бушмара (галоўны герой аповесьці К. Чорнага „Лявон Бушмар")—„гэта ёсьць яго клясавая сутнасьць", паказаць, што „сацыяльна-эканамічнае становішча прымушае яго быць ізаляваным ад рэшткі масы сялянства". („Маладняк" 1931 г. № 1).

Творчасьць пісьменьніка Кучарам разглядаецца не ў канкрэтнай практыцы клясавай барацьбы, але абстрактна, ізалявана ад яе. Адсюль наяўнасьць у Кучара сьцьверджаньняў аб тым, што мастацкія вобразы—пэрсанажы ў творы часам зьяўляюцца надклясавымі ці па-за клясавымі, супроцьстаўляюцца нават ім расстаноўцы клясавых сіл. „З усяе аповесьці „Межы", з усіх с к л а д а н ы х у з а е м а а д н о с і н п э р с а н а ж у і к л я с а в ы х с і л (падкрэсьлена намі.—Аўтар)—вынікае асноўная ідэя, што серадняк на вёсцы—асноўныя масы сялянства, нарэшце, сваім асаблівым шляхам пашлі ў бок сацыялізму." („П о л ы м я" 1931 г. кн. 2). Такое Кучараўскае разуменьне пэрсанажных вобразаў у творы ёсьць па сутнасьці абкарнаньне літаратуры, дэідэялёгізацыя яе. Вось чаму Кучар і не вылучае асноўнай ідэі твору (напрыклад, у артыкуле пра Кузьму Чорнага), а калі і гаворыць пра яе, то шуканьне цэнтральнага вобразу засланяе ідэю, якая застаецца ў баку (артыкул пра Баранавых). Адсюль мы маем у Кучара так званую псыхалёгізацыю вобразаў (без іх ідэёвай накіраванасьці), якая няўхільна супадае з непасрэднымі ўражаньнямі. Адсюль і такія безапэляцыйныя заявы Кучара аб тым, што „глыбока-лірычная любоў да жыцьця,—цяга да жыватворчых крыніц радасьці, цяга да сонца" і г. д. і г. д.—асноўнае

ў творчасьці Каваля. („Маладняк“ 1931 г. № 9.) Пры чым, гэтая псыхалёгізацыя выводзіцца ім з фізыялёгічных асноў чалавека. Прыпомнім інтэрпрэтацыю Кучарам сацыяльнай прыроды Каваля, дзе ён (Кучар) гаворыць аб „чорназёмнай сялянскай радасьці“, аб „зялёна-радаснай парадзісе—зямлі“, якая быццам робіць Каваля пісьменьнікам—селянінам, якая зьяўляецца творчай падставай яго сялянскай прыналежнасьці. Тое-ж самае (толькі ў больш завуаляванай форме) праводзіцца ім і ў другім больш пазьнейшым артыкуле пра Каваля, у 1931 годзе. Такім чынам Кучар сьцьвярджае і прапагандуе панаваньне бесьсьвядомага, стыхійнасьці ў літаратуры, з чым увесь час змагалася і змагаецца партыя. „Всякое преклонение перед стихийностью рабочего движения, всякое умаление роли „сознательного элемента“ означает тем самым,—совершенно независимо от того, желает ли этого умаляющий или нет,—усиление влияния буржуазной идеологии на рабочих“ (Ленін „Что делать“) Ігнаруючы ідэялёгію пісьменьніка, сьцьвярджаючы прымат за стыхійнасьцю і падсьвядомым пачаткам, Кучар сваімі крытычнымі „артыкуламі“ і крыклівымі сказамі дапамагае такім чынам уплыву буржуазнай ідэялёгіі на нашу савецкую літаратуру.

Аналіз усіх іншых кампанэнтаў літаратурнага твору Кучар падпарадкоўвае цэнтральнаму вобразу. Аналіз стылістыкі твору зводзіцца ім да пералічэньня паасобных мастацкіх прыёмаў, якімі карыстаецца аўтар. Такі разгляд стылістыкі нічога карыснага не дае ні пісьменьніку, ні крытыку, які лішні раз расьпісваецца ў сваёй бездапаможнасьці ў ролі мэнтара пісьменьнікаў. Тое-ж самае мы маем і пры аналізе ім пэйзажу. Наяўнасьць пэйзажу ў мастацкім творы Кучар тлумачыць фактам непасрэдных узаемаадносін пісьменьніка з прыродаю. Наяўнасьць вясковага пэйзажу ў творах Баранавых і Каваля падкрэсьлівае па Кучару сялянскую прыроду гэтых пісьменьнікаў. Па Кучару атрымоўваецца, што ў пэйзажы падаецца вобраз сацыяльнага характару, а не адносіны пісьменьніка да прыроды, як прадстаўніка пэўнай сацыяльнай групы, якія вызначаюцца яго клясавай практыкай. Пэйзаж у творчасьці пісьменьніка існуе як „отраженная“ праз прызму ідэялёгіі пісьменьніка прырода, як адбітак адносін да яе пісьменьніка, як вобраз прыроды, а не як сама прырода.

Разуменьне крытэрыя мастацкасьці ў Кучара цалкам вынікае з асноў той варожай нам мэтадалёгіі, якую Кучар засвоіў і прапагандаваў у сваіх работах. Ён або зусім не вызначае крытэрыя мастацкасьці, або вызначае яго па Воронскаму. Вось што ён гаворыць: „Каштоўнасьць маракоўскай творчасьці можна вымераць і мы павінны вымераць толькі колькасьцю пачуцьцёва-радасных хваляваньняў, што выклікае яго паэзія ў чытача“ („Маладняк“ № 7 за 1929 г.) У адным з сваіх пазьнейшых артыкулаў ён некалькі раз на працягу аднэй старонкі сьцьвярджае аб разрыве паміж ідэёвай накіраванасьцю твору і яго

мастацкай вартасьцю, або, згодна яго тэрміналёгіі, паміж „ідэялёгічным сэнсам“ і „мастацкай праўдзівасьцю“, паміж „ідэялёгічнымі адносінамі і мастацкімі“ („Маладняк“ 1931 г. № 1) Праблема мастацкасьці падмяняецца Кучарам часамі прыгожасьцю мовы. „Характарная прастата“, „мэлёдычнасьць вершаў“ „надзвычайная эмацыянальнасьць“—вось што, па думцы Кучара, характарызуе пэўны этап творчасьці Маракова. Такім чынам Кучар фактычна адмаўляе аб‘ектыўны крытэрый мастацкасьці і падмяняе яго суб‘ектыўна-ідэалістычным. У нашым разуменьні—мастацкасьць твору вызначаецца перш за ўсё тым, наколькі правільна адбіваюцца ў ім існыя бакі рачаіснасьці.

У сваіх апошніх артыкулах Кучар таксама ставіць пытаньне і аб праблеме творчага мэтаду (што вельмі важна), але вырашэньне ім гэтай праблемы ў корані разыходзіцца з правільным разуменьнем творчага мэтаду. Кучар не разглядае творчы мэтад пісьменьніка ў залежнасьці ад ягонага сьветапогляду, а разрывае іх. Гаворачы аб творчым мэтадзе, ён не гаворыць аб клясавай прыродзе творчасьці пісьменьніка і наадварот (гл. яго артыкулы пра Баранавых і Чорнага). Атрымоўваецца, што творчы мэтад—сам па сабе, а клясавая ідэялёгія пісьменьніка—сама па сабе. І таму, гаворачы аб клясавай прыродзе творчасьці П. Труса і не гаворачы аб яго сьветапоглядзе і не біручы гэты сьветапогляд за аснову (аналізуючы творчасьць П. Труса і адзначаючы яго пераход на рэйкі пралетарскай літаратуры, Кучар не падкрэсьлівае ролю ў гэтым сьветапогляду), Кучар становіцца на пераверзеўскія пазыцыі. З другога боку, гаворачы аб мэтадзе і не гаворачы аб вызначэньні яго сьветапоглядам, ён прыходзіць да голага абстрактнага мэтадалёгізаваньня. Тут ён імкнецца для большага аўтарытэту скарыстаць Плеханава, але ўсвайвае якраз меншавіцкія ўстаноўкі плеханаўскай мэтадалёгіі (артыкул аб К. Чорным „Маладняк“ № 1, 1931 г.) „Конкретный анализ положения и интересов различных классов должен служить для определения точного значения этой истины в ее применении к тому или иному вопросу. Обратный же способ рассуждения, не редко встречающийся у социал-демократов правого крыла с Плехановым во главе их, т. е. стремление искать ответов на конкретные вопросы в простом логическом развитии общей истины... есть апошление марксизма и сплошная насмешка над диалектическим материализмом“ (Ленін).

Падзяляючы погляды Варонскага і Пераверзева, скарыстоўваючы меншавіцкія бакі мэтадалёгіі Плеханава, Кучар, натуральна, ня мог не пазбавіцца ўплыву спадчыны буржуазнага аб‘ектывізму. Ён ня толькі цярпліва адносіцца да так званай апалітычнасьці некаторых пісьменьнікаў (якая зьяўляецца заўсёды пэўнай формай палітыкі), але не крытыкуе нават у вытворчасьці пісьменьніка тых ці іншых грубых палітычных памылак. Сапраўды, як ускрывае Кучар, што асноўныя масы сялянства ў „Межах“

Сымона Баранавых ідуць у калгас сваім асаблівым шляхам, ідуць таму, што ідуць заможнікі „устойлівыя гаспадары“, што з пункту гледжаньня пісьменьніка не выцякае неабходнасьць ліквідацыі кулацтва, як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі, што калектывізацыя не падрыхтавана ўсёй папярэдняй палітыкай партыі і рабочай клясы, што кіруючая роля ў арганізацыі калгасаў належыць не партыі і рабочай клясе, а асноўнай масе сялянства?—Ніяк ня ўскрывае, а ня ўскрываючы гэтых грубых палітычных памылак у творчасьці С. Баранавых, Кучар робіць мядзьвежжую паслугу савецкаму пісьменьніку, не дапамагае яму, шляхам прынцыповай таварыскай крытыкі, пазбавіцца гэтых памылак у будучым.

Мы паказалі толькі на асноўныя шкодныя ўстаноўкі ў крытычнай практыцы Кучара, якія гэтым далёка ня вычэрпваюцца, але і сказанага дастаткова, каб упэўніцца ў неабходнасьці правядзеньня самай рашучай барацьбы з такімі ўстаноўкамі ў літаратурнай крытыцы[1]).

Адначасова з узмацненьнем барацьбы з вялікадзяржаўным шавінізмам—галоўнай небясьпекай на даным этапе, контррэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызмам і іншымі шавінізмамі, аднэй з асноўных задач нашай крытыкі зьяўляецца выкрыцьцё і выкарчоўваньне варожых нам тэорый і тэорыяк—пераверзеўшчыны, вароншчыны, ідэялізацыі Плеханава, як бязумоўнага марксысцкага аўтарытэта ў крытыцы і літаразнаўстве, якія яшчэ да канца не пазбыты на Беларусі.

Упартае супраціўленьне класава-варожых элемэнтаў пераможнаму наступу сацыялізму, абвастрэньне клясавай барацьбы ў пэўныя моманты і на пэўных вучастках, якое будзе адбывацца яшчэ і ў другой пяцігодцы, будзе ажыўляць і ў літаратуры варожыя тэорыі ў розных формах іх праяўленьня. Гэтыя тэорыі, зразумела, не зьяўляюцца для нас дыскусыйнымі, яны разгромлены, пад кіраўніцтвам партыі, пралетарскім літаратурным рухам у жорсткай барацьбе. Не дыскусаваць з носьбітамі і збраяносцамі варожых тэорый, а выкрываць іх—вось задача нашай крытыкі; выкрываць з мэтай падняцьця творчай дыскусіі на вышэйшую ступень, з мэтай найбольш дзейнай дапамогі пісьменьнікам, „якія падтрымліваюць пляцформу савецкай улады і імкнуцца ўдзельнічаць у сацыялістычным будаўніцтве“.

З паст. ЦК УсеКП(б).

---

[1]) Выказваньні Кучара па пытаньнях гісторыі Беларусі, у якіх ім дапушчана не менш скрыўленьняў і палітычных памылак, патрабуюць спэцыяльнага разбору.
Аўтары.

*Х. ДУНЕЦ*

# НОВЫ ЭТАП У ТВОРЧАСЬЦІ І. ХАРЫКА

Паэма «У канвэеры дзён» узьнімае на новую вышыню творчасьць Харыка.

Шлях Харыка наступны: ад агульна-ўзьнеслых песень, якія прысьвечаны пралетарскай рэвалюцыі (самыя першыя вершы), да ўяўленьня канкрэтных рэвалюцыйных працэсаў.

Першы этап, які не пазбаўлены хістаньняў, гэта заклік радкоў «Зьнікні мястэчка», дэзарыентаваныя, скудлачаныя думкі з «Катарынкі» да паэмы «Менскія балоты», да вершаў аб «Яўрэях на зямлі», да паэмы «Хлеб». «Хлеб»—гэта паварот да новага этапу, калі Харык набліжаецца ўжо да мастацкага ўсьведамленьня працэсаў рэвалюцыі. Але Кастрычнікавая рэвалюцыя яшчэ ня ўскрыта ім усебакова. У паэме «Хлеб» малюецца, як рэвалюцыя вызваляе ня так працоўнага яўрэя, як яўрэя, які пацярпеў ад капіталізму.

Паэма Харыка малюе мястэчка ў эпоху аднаўленьня ў нашай краіне.—«Душой і целам»—выяўляе яго далейшы творчы рост.

У гэтай паэме ён абвяргае тэзіс «Мястэчка зьнікні». Гэта паэма перамагае таксама абмежаванасьць паэмы «Хлеб»—погляд на перасяленьне, як на адзіны шлях вызваленьня яўрэйскіх працоўных мас. «Душой і целам» сьцьвярджае ўжо некаторым чынам права на існаваньне мястэчка ва ўмовах сацыялістычнага будаўніцтва. Сум у гэтай паэме прыходзіць ад адставаньня мястэчка, ад беспрацоўя і кансэрватызму. Сьветлыя настроі прыходзяць ад пэрспэктыў сацыялістычнай перабудовы мястэчка.

Гэтым падрыхтаваны новы вышэйшы этап—паэма «У канвэеры дзён». Харык паглыбіў тут сваю мастацкую ідэю, ён канкрэтныя нацыянальныя сітуацыі ўбачыў у сувязі і ў адпаведнай залежнасьці ад агульных гістарычных працэсаў у нашай краіне і на міжнароднай арэне. Ён убачыў яўрэйскіх працоўных і пралетараў у адным інтэрнацыянальным фронце СССР і, зноў яўрэйскіх Гомбінараў і шкоднікаў—у іхняй змычцы з «неяўрэйскім» клясавым ворагам, ён правільна ўбачыў карэньні ленінскае нацыянальнае палітыкі і апошняя стала ў яго функцыяй усяе сацыялістычнай рэканструкцыйнай працы ў нашай краіне.

І на папярэдніх этапах Харык адлюстроўваў нацыянальную палітыку нашае партыі. Але «У канвэеры дзён» гэта паказана з вычарпальнай яскравасьцю. «У канвэеры дзён»—гэта твор аб рэканструкцыі дадзены на нацыянальным матар'яле.

У пралетарскага паэты, які павінен быў змагацца з моцнай нацыяналістычнай плыньню дакастрычніцкай літаратуры, трэба шукаць недахопаў па лініі нацыянальнай і наглядаць яго рост паводле супраціўленьня, якое ён выказвае па гэтай лініі. «Сацыяльную натуру» Харыка трэба вывучаць апрача іншага і ў гэтым кірунку. Калі зробім гэта, дык убачым, што замест

зрываў у паасобных мясцох папярэдніх твораў Харыка, у «Канвэеры дзён» узьніклі новыя яскравыя штрыхі, якія паказваюць інтэрнацыянальныя асновы нацыянальнага вызваленьня.

Усім сказаным высьвятляецца і заканамернасьць таго, што Харык мабілізуе вялікі нацыянальна-гістарычны матар'ял «У канвэеры дзён», што ён значна павярачваецца да «мінуўшчыны». Некаторыя хочуць убачыць у гэтым уплыў «нацыянальнае спадчыны» на паэту. Але гэта няправільна. Як раз наадварот. Гэта паказ таго, што Харык атрымаў зараз столькі ідэйна-мастацкіх рэсурсаў, што ён намерваецца і дае з вялікім посьпехам бой нацыяналізму «учарашняму» (які жыве і «сёньня»), ён робіць вылазку ў спадчыну і там зьнішчае рамантыку Шлеймы-Ногідаў—багацеяў.

Харык «У канвэеры дзён» «ідзе ў мінулае» з бальшавіцкай устаноўкай, зрабіць гэтае «мінулае» зброяй сучаснасьці.

Пры гэтым трэба падкрэсьліць, што зварачваньне да ўчора, як і ўсё ў гэтай кнізе, ёсьць аснова галоўнага заданьня Харыка—паказаць канкрэтныя клясавыя баі, у якіх перамагае пралетарыят.

Сіла ўплыву паэмы «У канвэеры дзён» тлумачыцца ў першую чаргу тым, што пры дапамозе моцных, сапраўды мастацкіх сродкаў і вялікай фактычнай аргумэнтацыі, у гэтым творы ўскрыта рэвалюцыйна-фармуючая, аднаўляючая, вялізарная сіла сацыялістычнай рэканструкцыі. Тут ускрываецца драматызм актуальных, рашучых сацыяльных баёў. Пэратварэньне «моху» і балот у базу апалу для электрыфікацыі БССР узьнімаецца паэмай «У канвэеры дзён» да сьветлага сымбаля сацыялістычнага пэратварэньня эканомікі нашае краіны, пэрафармiраваньне чалавечнага матар'ялу, выкарчоўваньне кулака і паразыта, на месца Хезкеля Гомбінара прыходзіць новая перамагаючая і творчая кляса—рэвалюцыйны пралетарыят. прыходзяць «гарбары, муляры, матарыстыя, трактарыстыя і суворыя мэталістыя».

Поступ наперад у культуры і ў грамадзкіх адносінах, Харык бачыць не як інтэлігентны «чалавекалюбец», але як змагар за перамогу рабочае клясы.

Таму і пакладзены такі востры клясавы сьлед на адносінах Харыка да людзей: вялікая любоў да рабочых, камуністых, камсамольцаў: нянавісьць, сарказм, насьмешка—да Гомбінараў, равінаў, папоў ды шкоднікаў.

Шукаючы ўзьняцьця чалавека, Харык яго знаходзіць у бараку тарпянікаў, ён узрывае патрыярхальную, панска-фэодальна-клерыкальную рамантыку і пацьвярджае, выводзіць рэальную рамантыку сучаснага пралетарскага рэвалюцыйнага пакаленьня, ён кампрамэтуе нацыяналістычны «ідэал» і ставіць замест гэтага—сілу пралетарскага нацыянальнага братаньня.

Экзальтыраваны перад вялізарнай культурнай творчасьцю, якая адбываецца ў нашай краіне, Харык адкідае «культуру для культуры», пазыцыю культур-трэгерскіх інтэлігентаў—буржуазная пазыцыя па сваёй сутнасьці—і паказвае клясавыя стымулы нашай сацыялістычнай культуры. Сваймy арнамэнтнаму, музыкальнаўзьнятаму, пачатковаму і заключнаму разьдзелам паэмы «У канвэеры дзён» Харык законна ахвяраваў вышэйшыя формы рэвалюцыйнай культуры, якія створаны ў нашай краіне паводле геніяльнай ідэі Леніна: уверцюра «Дзён» ускрывае творчую сілу сацыялістычнага спаборніцтва, заключны разьдзел зноў дае вынік творчага энтузыязму—пабудаваны Сталінстан. Так Харык паказвае рэвалюцыйную творчасьць «замурзанага, нямога плебея».

Што выяўляе сабой «У канвэеры дзён» па сваёй мастацкай форме? Паэму? Сэрыю паэм? Сімбіоз сатыры і оды? Злучэньне эпітафіі і ўрачыстай сымфоніі? Усе гэтыя формы маюцца «У канвэеры дзён» і ніводная не выпадае з пляну, усе яны падыходзяць да паэтычнае кампазыцыі твору. Сатыра мае сваю бічуючую мэту, ода ўзьнімае хвалебны сьпеў да сацыялізму, эпітафія з сарказмам ад-

значае зьнішчэньне старых клясаў, а ўсё разам—гэта адна вялікая па сваёй часу набліжэньня да бясклясавай грамады. Харык асыміліраваў пераліčаныя формы і праз іх стварыў твор пра сацыялізм, які багаты гукамі і фарбаю, плястычнай і малярскай яснасьцю і выразам, які грунтуецца на максымальнай канкрэтнасьці, ідэйнай дужасьці, гістарычнай сакаўнасьці і актуальнай вартасьці, сацыяльным тэмпэрамэнце і пралетарскім націску.

Мы маем мастацкі багата інструмэнтаваны твор сацыялістычнае рэканструкцыі і вырашэньне нацыянальнага пытаньня на гэтай глебе!

У паэме «У канвээры дзён» перапляліся магутнейшыя мастацкія сродкі з высокім рэвалюцыйным уздымам. Сіла Харыка паднялася і вырасла ў фарбнасьці, музычнасьці, яскравасьці, важнасьці, эмацыянальнай лірычнасьці, сацыяльнай клясавай насычанасьці і ідэйнай сьвядомасьці. Яна паднялася і паглыбілася, пашырыўся яе дыяпазон, вастрэй стаў яе матыў і аргумэнт, яскравей стала яе ўнутраная ідэйная гармонія.

Верхарнаўскай фізыялёгічна-рэалістычнай яскравасьцю поўніцца песьня Харыка «Залатое пахаваньне» (малюнак дабрабыту Хезкеля Гомбінэра), пры гэтым паэтычны малюнак прасякнуты клясавым прысудам, нянавісьцю да ворага і любоўю да пралетарыяту. Малюнак насычаны сацыяльным значэньнем, ён апалюе да грамадзкай зацікаўленасьці, у ім бурліць кіпучая кроў.

«У канвээры дзён»—скандэнсаваны скарб пралетарскай радасьці, радасьці, якая вырастае ў змаганьні з кулаком, у перамогі над вялікімі цяжкасьцямі ў вялікай барацьбе сацыялістычна-арганізаванага пралетарыяту з дзікім «торпам і мохам» Беларусі.

Жыцьцё, праца, партыйнае змаганьне, клясавыя праслойкі (рабочыя, сяляне, кулакі, клерыкалы, шкоднікі), пералом у быце--усё гэта даецца ў моцных малюнках з вялікай навізной, з вялікай кольказасьцю драматычных эпюдаў, мініацюрных сюжэтаў, апавядальных эпізодаў, усё--мэтава-завострана, прасякнутае імкненьнем камуніста--паэта даць мастацкую формулу сучасных баёў за сацыялізм.

Харык дае «У канвээры дзён» шэраг асоб. Яны скупа намаляваны, яны толькі асьветлены з унутры. Такая зарысоўка зьяўляецца асаблівасьцю Харыка. Занатованы толькі ідэйна-эмацыянальныя профілі дадатнага тыпажу--Піня, Мікола і інш. Але пры гэтай эскізнасьці ўсё-ж атрымоўваецца сацыяльны профіль.

Пры зарысоўках тыпажу, Харык у лірычных адступленьнях паказвае дыялектычны шлях сваіх герояў у папярэдніх творах: Піня, затым настаўніца з паэмы «Душой і целам». Яго пэрсанажы працоўных, якія да гэтага часу былі саюзьнікамі рэвалюцыі, становяцца ўжо непасрэднымі суб'ектамі сацбудаўніцтва. Камуніст і пралетары становяцца героямі Харыка.

Харыку ўдалося паказаць вялікія сацыялістычныя пэрспэктывы краіны: на матар'яле звычайнага быту ўскрыць вялікія пэрспэктывы, на малюнку «празаічных» «пухкіх масываў» і «крохкіх купчастых качаноў капусты». Тое трандыёзнае, што ляжыць схованым у нашай творчасьці, наблізілася да нас праз такі мэтад паказу «дробязяў» нашага жыцьця.

Падагульняючы тэзіс аб мастацкіх сродках «У канвээры дзён», трэба падкрэсьліць, што галоўным элемэнтам у гэтай кнізе зьяўляецца--музычнасьць і вобразнасьць. Для вока і вуха Харык стварыў «У канвээры дзён» шмат эстэтычнага, у паасобных мясцох адчуваецца перагрузка гучнасьці і малярскай дэталі («Другая вахта», «Факстрот»). Новы народны сьпеў, арганічна створаны ў баёх за прамфінплян, яму ўдалося ўкласьці ў калярытныя і мілагучна-звонкія радкі («Гэй татуля, гэй мамуля»).

Шматплянавасьць паэмы «У канвээры дзён» і вялікая ідэя ў паэме прывяла да вялікага агульнага палатна, у якім ня ўсе часткі аднолькава каштоўныя. У некаторых ё іх маюцца недахопы. Не дахопы выяўляюцца галоўным чынам у малюнках канкрэтных сы-

туацый клясавых сутычак. Кідаецца ў вочы, што сілу натуральных багацьцяў і моц людзкой фізычкай працы Харык паказаў з вялікай вычарпальнасьцю, але пры гэтым мала даў, скупа разгарнуў паказ зьяў клясавага змаганьня. Так, напрыклад, змаганьне з кулаком на тарпяных палёх, якое выяўляецца ў справе кулака Карнейчыка, не паказана як націск нашай клясы, сьмерць Карнейчыка дадзена выпадкова (ён гіне пры перарэзваньні электрычнага дроту).

Новы рабочы на тарпяным полі прыцягнуў увагу Харыка, але Галеевы і Піні--авангард—недастаткова адлюстраваны ў іх партыйнай практыцы, як працаўнікі і правадыры парткалектыву. Харык дае агульную масу і адначасна паасобных камуністаў, але прапоўная маса ў яе дыфэрэнцыяванасьці яшчэ не паказана з тэй сілай, якую мы хочам бачыць у Харыка.

Мала выяўлена кіруючая роля партыі ва ўсім сацыялістычным будаўніцтве. Менавіта на тарпяных палёх, учора яшчэ пустых, а сёньня напоўненых людзьмі і тэхнікай, магла быць яскрава паказана кіруючая роля партыі.

Надзвычайна добра паказаўшы ў сатырычных радкох усю сутнасьць нацдэмакратаў—яўрэяў і неяўрэяў, шкоднікаў і клерыкалаў, з меткімі палітычнымі характарыстыкамі, Харык дае іх зьбянтэжанасьць, бязсьць органаў ДПУ, ён паказвае іх «tojtn schalesudes» («Перадсьмяротныя сударагі»). Але поруч з гэтым трэба было-б больш яскрава паказаць сучаснасьць, у якой «Рамзіны—Азэфы» яшчэ сапраўды ходзяць «кашачымі крокамі», шкодзяць сацбудаўніцтву.

*

Паэма «У канвээры дзён» зьяўляецца яскравым прыкладам росту савецкай літаратуры, якая пад кіраўніцтвам партыі пранітоўваецца партыйнасьцю, пралетарскай клясавай актыўнасьцю, абагачае сваю тэматыку, авалодвае ўсё большай мастацкай тэхнікай, усё больш уключаецца ў непасрэдную барацьбу за сацыялізм. Новы твор Харыка—гэта адказ на запатрабаваньне партыі паказаць уздым краіны і яе герояў.

Паэма «У канвээры дзён» мастацкімі сродкамі паказвае посьпехі ажыцьцяўленьня ленінскай нацпалітыкі і зьяўляецца ўдарам па яўрэйскаму нацыяналізму, з якім партыя заўсёды вядзе скрышальную барацьбу.

# СЫГНАЛЫ НЯ ЎЛІЧАНЫ

Неаднаразовымі пастановамі і дырэктывамі кіруючых партыйных органаў было паказана на неабходнасьць вельмі дбайных адносін да выданьня твораў клясыкаў марксызму-ленінізму.

На інстытут гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б быў ускладзены кантроль над выданьнямі твораў Маркса, Энгельса, Леніна і Сталіна ў БССР.

Сакавіцкі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б у рэзалюцыі аб культурным будаўніцтве запісаў аб гэтым спэцыяльны пункт.

Буйнейшыя памылкі, якія былі дапушчаны пры перакладзе на беларускую мову працы Сталіна «Пытаньні ленінізма», павінны былі сыгналізаваць аб небясьпецы на гэтым важнейшым вучастку выдавецкай работы.

Але дырэктывы кіруючых партыйных органаў і сыгналы ня былі ўлічаны.

Перад намі **выдадзеная ДВБ у 1932 г. асобнай кніжкай прамова Леніна** на 3-м зьезьдзе РКСМ (літпраўка кніжкі **М. Нікалаевіча, карэктура Т. Бандарчык).** У гэтай маленькай кніжачцы на 34 старонках невялікага фармату безьліч памылак.

Уся кніжка перасыпана русіцызмамі, якія абсалютна нічым не апраўданы, якія лёгка можна было замяніць адпаведнымі беларускімі словамі і якія сьведчаць аб злачыннай неахайнасьці перакладчыка і літпраўшчыка:

**«ліцамерна, прадаўжэньне, устараніць** (устранить), **абвучэньне, накоплена, пасьледзтва, падвергнуў, прадрассудкамі, хламам, адрыцаньні, памесьця, нужды, адзінадушна, абрушваліся, іспыталі, падаўленым і перабарщчоным, паважаньне** і г. д.».

Большасьць сказаў пабудавана граматычна няправільна і надаюць тэксту нязграбны, цяжкі да чытаньня выгляд:

«Аказаліся-б ня ўмеючымі»... «зьяўляецца выскачыўшай невядома адкуль...» «такое верхаглядзтва было-б рашучым чынам згубна»...

Шмат сказаў, дзякуючы няўдаламу ўжываньню слоў, мае недакладны, а часам няправільны і проціглы сэнс:... «калі чалавек будзе гаварыць, што ён камуніст і што яму і ведаць нічога ня трэба трывалага»... (у рускім тэксьце— «прочного» М. М.) «Гэта значыць, што мы павінны яе (старую школу М. М.) убраць»... Слова «убраць», хай будзе вядома перакладчыку і літпраўшчыку, азначае па-беларуску «украсить», але ні ў якім разе не «убрать», «устранить».

І падобных «казусаў» можна налічыць па некалькі на кожнай старонцы.

Варта паказаць таксама на мэханічнае непрадуманае пераняценьне ў беларускі пераклад рускай фразэалёгіі, што надае тэксту характар нейкага штучнага жар-

тону: «зол і бядот», «скрозь і ўсюды», «роўна нічога ня варта», «аказвае помач» і г. д.

Хіба ня можна было, крыху падумаўшы, падабраць для гэтых выпадкаў адпаведныя—простыя і зразумелыя беларускія звароты. Такі злачынна-нядбайны пераклад зьяўляецца вынікам гнілога лібэралізму з боку таварышоў, якія адказваюць перад партыяй за гэтую працу.

І бязумоўна вінаватыя ў такіх адносінах да перакладу і выданьня ленінскіх твораў павінны быць прыцягнуты да адказнасьці.

Мы павінны забясьпечыць бальшавіцкімі кадрамі выданьне твораў Леніна, каб шырокія колы працоўных БССР маглі на роднай мове вучыцца камунізму па Леніну, аўладаць усім багацьцем Ленінскай спадчыны.

**М. Модэль.**

**«УДАРНІКІ». 2-гі зборнік. Менск 1932 г., стар. 150. Цана 1 р. 20 к.**

Заклік рабочых ударнікаў у літаратуру мае вялізарнае значэньне для разьвіцьця пралетарскай мастацкай творчасьці: значна пашырыліся кадры пралетарскіх пісьменьнікаў, беларуская літаратура ўзбагацілася новай тэматыкай.

У першым зборніку творчасьці рабочых ударнікаў пры пэўных вартасьцях яго былі і значныя хібы: схэматыка, якая ў паасобных творах даходзіла да сваяадменнай «абязьлічкі» у паказе пэрсанажаў, эмпірычны падыход да рачаіснасьці і адсюль вузкая цэхаўшчына, панаваньне голай публіцыстыкі, недастаткова ператоранай у мастацкія вобразы, падкрэсьленая плякатная лёзунговасьць у паэзіі—усё гэта сьведчыла аб пэўнай вузкасьці сьветапогляду, аб недастатковым авалоданьні мэтадам сацыялістычнага рэалізму.

Вялізарныя посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва, гістарычная пастанова ЦК УсеКП(б) аб перабудове літаратурных арганізацый адчыняюць перад усёй беларускай літаратурай і ў тым ліку і перад творчасьцю рабочых ударнікаў шырачэзныя пэрспэктывы далейшага росту і пасьпяховага разьвіцьця.

Другі зборнік творчасьці ўдарнікаў сапраўды і сьведчыць аб бясспрэчным узьняцьці рабочых аўтараў на больш высокую ступень сьветапогляду і яго мастацкага выяўленьня, імі зроблены значны крок наперад у напрамку перамаганьня хібаў першага зборніку і больш сьціслага набліжэньня да пазыцый сацыялістычнага рэалізму.

У даным зборніку пераважна выступаюць ужо вядомыя па ранейшай творчасьці аўтары: **Шэйдэль, Бацюшкоў, Шаўцоў, Малашэнка, Нортман, Камянецкі.** Але маюцца тут і два новыя прозьвішчы: **А. Розна і С. Гурвіч.**

Тэматыка зборніка пераважна фабрычна-заводзкая: пасьпяховае ажыцьцяўленьне пяцігодкі ў галіне індустрыялізацыі, барацьба за выкананьне промфінпляну, за ліквідацыю прарываў, сацыялістычныя мэтады працы—паказ усяго гэтага становіць галоўныя тэматычныя лініі зборніка. Досыць яскрава прадстаўлена камсамольская тэматыка, дадзены разгорнуты паказ ролі камсамолу ў барацьбе і будаўніцтве.

Амаль усе творы даюць нам адлюстраваньне фабрычна-заводзкага жыцьця, актыўнае ўспрыяцьце рачаіснасьці. У адрозьніваньне ад першага зборніка менш месца адводзіцца голай публіцыстыцы; у большасьці выпадкаў мы маем тут пераважна **вобразнае** адлюстраваньне рачаіснасьці, вобразнае мышленьне аб ёй. Асноўны дамінуючы вобраз, досыць шырока разгорнуты ў большасьці твораў зборніка, гэта вобраз новага чалавека нашых дзён, героя пяцігодкі, энтузыяста сацыялістычнага будаўніцтва. Гэты вобраз падаецца ў

кляне эмацыяльнага захапленьня, большасьць твораў прасякнута ўздымным патосам сацыялістычнага будаўніцтва.

Адзін з істотных недахопаў некаторых твораў зборніка становіць сабой недастаткова глыбокае асэнсоўваньне працэсаў рачаіснасьці: тут мае яшчэ месца простае «от' изображательство» праяваў рачаіснасьці, фіксацыя іх з некаторым ухілам у бок вузкай фактаграфіі. Адсюль вынікае абмежаванасьць праблематыкі, не асабліва яскравае разгортваньне яе ў творах. Параўнальна большай завостранасьцю і шырынёй праблематыкі вылучна адзначаюцца тры апавяданьні: Швэйдэля «Расьце чалавек», Шаўцова «Змагары», і Малашэнкі «На ўхабе». Твор Швэйдэля, як паказвае самая назва твору, ставіць праблему росту новага чалавека; гэта праблема канкрэтызуецца шляхам дынамічнага паказа вобраза камсамольца, рост якога пададзены неадрыўна ад яго рэвалюцыйнай практыкі, неадрыўна ад калектыву; у творы разгорнута дыялектыка агульнага і адзінкавага. Апавяданьні Шаўцова і Малашэнкі прысьвечаны разьвязваньню праблемы суадносін у псыхіцы новага чалавека, грамадзкага і асабовага, калектыўнага і індывідуальнага. У постаці ўдарніка Пагоцкага Шаўцоў паказвае поўнае падпарадкаваньне асабовага момантта грамадзкаму; Малашэнка, наадварот, рысуе нам «хваробы» росту новага чалавека: камсамолец Аркадзь падпадае пад уплыў мяшчанскага асяродзьдзя, але потым вызваляецца ад яго, дзякуючы дапамозе камсамольскіх і грамадзкіх арганізацый. Усе зазначаныя апавяданьні даюць вобразы, далёкія ад схэматыкі, ад пэўнага штампу; у гэтых вобразах мы маем досыць мастацкае адлюстраваньне рачаіснасьці.

Па сутнасьці—тая-ж праблема росту новага чалавека ставіцца і ў творы Камянецкага «Шлях да перамогі», дзе паказана перавыхаваньне бяспрытульнага, але да гэтага паказу аўтар падыходзіць эмпірычна, не раскрываючы нам сацыяльнай абумоўленасьці працэсаў перавыхаваньня.

Істотнай хібай некаторых вершаў зборніка зьяўляецца рытарычная, хадульная патэтыка і голая лёзунговасьць, не ператвораная ў мастацкія вобразы.

Але, ня гледзячы на пэўныя недахопы, зборнік сьведчыць аб тым, што творчасьць рабочых ударнікаў пасоўваецца наперад і здабывае ўсё вялікшыя і вялікшыя дасягненьні.

Праф. **Піотуховіч.**

## «БЕЛАРУСЬ САВЕЦКАЯ»—101 стар., 6 тысяч экз.

Асаблівая вартасьць гэтага альбому ў тым, што гістарычнымі фото-дакумантамі пераканальна, яскрава паказаны сацыялістычны рост нашае краіны.

Азнаямляючыся з матар'ялам альбому, мы адчуваем рух непераможнага поступу БССР па шляху аваладваньня вяршынямі сацыялізму.

Дзе былі авеяныя ветрам адвечныя пустыры—выраслі Сталінетаны індустрыі, дзе вялізнымі прасторамі ляжала балота—вабіць бязьмежнае поле стройных жытнёвых каласоў. Выраслі гордыя палацы культуры, навукі, новага быту.

За невялікія 12 год будаваньня, на руінах пакінутых нам імпэрыялістычнай вайною, нямецкай і белапольскай акупацыямі, былая няпісьменная Беларусь дасягнула вялізных посьпехаў—становячыся аднэй з перадавых краін Саюзу ССР.

Перагортваючы старонкі альбому—перад намі вырысоўваецца новы горды і мужны твар БССР. Выданьне гэтага альбому трэба горача вітаць.

Аднак пры складаньні альбому дапушчана было рад сур'ёзных памылак.

Падбор фото ў значнай меры аднастайны і аднастайным трэба прызнаць мантаж. Калі спачатку альбом глядзіцца з вялікай цікаўнасьцю, дык ужо з другой паловы гэтая вострая зацікаўленасьць, дзякуючы аднастайнасьці, застыгласьці—прытупляецца.

Няма сыстэмы ў падачы фото. Матар'ял тэматычна раскіданы. Ня менш істотным недахопам зьяўляецца і тое, што надпісы-тлумачэньні пададзены толькі на беларускай мове. Гэты альбом павінен быў быць даступным кожнаму таварышу любой нацыянальнасьці СССР і Захаду. А тэкст пададзены толькі на беларускай мове пазбаўляе магчымасьці шырокага распаўсюджваньня альбому.

Аднэй з галоўных памылак укладальніка альбому зьяўляецца факт абязьлічкі. Жывую справу робяць жывыя людзі. Вось гэтых жывых людзей, герояў сацыялістычнага будаўніцтва, герояў барацьбы за Савецкую Беларусь, ударнікаў фабрык і палёў, навукі, літаратуры і мастацтва—у альбоме няма.

У альбоме зьмешчаны фото-дакуманты пачатку сацыялістычнага будаўніцтва.

Мы спадзяемся, што ў другім выпуску альбома, які будзе адлюстроўваць далейшы ход будаўніцтва сацыялізму,—будуць улічаны нашы заўвагі адносна асноўных недахопаў першага выпуску.

Палітычная неабходнасьць у выданьні альбому—бязумоўна вялікая. Трэба толькі пажадаць, каб з выданьнем наступнага выпуску альбома не марудзіў апарат ДВБ.

**І. Маладовіч.**

**Пралеска Язэп. «Паноў трэба зьнішчаць гуртам». (Зборнік апавяданьняў з жыцьця Заходняй Беларусі, з прадмовай Сталевіча. ДВБ, 1932 год, 111 старонак. Цана 1 р. 35 кап. тыраж 3.000 экз.).**

Мы маем мала добрых кніжак, апавяданьняў, вершаў, якія-б адбівалі праўдзіва сучаснае жыцьцё рабочых і сялян акупаванай Заходняй Беларусі, а таму, кожнае слова аб Заходняй Беларусі сустракаецца з цікаўнасьцю і ўвагай.

Зборнік **Язэпа Пралескі**, пад назвай **«Паноў трэба зьнішчаць гуртам»**, гэта першы зборнік пісьменьніка, аб якім тав. **Сталевіч** у прадмове піша: «Аўтар гэтых апавяданьняў сам перажыў пры нёт польскай фашысцкай акупацыі, стаяў у перадавой лініі агня рэвалюцыйнай барацьбы рабочых і сялян, таму яго абразкі так насычаны заходня-беларускай сапраўднасьцю, так яскрава адбіваюць вастрату і зацятасьць клясавай рэвалюцыйнай барацьбы. лясных і сельскагаспадарчых рабочых».

Зборнік зьмяшчае два апавяданьні **«На расьцяробе»** і **«Парабкі»** і газэтны нарыс, вярней артыкул **«Ліцытацыя нагі інваліда»**.

Апавяданьне «На расьцяробе» адбівае гаротнае жыцьцё рабочых-дравасекаў, якія ідуць да пана на заработкі за мізэрную плату, каб не памерці з голаду ў сваёй хаце. Падаецца бязьлітасная эксплёатацыя гэтых дравасекаў з боку паноў-гаспадароў кулакоў, пачынаючы ад шафара і канчаючы кулакамі і лясьнікамі.

На расьцяробе працуюць і гарадзкія рабочыя. Супольнасьць лёсу гарадзкіх і с.-г. рабочых на працы зьнітоўвае іх для сумеснай барацьбы з эксплёататарамі. У апавяданьні выведзены рабочыя, якія «пэўне і бульбы ніколі ў волю не зьядуць». Гарадзкія рабочыя сваёй сьвядомасьцю і клясавай нянавісьцю да паноў уплываюць на сялян і апошнія становяцца на шлях клясавай барацьбы з капіталістычнай сыстэмай. Ад пасыўнасьці і пакоры, ад прыбітасьці і загнанасьці

пераходзяць да арганізаванай барацьбы пад сьцягам КПЗБ.

Эканамічны крызіс у Польшчы і Заходняй Беларусі ўсім сваім цяжарам лёг на плечы працоўных гораду і вёскі. Вось гэты крызіс і спрабуе адлюстраваць на канкрэтных вобразах тав. Пралеска.

Нічыпар, бядняк-селянін, які едзе на расьцяроб у лес, гэта цёмны, замучаны «ідыётызмам вясковага жыцьця» чалавек, пад пананаваньнем акупантаў. Жыве бедна, рад кавалку хлеба. Гэта чалавек, які рэдка ў жыцьці сваім бачыць салодкае. Ён лятуціць аб тым, каб хаця сахарыны было ўволю: «Сахарыны толькі мала—гэта праўда, але можна жыць... дома часамі да сьвята купіш пушачку сахарыны. Вось ужо папіваеш тады ўсёй сям'ёй. **Добрая рэч, гэтая сахарына, каб яе ня было, салодкага век не пакаштаваў бы**» (стар. 14).

Можна ўявіць ужо, як соладка жывецца Сьпірыдону і сотням тысяч такіх Сьпірыдонаў у Заходняй Беларусі і Польшчы.

«Лясное начальства», якое стаіць над Сьпірыдонамі (шафар, дзесятнік, лясьнік) усе стараюцца нажыцца на крывавых мазалёх гаротнікаў—рабочых і сялян. Цяжкае жыцьцё на лесараспрацоўках, супольнасьць лёсу рабочых і сялян, якія працуюць на паноў, зьнітоўвае іх у адзін моцны калектыў, здольны выступіць супроць эксплёататараў арганізавана і рашуча са зброяй у руках.

У вобразе ткача, аўтар выводзіць перадавога рабочага, які арганізуе забастоўку пільнікаў, дрывасекаў. Шлях ткача—шлях рэвалюцыйны. Дрывасекі пачынаюць разумець, што не разрозьненымі выступленьнямі можна зьнішчыць паноў і капіталістычную сыстэму. **Паноў трэба зьнішчаць гуртам!**

Рабочы-ткач уліўся ў грамаду. «За ім падыбаў Сьпірыдон. Ён азіраўся, хістаўся, ня бачыў роўнага шляху, па якім крочыў ткач. Алесь, наглядаючы ішоў побач, быццам зблудзіў, кідаўся ў бакі, хапеў забегчы наперад, але ня ведаў шляху, і прыблізіўшыся да ткача, ён патроху стаў разумець, што той шлях, па якім ішоў ткач, ёсьць адзіны, пэўны і толькі па ім прабярэшся праз расьцяроб» (стар. 21).

Ткач—гэта ўвасабленьне таго лепшага, што мае рабочая кляса Заходняй Беларусі. Гэта глыбокасьвядомыя пралетарскія рэвалюцыянэры, гэта самаахвярныя барацьбіты Заходняй Беларусі. Вобраз ткача ўдаўся аўтару. Ён застаецца ў памяці і выклікае да сябе гарачую сымпатыю. Верыцца, што за ім пойдуць масы сялянства, верыцца, што ткач здолее іх накіраваць у правільнае рэчышча клясавай барацьбы. Апавяданьне «На расьцяробе» паказвае нам наколькі клясавая дыфэрэнцыяцыя прайшла ў глыбіню і шырыню за апошні эдрэзак часу ў Заходняй Беларусі.

З аднаго боку маем пралетарыят і бяднейшае сялянства-серадняцтва, з другога вясковая буржуазія, памешчыкі і іх прыхвасьні. Барацьба крывавая, барацьба заццятая за дыктатуру пралетарыяту. Сьпірыдон, вярнуўшыся з лесараспрацовак, прывозіць у вёску перадавыя ідэі, якімі заразіў яго ткач і інш. рабочыя.

—«Мы значыцца слухалі рабочых,—працягваў Сьпірыдон—бо яны справу кажуць. І ня толькі гутаркі, але змагаюцца за праўду, не баяцца ні шафара, ні дырэктара і нават паліцыі не баяцца. Паны, шафар і дзесятнікі стралялі нас, што гэта камуністы, а мы і гаворым,—яны ідуць за нас, значыцца і мы з імі».

«Парабкі»—апавяданьне палітычна заві.странае, сацыяльна насычанае. Зьместам яго зьяўляюцца эпізоды з жыцьця маёнткавых парабкоў, лёс і жыцьцё якіх знаходзіцца ў поўнай залежнасьці ад панскай сваволі. Перажываньні гэтых—«40 сем'яў парабкоў з маёнтку пана Хахлоўскага» абуджаюць у савецкага чытача пачуцці ненавісьці да паноў,—эксплёататараў. Апавяданьне «Парабкі» гэта напамінае аб тых чорных днёх паншчыны, якая была калісьці ў былой расійскай імпэрыі і якая крыху вонкава зьмянілася ў сучаснай Польшчы, але сэнс і зьмест якой застаўся той-жа самы.

Месцам дзеяньня апавяданьня «Парабкі»—маёнтак у Заходняй Беларусі. Парабкі працуюць з раньня да вечара, за нікчэмную аплату. Іх б'юць, над імі зьдзекуюцца. Але час мяняецца, мяняюцца і людзі. Парабкі ня хочуць як раней гнуць сьпіну перад панам.

«Няма баязьні нават перад сваім панам, ня скідаюць шапкі, а даўней бывала, за вярсту... станавіліся на калені...»—гаворыць паўпанак-эканом. Ня той мужык стаў, ня тыя парабкі. Парабкі ідуць раіцца да рабочых з заводу, як лепш змагацца з панамі, бо «няма чаго чакаць ласкі пад панскім ганкам». Кульмінацыйны пункт у апавяданьні «Парабкі» заключаецца ў тым, што гэтая маса калісьці прыніжаная, зьбянтэжаная, якая ня мела магчымасьці пратэставаць супроць пана, баялася пана, скідала шапку, цалавала боты, зараз ідзе ў контрнаступ і абвяшчае забастоўку. Забастоўка сярод сельскагаспадарчых рабочых, гэта нешта новае і нязвыклае ва ўмовах маёнткавых адносін. Цівуны і эканомы, панскія прыхвасьні, на сьмерць перапалоханы гэтым здарэньнем. «Нібы цэбар вады хто ўзьліў на пана». І ня дзіва, бо ўсе разам кінулі працу на полі ў знак пратэсту, што пан ня плоціць за працу, не дае ардынарыі. Рабочыя з заводу дапамагаюць арганізаваць забастоўку парабкам. Вырасла клясавая сьвядомасьць сярод парабкоў. Яны зараз не скажуць на забастоўку «Ну, што гэта за барацьба? Кінуў работу і сядзі дома! Во, каб гумно, альбо сьвіран спаліць, пана ці эканома задушыць. Вось гэта адразу відаць».

Зараз парабкі ведаюць, што фашыстаўскі рэжым сам ня лопне, а яго трэба разьбіць.

Аўтар паказвае, як паступова, з якімі цяжкасьцямі сялянства ад анархічных выступленьняў пераходзіць да арганізаванае барацьбы.

Каштоўнасьць апавяданьняў у тым, што яны ў асноўным правільна адлюстроўваюць працэсы клясавай барацьбы ў Заходняй Беларусі, на даным этапе, правільн адбіваюць тыя зрухі, якія адбыліся ў вёсцы Заходняй Беларусі.

Ня нова там пачуць такія ча стушкі:

> Падрыхтуемся хлапцы,
> Каб зрабіць паном капцы.
> З намі пойдуць і кабеты
> Створым мы свае саветы.

Удала і сакавіта пададзены вяс ковы кулак, п'яўка, Касманожка. Удала паказаны вобраз Пятруся, які паступова вызваляецца з па уплыву кулака Касманожкі і ста новіцца на актыўны шлях барацьбы з горам-нядоляй.

У заключэньне трэба адзначыць, што апавяданьні напісаны шчыра, цёпла, але не хапае мастацкай вы разнасьці, шырокага мастацкага абагуленьня зьяў і рачаіснасьці Заходняй Беларусі. Аўтар част ўпадае ў «газэтны стыль» і з ма стацкага паказу пераходзіць на патэтыку і лёзунговасьць, чым зьмяншаецца мастацкая перака наўчасьць апавяданьня. Складаецца ўражаньне, што аўтар мал працуе над мастацкім словам. трэба больш упарта працаваць, каб мастацкае слова хвалявала на і выклікала жаданьні і волю да барацьбы, выклікала нянавісьць да эксплёататараў.

Малюнак з натуры—«Ліцытацыя нагі інваліда» не прадстаўляе мастацкага боку каштоўнасьці. Гэта артыкул для газэты і ў дан зборнік лепш было-б яго не зьмяшчаць.

Зборнік у цэлым пакідае добрае ўражаньне. Адчуваецца подых блізкай навальніцы ў Заходняй Беларусі. Героі ў апавяданьнях Пралескі не пасыўныя сузіральнікі барацьбы. Гэта актыўныя барацьбіты за лепшае заўтра. Апавяданьні паказваюць жудасныя малюнкі галечы і нэндзы, у якой знаходзяцца рабочыя і сяляне Заходняй Беларусі. У гэтым значна агітацыйная сіла і значэньне апавяданьняў тав. Пралескі.

**Алесь Салагуб**

# Хроніка

## Пяцідзесяцігадовы юбілей народнага паэта БССР Якуба Коласа

15-га сьнежня грамадзкасьць Менску ўрачыста адзначыла 50-цігодзьдзе з дню нараджэньня народнага паэты БССР—Якуба Коласа.

У будынку Дзяржаўнага тэатру быў наладжаны ўрачысты вечар, які адчыніў Нарком асьветы тав. Платун.

Доўгімі аплёдысмэнтамі заля сустрэла выбары юбіляра ў прэзыдыум. За сталом прэзыдыуму—прэзыдэнт БАН тав. Горын, акадэмік Замоцін, народны паэта Янка Купала, т.т. Платун, Клімковіч, Мятла, Рак-Міхайлоўскі, пісьменьнікі Чарот, Лынькоў, Галавач, Харык, прадстаўнікі ад заводаў і чырвонаармейскіх часьцей.

З вялікім дакладам аб творчасьці юбіляра выступіў тав. Бэндэ.

Прэзыдэнт БАН тав. Горын, вітаючы юбіляра, расказаў аб тым творчым энтузыязьме, аб «юнацкім парыве» наперад, з якімі Якуб Колас працуе на адказьнейшым вучастку сацыялістычнага будаўніцтва—у Акадэміі навук.

Янка Купала, 50-годзьдзе якога сьвяткавалася ў верасьні месяцы г.г., прачытаў верш, прысьвечаны Якубу Коласу.

Юбіляра віталі т.т. Лынькоў, яўрэйскі паэт Харык, Мятла і інш. Тав. Мікалаеў агаласіў прывітаньне юбіляру ад газэты «Известия», Аргкамітэту саюзу савецкіх пісьменьнікаў Украіны, РСФСР, Грузіі, ад пісьменьніка Бруно Ясенскага і іншых арганізацый і таварышоў.

— Адказная прамова Якуба Коласа была спаткана гучнымі працяжнымі воплескамі.

У заключэньне юбілейнага вечару адбыўся канцэрт, пераважна з твораў Якуба Коласа.

З поваду юбілею 15-га сьнежня газэтай «Зьвязда» выдана літаратурная старонка, прысьвечаная юбіляру, у якой зьмешчаны артыкул і верш Якуба Коласа, верш Янкі Купалы, прывітаньні ад Беларускай Акадэміі навук, Наркамасьветы БССР і Аргкамітэту Саюзу савецкіх пісьменьнікаў БССР, а таксама артыкул В. Барысенкі аб творчасьці Якуба Коласа.

Юбілею Якуба Коласа прысьвечаны два нумары газэты «Літаратура і Мастацтва».

19-га сьнежня ў Доме пісьменьніка адбыўся вечар—сустрэча Якуба Коласа з пісьменьнікамі і ўдарнікамі, закліканымі ў літаратуру.

Вечар адчыніў старшыня аргкамітэту С. С. П. БССР М. Клімковіч.

Выступалі з вітаньнямі т.т. К. Крапіва, П. Галавач, Ц. Гартны, А. Кучар, А. Усс—ад мастакоў, Юдэльсон, Стэльмах—ад Бел. ТРАМ'у.

Яўрэйскі пісьменьнік Ліўшыц прачытаў верш Якуба Коласа «Плытнікі», перакладзены ім на яўрэйскую мову.

З адказным словам выступаў юбіляр Якуб Колас, які падзяліўся ўспамінамі аб тым, як ён пачаў пісаць.

# Пратэст пісьменьнікаў БССР супроць суду на Б. Тарашкевічам

Пісьменьнікі БССР вынесьлі пратэст супроць фашысцкага суду над б. старшынёй Беларускай Работніцка-Сялянскай Грамады Баніславам Тарашкевічам.

У сваім пратэсьце яны пішуць:

„Мы, пісьменьнікі Савецкай Беларусі, падымаем свой голас, голас абурэньня і пратэсту супроць камэдыі суду над Баніславам Тарашкевічам. Мы патрабуем яго вызваленьня.

Мы заклікаем пісьменьнікаў усяго сьвету, усіх тых, каму дарага справа вызваленьня эксплёатуемых і прыгнечаных,—далучыць разам з намі свой голас да пратэсту мільённых мас рабочых і сялян БССР у абарону Тарашкевіча.

Прэч фашысцкі тэрор!

Волю вязьням капіталу! Волю змагару за вызваленьне працоўных мас—Баніславу Тарашкевічу!"

Пратэст падпісалі:

*Янка Купала, Якуб Колас, Андрэй Александровіч, М. Аляхновіч, З. Аксельрод, С. Баранавых, М. Багун, П. Броўка, Хв. Бужан, Л. Бэндэ, П. Глебка, А. Дудар, М. Зарэцкі, С. Знаёмы, В. Каваль, М. Клімковіч, А. Куляшоў, Р. Кобец, К. Крапіва, Т. Кляшторны, М. Лынькоў, Сьц. Ліхадзіеўскі, А. Ліпнёвы, М. Лужанін, Б. Мікуліч, Модэль, Р. Мурашка, М. Нікановіч, Ул. Стэльмах, Ю. Таўбін, М. Тэйф, І. Харык, Ул. Хадыка, М. Хведаровіч, М. Чарот, К. Чорны, С. Шушкевіч.*

---

Пры Наркамсьветы БССР адбыўся конкурс, прысьвечаны 15-й гадавіне Кастрычніка, на лепшыя літаратурныя, драматургічныя і музычныя творы.

За лепшыя літаратурна-мастацкія творы, якія вышлі на працягу 15-ці год Кастрычніка і спэцыяльна да сьвяткаваньня 15 цігодзьдзя Кастрычнікавае рэвалюцыі, прэміяваны:

ПА ЛІТАРАТУРНЫХ ТВОРАХ

Першай прэміяй—М. Чарот за „Босыя на вогнішчы", „Карчма" і „Сын партызана".

Першая прэмія і дзьве другія падзелены паміж:

а) т. Александровічам за „Напор", „Цені на сонцы", „Нараджэньне чалавека".

б) т. Галавачом за „Спалох на загонах".

в) т. Харыкам за „Менскія балоты", „Душой і целам", „Круглыя тыдні" (Асінстрой).

Трэцяй прэміяй—т. Зарэцкі за „Вязьмо".

Дзьве чацьвертыя прэміі падзелены паміж:

а) т. Броўкам—за „Каландры".

б) т. Кульбакам—за „Зельменьянцы".

в) т. Аксельродам—за „Чырвонаармейскія вершы".

г) т. Глебкам—за „Арка над акіянам" і „Арлянка".

Пятай прэміяй т. Бужан—за „Лясьнікі".

Пятая прэмія падзелена паміж:

а) т. Дзехцяром—за Апавяданьні.

б) т. Швэйдалем—за Апавяданьні.

## ПА ДРАМАТУРГІЧНЫХ ТВОРАХ

Першай прэміяй т. Кобец—за п'есу „Гута".

Першай прэміяй—т. К. Чорны—за п'есу „Бацькаўшчына" і раман „Бацькаўшчына".

Другой прэміяй т. Курдзін—за п'есы „Міжбур'е" і „Контратака".

Чацьвертай прэміяй т. Гурскі за п'есу „Качагары".

## ПА МУЗЫЧНЫХ ТВОРАХ

Першая прэмія па вялікіх музычных творах выдадзена т. Аладаву за „Урачыстую ўвэртуру", прысьвечаную 15-цігодзьдзю Кастрычнікавай рэвалюцыі.

Першая прэмія выдадзена т. Туранкову за хор „Перад будучынай".

Другая прэмія—т. Чуркіну за хор „Чырвонаармейская".

Трэцяя прэмія выдадзена т. Палонскаму за хоры: „Сасна" на словы Александровіча, „Аўрал" на словы Харыка.

З нескарыстаных па конкурсу сум прэміяваны:

Тав. Цікоцкі за музычнае афармленьне п'ес „Справа гонару", Плацдарм" і „Бацькаўшчына".

Т. Іваноў за музычнае афарленьне п'ес: „Новы Горад" і „Трывога".

◆ 20-га сьнежня ў Доме Пісьменьніка адбыўся творчы вечар К. Крапівы, з дакладам аб творчасьці якога выступіў акадэмік Замоцін.

◆ 10-га сьнежня грамадзкасьць Клімаўшчыны адзначыла гадавіну са дня арганізацыі Клімавіцкага філіялу саюзу савецкіх пісьменьнікаў.

Пад кіраўніцтвам райпартарганізацыі філіял за гэты час дабіўся значных посьпехаў у разгортваньні літаратурнага руху. На прадпрыемствах, па саўгасах, калгасах і навучальных установах Клімаўшчыны налічваецца 15 літаратурных гурткоў.

◆ 9-га сьнежня ў Клімавічах брыгадай С. С. П. БССР у складзе тав. Аляхновіча, Мальцінскага (яўрэйскі пісьменьнік), Шушкевіча і Казлоўскага быў наладжаны сумесна з Клімавіцкім філіялам літаратурны вечар.

◆ У Віцебск выяжджала брыгада пісьменьнікаў у складзе З. Бандарынай, М. Хведаровіча і П. Глебкі, якая пры ўдзеле мясцовага філіялу ССП БССР наладзіла літаратурны вечар, у якім прымалі ўдзел, апрача брыгады аргкамітэту, т.т. Ушакоў, Люгоўскі, Жалезьнякоў і інш.

◆ У Віцебск—Полацак выяжджала інтэрнацыянальная брыгада пісьменьнікаў у складзе т. т. Тэйфа, Гарцмана і Скрыгана.

Брыгада наладзіла шэраг літаратурных вечароў.

◆ 17-га сьнежня ў Менск прыяжджалі украінскія пісьменьнікі Астап Вішня і Дніпроўскі.

# Над чым працуюць пісьменьнікі

◆ ***Янка Купала*** перакладае з украінскае мовы «Кобзар»—Шэўчанкі.

◆ **Платон Галавач** працуе над аповесьцю «Праз гады» і піша зборнік навэль пра камсамол Польшчы і Заходняй Беларусі. Навэлі будуць друкавацца ў часопісі «Заклік».

◆ **Рыгор Мурашка** працуе над раманам «Сям'я Канонычыкавых» (назва ўмоўная) на тэму перарабкі сьвядомасьці рабочага. Адначасна піша апавяданьне «Шчча» пра клясавую барацьбу на вёсцы.

Здаў у друк кнігу апавяданьняў для школьнага чытаньня.

Перакладаецца на польскую мову зборнік апавяданьняў, якія выйдзе ў 1933 годзе.

◆ **Р. Мурашка, Р. Кобец і А. Вольны** здалі ў друк зборнік кіносцэнарыяў—«Тры сцэнарыі».

◆ **Янка Ліманоўскі** працуе над кнігай «Да гісторыі беларускага літаратурнага руху пасьля Кастрычніка» і над аповесьцю на абаронную тэму.

Здаў у друк кнігу для сэрыі «Беларускія пісьменьнікі ў школе», у якую ўваходзяць творы: «Вецер з Усходу», «Палоньнікі» і інш.

◆ **К. Крапіва** працуе над другою часткаю раману «Мядзьвэдзічы».

◆ **Рыгор Кобец** піша п'есу «Жанчына». Працуе над сцэнарыем па раману і п'есе Кузьмы Чорнага «Бацькаўшчына».

◆ **Пятро Глебка** рыхтуе для друку кнігу новых вершаў «Чагыры кірункі вятроў».

◆ **Янка Скрыган** піша кнігу апавяданьняў «Смага», з якіх чарговыя апавяданьні «Галіяф», Эльдорадо, «Яшчэ пра смагу» і інш. будуць друкавацца ў часопісе «Заклік».

◆ **Юлі Таўбін** піша вершаваную аповесьць «Доктар Батурын».

Здаў у друк кнігу выбраных вершаў «Лірыка. Эпос» і зборнік перакладзеных на беларускую мову вершаў Генрыха Гейнэ «Выбраныя вершы».

◆ **Уладзімер Хадыка** здаў у друк кнігу вершаў «Глыбокая Рочаць» і працуе над новымі вершамі.

◆ **Алесь Дудар** піша дзьве кнігі на тэму аб дарожным будаўніцтве і працуе над перакладам з нямецкае мовы «Фауст»—**Гётэ.**

◆ **Міхась Зарэцкі** піша сцэнары па свайму раману «Вязьмо».

◆ **Пятрусь Броўка** піша аповесьць «Сэзоньнікі» на тэму перар робкі сьветапогляду чалавека, які працуе на сэзоннай рабоце.

У Ленінгр. Выд-ве Мастацкай Літаратуры выйшла на расійскай мове ягоная аповесьць «Каланд ры».

◆ **Барыс Мікуліч** працуе над раманам «Дужасьць» на тэму ст фармаваньні псыхікі маладога п каленьня.

Здаў у друк асобным выданьнем п'есу «Рот фронт» і зборнік выб браных навэль «Думы пра по сту».

◆ **Сьцяпан Ліхадзіеўскі** здаў у друк кнігу нарысаў «Паўднёвая вахта»—з жыцьця чырвонафлётцаў Чорнаморскага флёту.

◆ **Ст. Шушкевіч** здаў зборнік вершаў у Дз. В. Б. Працуе над нізкай гумарэсак «Дзеньнік Раз кі».

◆ **М. Блісьцінаў** піша п'есу «Профіль».

◆ **Мікола Аляхновіч** здаў у друк кнігу «Літаратурны рух на Беларусі».

---

Адказны рэдактар—**Андрэй Александровіч**

Рэдкалегія—**Александровіч, Бэндэ, Глебка, Дзехцяр, Ляхаў**

Адрас рэдакцыі—Менск, Савецкая, 68, Дом пісьменьніка, 2-й паверх

---

Ун. Галоўлітбел № 1284 Заказ № 6—3000 экз. Гомель, „Палесдрук"

# ЗАКЛІК

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ НА 1933 ГОД

НА НОВЫ ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

ОРГАН АРГКАМІТЭТУ ССП БССР

РЭДКАЛЕГІЯ ЧАСОПІСУ:
т. т. АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ (адказны рэдактар)
Л. БЭНДЭ, П. ГЛЕБКА, ДЗЕХЦЯР, Р. КОБЕЦ, ЛЯХАЎ

## РАЗДЗЕЛЫ ЧАСОПІСУ

*МАСТАЦКІ* паэмы, вершы, песьні, апавяданьні, навэлі, аповесьці, драматургія.

*ГАВОРЫЦЬ КРАІНА* нарысы з фронту пабудовы сацыялізму, нарысы-ўспаміны старых бальшавікоў, нарысы-партрэты герояў-ударнікаў.

*КРЫТЫКА* артыкулы пра палітыку партыі ў мастацкай літаратуры, дыскусія пра творчы мэтад савецкага пісьменьніка і інш.

*ЛІТ. ВУЧОБА* асноўныя практычныя веды па пытаньнях літаратуразнаўства на канкрэтных узорах творчасьці.

*КУЛЬТУРНАЯ СПАДЧЫНА* у кожным нумары характарыстыка дарэвалюцыйнага беларускага пісьменьніка, мэмуары, дакуманты і інш.

ГІСТОРЫЯ ЛІТАРАТУРНАГА РУХУ Ў СССР.

АДЗІНЫМ ФРОНТАМ — перапіска аўтараў з чытачамі.

БІБЛІЯГРАФІЯ. АНАТАЦЫІ НА НОВЫЯ ВЫДАНЬНІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ. ЭПІГРАМЫ. ШАРЖЫ. ХРОНІКА.

У часопісу ўдзельнічаюць выдатныя сілы беларускай савецкай літаратуры і мастацтва, а таксама будуць зьмяшчацца лепшыя творы рабочых, калгасьнікаў і чырвонаармейцаў, закліка)ных у літаратуру.

У часопісу будуць зьмяшчацца лепшыя творы рэвалюцыйных пісьменьнікаў Захаду, а таксама творчасьць народаў СССР

АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, Савецкая, 68, Дом Пісьменьніка.

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ

